# Аляксей Пысін

Збор твораў у двух тамах

ТОМ

2



## Паэмы
## Творы для дзяцей
## Пераклады

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

ББК 84Бел7
П 94

Во второй том Собрания сочинений вошли поэмы, произведения для детей и переводы стихов Мусы Джалиля и Михаила Хонинова.

П $\frac{4702120202-169}{М 302(03)-89}$ 100—89

ISBN 5-340-00307-8 (т. 2)
5-340-00306-X



## ЖУРАЎЛІНЫ БЕРАГ

Зноў жураўлі вяртаюцца ў свой край
З міжкантынентальнага палёту.
Прымай цыбатых, Поліпень-балота,
Прымай чубатых, жураўліны рай!
Яны ў нас не бяздомныя прыблуды,
Яны... ну проста нашы жураўлі;
Яны прынеслі не зазімак люты,
Яны нам назвы, прозвішчы далі.
Па ўсёй зямлі вядомы Жураўлёвы,
Над студняю таксама — журавель.
Бяжы хутчэй туды, дзе лес яловы,
Дзе пахне дзераза і прэлы хмель;
І, можа, там пяро з адлівам шызым
Рукою нецярплівай схопіш ты.
А шнур парваны нізам,
                                        нізам,
                                                нізам,—
І блізка ўжо назяблыя кусты.
Унучцы дзед: «Праспалі мы, Наташа!»
Унучцы дзед: «А можа, пабяжым?
Ды не, калі пяро на выган ляжа,
То сілы чарадзейнай менш у ім.
Ты не сумуй, яшчэ сваё мы возьмем,
Яшчэ сустрэнем вырай не адзін».
Наташы — пяць, а дзеду — сорак восем.
Які ён дзед? Ні белых валасін,
Ні барады, ні горбу за плячыма,
Які ён дзед?
                                «Скажы, ты праўда дзед?»
Духоўскі усміхаецца: «Магчыма».
Шкада, дзядам не выдаюць білет,
Каб патрыярху роду — чэсць і слава...

Яшчэ ў армейскім званні, запасны,
І член кааперацыі, ДТСААФа,
І член дружыны, бо — без сівізны;
І ёсць білет аматара прыроды,
З Чырвоным Крыжам даўні пабрацім.
А хто засведчыць, што ён, безбароды,
Таксама дзед, а гэта — ўнучка з ім?

Унізе пад абрывам вапняковым
Плыла, бурліла вольная рака,
Нібы навечна з грузам ледніковым
Развіталася. Гладзь — ні астраўка —
Да самага паўкружжа гарызонта,
Дзе ледзь сінее макаўкамі лес,
Дзе небасхіл уздыбіўся высотна,
Калі пад ім пад воблака палез
Старчма
　　　　　знішчальнік з гулам рэактыўным,
З разрэджанай бялявай паласой.
Здавалася, што ў небе неабдымным
Плыве свой Сож пад пенаю густой.

Вада на лузе выспы намывае,
Варочае глухія валуны.
А сом вусаты, рыбіна нямая,
Ў дрымоце бачыць зваблівыя сны.
Тугі струмень штурхае ўпарта сома,
Пасоўвае уперад па жарстве,
І ён, глыбінны ўласнік крутаёма,
Як з кабінета вечнага плыве.
Святло зялёнае даходзіць скупа,
Зацішша — бы ў саборы векавым.
А злева, справа — абстаноўка з дуба,
Дуб мораны, не рушаны нікім.
Ляжаць дубы ў вадзе, пяску і гліне,
Ляжаць дубы на якарах сукоў;
Пасля, пасля, як гул паводкі схлыне,
Дуб дачакае строгіх леснікоў.
І седуны ў пыхлівасці нямой
На ўзняты скарб зайздросна пазіраюць.
А бачылі, як цяжка паміраюць
Дубы з галлём,
　　　　　　　　　карэннем
　　　　　　　　　　　　　і зямлёй?

Дол уздыхне над вадзяным вулканам,
І ледзьве адчувальныя штуршкі
Перадаюцца чуйным веліканам,
Дрыжаць мінулагоднія лісткі.
Павольна бераг мёрзлы асядае,
Падмыты апалелаю ракой;
І хіліцца няўмольна вось крутая,
Дубы хапаюць воблака рукой.
Цяпер увесь цяжар на верхавінах,
Хоць зябка, не згінаюцца яны,
І цягне груз пакутнікаў нявінных
Усё хутчэй у вырай ледзяны.
Спачатку толькі гул і шалясценне,
А грымне паднябесная сцяна
І спыніць Сож на нейкае імгненне,
Ваду наўзбоч расплёснуўшы да дна.
Канікулы на вуліцы вясковай,
Дарогі, сцежкі нізавыя — ўброд.
І дзед, загадчык школы пачатковай,
Наташу ўзяў з сабой на крыгаход
З адной умоваю катэгарычнай:
Каб самавольнай не было хады
Ні да паводкавай, ні да крынічнай
Прастуднай непадцепленай вады.
Для ўсіх у вёсцы ён — Алесь Пятровіч,
А ўнучцы — ну вядома — проста дзед.
Вялікі след і след маленькі поруч,
А там, дзе гразь,— адзін вялікі след.
Бы з вышыні птушынага палёту,
Ўвесь Журавель да канцавых сяліб.
Тут лепш ісці, трымаючыся плоту,
Пад блізкім позіркам відушчых шыб.
Грузавікі, як з добрай палівачкі,
І пешага, і конных абдадуць.
У ботах гумавых, нібы рыбачкі,
Даяркі хлюпкай вуліцай брыдуць.
Вады хапае і ў пустым карыце,
І капяжы адлічваюць да ста
Ў адну мінуту, а пявун, зірніце,
П'е з каляін, і ўжо ён без хваста.
Няма яму ні сораму, ні страху,
Ну хоць бы з вуліцы далей сышоў;
А можа, самы першы ён стыляга
Сярод курыных бойкіх жаніхоў?

Усмешкі сцёрлі: трэба пакланіцца
І добры дзень Духоўскаму аддаць;
Яны ж яго былыя вучаніцы,
Настаўніка умеюць паважаць.

А хтось Духоўскага чакаў на ганку
Пад правадамі ў бэзавым галлі.
Адкуль з'явіўся незнаёмы ўранку,
Бы жураўлі на крылах прыняслі?
Пагрэўся рана чаем у сталоўцы,
З аўтобусам найпершым — да ляску,
Налева — і па ельніку, ядлоўцу,
Па маладым лядку і халадку.
І не пытаўся, блізка ці далёка,
І не ўглядаўся, мокра ці лядок,—
Ступаў пружыніста і неяк лёгка
Былой армейскай вывучкі хадок.
Даваў нястомна здымкі для газеты,
Хоць дакаралі часта за шаблон,
Што аднатыпныя ў яго партрэты,
Стэрэатыпны вельмі фон і тон:
Усе даяркі над бітонам пенным,
Механізатар гнецца над рулём,
А птушніца абавязкова з пеўнем,
Мілуецца свінарка... з парасём.
Ён мужна адбіваў напад лятучак,
Вісеў над сівізной сакратара:
— Каго здымаць, скажыце,— беларучак,
Красунь на пляжы млявага Дняпра? —
Душой любіў вясковы фон няроўны,
Палёў і пералескаў плаўны тон,
І ведаў лепей ён у Прыдняпроўі
Любы раён, чым свой мікрараён.

Сышоў з прыступак мокрых. Прывітаўся.
— На Сож з дачкой хадзілі? Гулка там...
Духоўскі цёплай шчырасці паддаўся:
— Патрэбны ўсё ж пасведчанні дзядам!
Каб паказаў, і...— шчодра усміхнуўся.—
Відзён ты сам, засведчан гонар твой...—
Не зразумеў прыезджы, папярхнуўся:
— Я... фотакор... з газеты абласной.—
Знаёмства адбылося; разумеюць
Адзін другога раннія дзяды.

Яны дымком на цёплым ганку веюць,
І той дымок гайдае правады.
У доме госць. Сустрэла гаспадыня:
— Давайце чамаданчык, я прыму,
І распранайцеся: сняданак стыне.—
Госць дзякуе, не хочацца яму.
— Падлечым апетыт,— сказаў Духоўскі,
Дастаў бутэльку зыркага віна,
Усім наліў: без гэтай боскай роскі
Няхай не пачынаецца вясна.
Сышліся чаркі ў круг і разышліся,
Нібы ў балеце,— лёгка паплылі.
Нясі, вясна, расу, траву і лісце,
Рунь густапёрую
　　　　　　　　дай на палі;
Пусці вясёлых жаўранкаў у высі,
А белых лебедзяў — на сіні плёс,
Каб госці добрыя часцей вяліся
І каб ніхто не бачыў нашых слёз!

І крыху пацішэлая гаворка
Жвавей, жвавей, бы з горкі ручаёк.
— Наташа дзе?
　　　　　　　　Яна, нібы ваверка,
За комінам схавалася ў куток.
— Наташа?
　　　　　　Комін абняла, як ступу.
— Цябе здыму я!
　　　　　　　　Поглядам вачэй
Прасіла ў госця літасці:
　　　　　　　　　　— Не буду,
Не хочу! — паўтарала ўсё гучней.
Бабулька скеміла, у чым прычына,
Што наявло такі перапалох.
— Яна за доктара вас палічыла,
Калі ступіла толькі на парог,—
Баіцца ўколаў.
　　　　　　　Домна праз часіну
Унучку пасмялеўшую вяла;
Прыбрала ў белае, як балерыну,
І прычасала, стужкі запляла.
Стаіць дзяўчынка перад аб'ектывам.
Скуласты тварык. Зубкі — хоць лічы.
Прымерыўся фатограф хапатліва:

Усмешку б на партрэце зберагчы.
І вокліч захаплення: «Ёсць, парадак!»
Госць рад: «Такое фота — ў «Огонек».
Наташы захацелася аладак,
І пакацілася, нібы званок.
Хвала і слава фотаапарату:
Адбіў навечна зоркі аб'ектыў
І першы штурм, і звонкі марш параду
І паказаў усіх, якім хто быў.
Хіба віна яго, што ён цвярозы,
Паказваў часам нам уяўны бок:
Святую велічнасць раздзьмутай позы
І ўсе дэталі — люльку і дымок —
Навошчаных герояў балаганных
(Прасоўвалі у дзюрку галаву)
Пры шаблях, шпорах вострых і наганах,
З вачамі, ўзнятымі у сіняву?
Запомнім мы не іх, не вус кінжальны,
А тых, хто вёў на штурм
праз дым і гром;
Байцоў пад ручніком святой пашаны;
Даярку над напоўненым вядром;
Усмешку непадкупную Наташы
(Здымалася дзяўчынка першы раз);
Не ведаць ёй перажыванні нашы,
Бо над калыскай веяў іншы час.
А Домна думала: яна уласных
Не мела фотаздымкаў на ўспамін;
Ні школьных выпускных, ні нават класных,
З дзявочых вёснаў, хмельных, як язмін.
Хоць ведала, што многіх чаравала,
Трывожыла, пякла яе краса.
А твар — крыніца, рэчка адбівала
Ды яравая золкая раса.
Так паўстае вясною першы люцік
Адбіткам сонца
з лугавых нізін.

На тэму вечную: зямля і людзі —
Дыскусія звычайная ў мужчын.
Да з'яў жыццёвых падыход цвярозы,
Кіраўнікам няўцямлівым дакор.
І — спадзяванні, смелыя прагнозы.
Духоўскага пытае фотакор:

— Чый дом насупраць вас? Нібы васковы,
Бярвенні гладка выскаблены шклом.
Веранда. Вежа. Цацкі-надбудовы,
Вяртлявы флюгер, бы над ветраком,
Узоры ўсцяж карніза распіснога
І аканіцы — крылы матыля.
— Дом старшыні апошняга, былога,
Які сказаў: тут бедная зямля!
Былыя доўга не былі ў зямляцтве
З калгасам журавельскім: быў і сплыў.
І людзі помнілі найбольш дзівацтвы,
Якімі хоць няўдала весяліў.
Апошні... нуль-абруч каціў з падскокам
Па полі,
па гародах,
па лугах.
Аж спадабалася гульня сарокам:
Якая рысь, зайздросны крок, размах!
Сарокі так натхнёна шчабяталі,
Вітаючы спартыўны марш-парад...
Былі сарокі сыты, бо дзяўбалі
Ужо зазімкам скабы парасят.
— А дом пад флюгерам?
— Дом не кабыла,
Не павядзеш туды, дзе корм далі;
Яго Мар'яна Рудкіна купіла,
Як стаў саўгас у нашым Жураўлі.
З-за Сожа пасля нейкага ўрагана,
Што без партфеля выкінуў на мель,
У аддзяленне прыбыла Мар'яна,
Прыдбала дом і скураны партфель...
Адно ўтаіў Духоўскі перад госцем:
Той старшыня яму... за сваяка.
Пад флюгерам раздвоеным, двуххвостым
Жыла й Галіна — родная дачка.
Не хоча ўспамінаць зяцька-жанглёра,
Што скокнуў некуды на цаліну.
...Якія справы тут у фотакора?
Зняць новы клуб, даярак і вясну.

Сям'я Духоўскага. У грозным лесе
Збіралася, яднапася яна.
Прыйшла з сялібы Домна
да Алеся,

Калі жывых раскідвала вайна.
Студэнт нядаўні, камандзір узвода,
Ён ваяваў ужо з тае пары,
Як абстралялі немцы з кулямёта
Асенніх журавоў. Тады ў бары
Неадляцеўшыя рыдалі птахі,
Крычалі над палянаю пустой.
У Жураўлі дымкі сівухай пахлі:
У вёсцы паліцэйскі быў пастой,
Быў гарнізон. Да Домны прыліпалі,
Хацеў за жонку ўзяць яе сілком
Заборскі-паліцай. З дубровы перадалі,
Каб рушыла «да цёткі» з вузялком.
Так стала партызанскаю сястрою;
Прызнаўся у каханні ёй Алесь.
Быў загс у ягадніку пад сасною,
А сведкай шлюбу — Паліпеньскі лес.
Прасілася на ўсе заданні Домна,
Ішла ў разведку... А праз нейкі час
Лясны гушчар ёй стаў радзільным домам,
Кумамі — мудры дуб і ціхі вяз.
Свой вольны голас падала дзяўчынка,
Ў зялёным загсе Галяй нараклі;
Імя лясное пругкае — Галінка,
Галінка ў вечным трапяткім галлі.
Сваю Галінку пушча калыхала,
Спявалі партызанскія вятры;
Сваю Галінку неба умывала
Расой пад шорсткім ручніком зары.

Будынак фермы часам здасца школай,
Прыспешваюць даяркі часты крок,
Каб зліцца хуценька з гурмой вясёлай
І за спіной ужо... адчуць званок.
Хоць не заўсёды быў тады дастатак,
Рублю старому ведалі цану,
Але не беглі ў белы свет ад матак,
Ад паху дзеразы і палыну.
Сябе артысткамі не ўяўлялі,
Пасагам не лічылі атэстат
І часам не для слухачоў спявалі
Пра маці, ночку і вішнёвы сад.
Прасілі песню: завядзі ў садочак,
А прывяла ў «жаночы манастыр»...

Не нарадзіла ні сыноў, ні дочак
Пад сорак год Мар'яна-брыгадзір.
Была жанчына у бясплоднай сіле,
Пражылкі шчок пад колер бурака;
Яна на ферму свой партфель насіла,
Як вымя поснае
без малака.
Заўжды дзяўчаты ў чымсьці вінаваты,
Наклала вета на бяскрыўдны смех.
Калі б даяркам чорныя халаты,—
Манашкі, што пакутуюць за грэх.
Галіна ў вочы выказала тое,
Што ўсім карцела і язык пякло:
— Ад вашага характару, настрою
Ў кароў зімою кісне малако.—
Не даравала ёй Мар'яна гэта.
Загад з'явіўся і вымова за
Абразу і падрыў аўтарытэта.
(Ёсць самалюбства нават у казла;
Паверне порстка ў агарод з дарогі,
І чарада туды, на той жа след;
Саб'юць яму ў разбойнай шкодзе рогі —
Прапаў казёл, бо ўпаў аўтарытэт.)

Мар'яна да ўслаўлення вельмі ласа,
Умее паказаць свої твар усім,
А твар, як Месяц,—
у святле чужым,
Занадта лёгка слава ёй далася.
Даяркі першынство заваявалі,
Брыгада лепшая з усіх брыгад.
Мар'яну некалі з пастоў здымалі,
Цяпер здымае фотаапарат.
Даяркам паслухмяным загадала:
— К фатографу! Сюды, сюды бітон! —
І велічна па-над бітонам стала,
Дзяўчаты веерам — патрэбен фон.
Славута пушча дубам, вёска — клубам.
Пад буслам, пад сасною новы дом
Аддалі моладзі,— быў проста зрубам,
І зруб напоўніўся цяплом, святлом
Абжытым. Зіхатлівая пабелка
Шпітальнай белізны і чысціні.
Са сцэны вее фіміямам елка,

А сцэна
ад сцяны і да сцяны
З духмяных светлых дошак, як калыска
Пад белым полагам — на два бакі;
Калыска дрэмле, ды ўжо вечар блізка,
І ён рассуне полаг трапяткі.
Дзявочая уцеха — спеў баяна,
А хлопцы трызняць ракатаннем труб.
О, як размашыста намалявана
Над ганкам шыльда: «Журавельскі клуб».
Прыціх пад новай шыльдай Папялеўцаў;
Касыя літары, як журавы,
Падскокваюць, выкідваюць каленцы
І пачынаюць танец баравы.
Кругі расходзяцца і раздаюцца,
Кругі сплываюць. Літары ва ўпор,
У вочы Папялеўцаву смяюцца.
І вочы ён, збянтэжаны, працёр.
Калісь быў здатны сам да малявання:
Пісаў плакаты ў клубе палкавым.
Там навучыўся рыпаць на баяне,
Знаёмы быў з аркестрам духавым.
Дамоў вярнуўся ён
і культармейцам
Прадставіўся ў пагонах старшыны.
Іграў на вечарынках. Потым месца
Знайшлося напярэдадні вясны.
Ужо дванаццаць год у Міраволлі,
Сяле суседнім, носіць цёплы ключ
Ад клуба сельскага.
І ў гэтай ролі
Не ведае калдобінаў і круч.
Ёсць зона абслугоўвання,
ёсць карта:
Сем вёсак, тысяча і два двары.
У клубе зелянее луг більярда,
На ім пасуцца белыя шары.
Замерлі побач шахматныя коні,
Пад капытамі клетачны паркет.
Не, іх не возьмеш лютасцю пагоні,
Патрэбны воля, мудрасць і імпэт.
А Папялеўцаў без такіх паводдзяў,
І, каб не ведаць горычы няўдач,
Ахвотней да більярда падыходзіў,

І кій у бой пускаў,—
                    шары
                        наўскач
Ляцелі, быццам перакаці-поле,
Луналі, як дзіцячыя мячы.
Прыйшло прызнанне: на більярдным полі
Яго нікому
          не перамагчы!
Палаюць граматы у клубнай зале
Ў сасновых рамачках пад дзеразой;
Даўно яму Духоўскі за васала
І плоціць самадзейнасцю сваёй.
Любая урачыстасць: дзе Духоўскі?
Любы агляд: вядзе даярак ён,
З канцэртам папулярным — на ўсе вёскі,—
І сельскі клуб звініць на ўвесь раён...

Сустрэў Духоўскага з журбой і крыўдай:
— Алесь Пятровіч, дарагі, павер,
Нам трэба заадно...
                    — Пад гэтай шыльдай
Усюды выступаем мы цяпер.
Такога не чакаў: васал адбіўся.
Служыў слухмяна ён і стаў чужы.
З настаўнікам заходліва схапіўся,
Нібы на непадзеленай мяжы.
— З кім узгадняў і хто табе дазволіў
Такую шыльду дзёрзка маляваць?
Твая на школе шыльда. Насваволіў.
Ёсць клуб адзіны — сельскі, ў ім спяваць!
А хто пяе не з намі — той жа супраць,
За самазванства ты б адказваць мог...

Сказаў Духоўскі: — Не паказвай дурасць.
Яшчэ сказаў Духоўскі: — Дэмагог!
Наш клуб законнароджаны, грамадскі;
Добраахвотна я прыняў ключы
Загадчыка
          і клопат, абавязкі,
Зарплаты лішняе не беручы,
За справу сам вазьміся — дапаможам,
Не хочаш — то відаць адно — гультай.
І Папялеўцаў з выклікам варожым:
— Ты слоў такіх, Духоўскі, не кідай!

Адгаманіў суцішны час вячэры,
Над Сожам пацямнела сінява.
Заззяў святлом высокім клуб. На дзверы
Глядзіць з маўклівай просьбаю дзятва.
А ў зале ўжо не знойдзецца услона,
І хто вароніў,— стой бясплатна так.
Паехала на два бакі заслона.
Увага, пачынаецца спектакль.
На сцэне муж. Схуднелы. Нездаровы.
Відаць, што ён пакутуе даўно.
Перамяніў, як кажа, тры каровы,
А малако — ўсё кіслае яно.
Якое ліха?
Раіўся з суседзьмі,
Ну проста насланнё: ганьба і здзек.
Магчыма, тут пракудства злое ведзьмы?
Рагочуць бабкі: ў наш касмічны век?
І, мусіць, не знайшоў бы ён заганы,
Ды падказаў прайдошны нейкі дзед:
Прычына тут адна — характар Ганны,
Ніколі не смяецца — ў тым сакрэт.
Турботная сямейная задача:
Ну як жа бабу смеху навучыць?
— Паслухай Райкіна, вось гэта перадача! —
Смяецца сам да слёз, яна — маўчыць.
Успомніў Штэпселя і Тарапуньку:
На добры жарт, браткі, вы мастакі.
Стараліся. Ніякага ратунку.
— Зусім не смешна мне,— адказ такі.
Да жонкі з ласкай: — Мілая Ганyся,
Ўсміхніся, сонейка, хоць раз суцеш.—
Пачаў злавацца: — Сёння развядуся,
Такая ты да язвы давядзеш!
Усё рабіў, сто лекаў перабрана,
А што далей?
Развод,
развод, развод!
Аж нехта здзіўлена гукнуў: — Мар'яна!
І падхапіў раскацiста народ.
Тугія воплескі хадзілі ў зале,
Трымцела у падвойных рамах шкло.
Што гледачы далонямі сказалі,
Што даспадобы выбухной было?
Улёгся Сож пасля свайго разгулу

Ў крывое рэчышча пад вапнякі.
Бы не ачуўшыся ад шуму, гулу,
Падрыгвалі ў азнобе лазнякі.
Паводка лугу аддала плацдармы,
Адваяваныя ў глухой зімы.
Звон лотаці янтарны, уладарны
Над травамі, што ў рост пайшлі прамы.
Запунсавелі сарамліва смолкі,
Вільготныя ад блізкае вады.
У птушак з промняў і ліствы свісцёлкі,
Таму й пяюць па розныя лады.
А чаіца з кугіканнем тужлівым
Узмые ўвысь і кумільгна ўпадзе,
Галосіць у нізоўі над абрывам,
Усё бліжэй, бліжэй кагось вядзе.
Хто напалохаў, ад чаго трывога
І прадчуванне нейкае бяды?
З-пад Гронава, ад руму баравога
Ішлі па згону першыя плыты.
Нясе вада, і толькі адварочвай
Шастом непаслухмяную раку,
Ўсю глыбіню
ад выспачкі сірочай,
Ад жорсткага наждачнага пяску.
У хлопцаў смела мускулы іграюць.
Яшчэ не блізка гучны той «Го! — мель!».
З плытоў на стромкі бераг пазіраюць:
— Дай кісялю нам, вёска Журавель!
— А кісялю мы сёння не варылі,
Мы не чакалі гэткае куцці.
— То б на ўспамін што-небудзь падарылі,
Каб весялей да Гомеля плысці.
— Лавіце пацалункі нашы ў рэчцы
І не расплёскайце сваю любоў.
— Ля вашых ног мы пакідаем сэрцы.
— Дык вось чаму тут многа валуноў! —
Смяяліся дзяўчаты незласліва.
А плытагонам не было калі
Ў дасціпнасці спаборнічаць.
Шчасліва
Плыты далей ад берага плылі.
З сяброўкамі Галіна сустракала
Вясёлы караван. І з-пад рукі
Глядзела ўслед. Вось тут пускала

Купальскія нямятыя вянкі.
Вясна дзявочая. О, як багата
І фарбаў і святла пад сінявой!
Любая кветка — радаснае свята,
Любая кветка — радугай жывой.
З расою чыстай кветкі прыгарні ты
У зіхатлівы трапяткі букет,—
Засвецяцца сузор'і і блакіты,
У пераліўах радуг цэлы свет:
Напевы і няўлоўнае дыханне
Красы, ўсяму жывому не чужой,
Усплёскі водару і адчуванне
Таго, што нельга выказаць душой.
Любі! — жадае белая лілея,
Любі! — смяецца шчодры васілёк,
Любі! — рамонка-варажбітка млее,
Любі! — кранае музыкай званок,
Любі! — чабор залівіста палае,
Любі! — сухі падбел перагарэў,
Любі! — аб гэтым медуніца дбае,
Травінка кожная
і лісце дрэў.
Сцяжынка лугавая. Лес і поле.
Празрыстасць Сожа. Хваля на пяску.
І халадок сыпучы пад ступою.
След пад вадой. Маляўка ў тым слядку.
Малая рыбка.
Вось яна ў далонях
З вадою, несагрэтаю яшчэ.
Давер дзіцячы ў плаўніках павольных.
Няма трывогі, што вада цячэ
Струменьчыкам нязвонкім, безупынным,
Што абмялеў далоняў жалабок.
Не ведае, куды яе мы кінем:
На быстрыню ці на сухі пясок?
Плыві, маляўка, мы не ўскаламуцім
Тваю ваду ля рэдкай асакі,
Калі кашулю белую мыць будзем,
Каб весялей сінелі васількі.
Была любоў. Падсіненую яснасць
Нёс у вачах задумны Васілёк,
Наталін сын. Дзіцячая прыязнасць.
У школу разам клікаў іх
званок.

Адна сцяжынка, і адны урокі.
І снегіры — жар-птушкі — на вярбе.
Снягір — маўчун. Дражніліся сарокі:
«Жаніх з нявестаю». Няхай сабе...
«Жаніх з нявестаю»,— гадоў праз дзесяць
Сцвярджалі ўсе. Вяселлю б загрымець.
Васіль не ведаў, дзе бяду аб'ехаць,
Канём у лузе
ўз'ехаў ён на смерць.
Пярун зямны! Вайна ў нямецкай міне
Пятнаццаць год чакала жаніха.
І не вясельны стол, а дамавіну
Галіна ўбачыла. Боль і туга
Нясцерпныя
дзяўчыну спалатнілі,
У забыцці гукала Васілька.
Ёй сніўся дуб у жоўтым пілавінні
І жоўты твар суседа-лесніка.
Зноў
Старшыня другі. Прыехаў з Горак.
Яго
Галіна ўразіла красой;
Паабяцаў ёй залатыя горы,
Прываблівай: «Будзь жонкаю маёй».
Казалі людзі: выскачыла з гора,
Дуду прыдбае на сваю бяду.
І зразумела маладуха скора:
Шукала броду — скочыла ў ваду.
Кірэйчык бляск любіў ва ўсякай справе:
Без аксаміткі не ступаў нідзе,
Заўважыць парушынку на халяве,
Прыгнецца — тут жа глянец навядзе.
Падчас дзяліўся з жонкаю даверам:
Галоўнае — пасада і аклад.
Узяўся будаваць князёўскі церам:
Дармовы лес
і цесляры з брыгад.
Сасновы церам, быццам дамавіна,
Вачам, грудзям дыхання не стае.
Свайго імя не чула ўжо Галіна,
Празвалі старшыніхаю яе.
— Скажы, як будзем жыць мы,
старшыніха,
Нулі пустыя ў торбу забяром? —

І чулася ёй: ліха,
                                        ліха,
                                                  ліха,
А новае імя пякло таўром.
Сустрэў яе без позіркаў суровых
Бацькоўскі дом, дзе ў любасці расла.
Пайшла на ферму да былых сяброўак,
Сваю віну і сорам прынясла.

Мар'яна неўзлюбіла. І карала
Усё часцей Галіну. Да яе
Зноў падступала: — Расцвіла ты, краля,
Ды справы незайздросныя твае.
Дарэмна мужа кінула так хутка:
Расце Наташа — і патрэбен ён...

Заняты рукі, і далёка хустка,
Слязінка пакацілася
                                              ў бітон.
Мар'яна быццам бы не заўважала,
Нібыта ёй няведама зусім,
Чаго вядро бляшанае дрыжала,
Мо сапраўды цяжар вялізны ў ім?
Галіна ўвачавідкі зразумела
Удар Мар'яны — ўбачыла руку,
Што ў сэрца ёй здаля пускала стрэлы
З пяром спагады. Ўспомніла дачку.
І наплыло — як першы раз адчула
Тугое нецярплівае біццё.
Пад самым сэрцам. Так да слёз кранула
Мар'яна.
                  — Не, вымову мне дасцё,
Калі скажу я вам чыстасардэчна,
Якая вы. Не білі б хоць знарок.
Пакіньце ж турбавацца недарэчна
За лёс дачкі маёй і ўсіх дачок.

Знадворку падужэўшыя прамені
Ўгіналі шыбу пругкасцю святла.
Галіна ў незвычайным выпрамленні,
Бы ў аднаўленні, строгая была.

Духоўскаму пісьмо ад фотакора:
«Пара гарачая, і мноства спраў.

Даруй, Алесь Пятровіч, што не скора
Я фотаздымкі гэтыя даслаў.
Партрэт Наташы — рэдкая удача,
Ў часопісе ён будзе без прыкрас.
Наташа хай за комінам не плача,
Калі прыеду я ў наступны раз».
Духоўскі са сцяны здымае рамку
Сямейную — сярэбраны багет;
Стаўляе ўнучкі дарагі партрэт
Пад звонкасць шкла.
Смяшлівую бялянку
Род даўгавечны
ў цесны круг прымае,
Ўступаюць месца ёй франтавікі.
Наташа тут наследніца прамая;
На здымках побач юныя дзядзькі,
Сыны Духоўскага. Адзін салдатам
На пагранічнай строгай паласе,
Другі сягоння там, дзе свойскі атам
Святло высакавольтнае нясе.
— Чакай, не вешай — вытру я пылінкі.—
Стаяла Домна з тонкім ручнікам;
Але к вачам паднесла — мо слязінкі
У маці навярнуліся тайком?
...Пісаў Алесь Пятровіч дзелавіта
Пра ўсё, чым вёска дыша і жыве,
Як луг цвіце, як гоніць трубку жыта,
Як плешча Сож разгульна па жарстве.
Кругі гайдаюцца на плёсах сініх,
Гадуе рыбу шчодрая рака;
Не зробіць тут паклонаў лішніх спінінг,
Каб выхапіць на бераг шчупака.
Малюе ўдачу вобразна і ярка
І просіць фотакора пагасціць.
З навін: Галіна — старшая даярка,
Мар'яна вучыцца кароў даіць.

Ляціць цыстэрна па пяску і гліне
І пудрыць пылам чэзлы вербалоз.
Звініць цыстэрна. Двое у кабіне.
Куды спяшаецца так бензавоз?
Шафёр бязвусы ў вопратцы вайсковай,
Відаць, нядаўна з арміі. Прад ім
Аздоблены букетам палявым

Партрэцік Валянціны Церашковай.
А побач спадарожнік нецярплівы,
Паголены, святочны, не стары.
Ён адганяе парушынкі пылу,
Бы парушынкі тыя — камары.
Не спавядаўся Папялеўцаў прама,
Як разбурыў сямейны свой ачаг.
Але з людзьмі жывеш, і тая драма
Бы адбывалася пры гледачах.
Хадзіць па госцях меў ён завядзёнку,
Не шкадаваў капейкі на банкет,
Да чаркі прывучаў красуню-жонку,
І быў абед без чаркі не абед.
Мужчына п'е — пажар яшчэ над дахам,
Жанчына п'е — гарачь ужо вуглы.
Не адвучыў ні ласкаю, ні страхам,
Лячылі дактары — не памаглі.
Цяпер Галіну меў ён на прыкмеце,
Хацеў не бабылём сустрэць зіму;
Хоць удава — раўня любой нявесце.
І канчаткова вырашыў — вазьму!
Пражыты век спіны яму не горбіць.
Старэй на год пятнаццаць? Ёсць рэзон:
Няхай лепш застанецца, чым не хопіць,
Аднойчы ўжо адчуў нястачу ён.
Грыміць цыстэрна. Ёмкая канаўка
Падкінула.
— Не растрасі, шафёр! —
Ўсміхнулася з партрэта касманаўтка:
Маўляў, намнога спакайней ля зор.
З-пад колаў певень спуджана ўзлятае,
З пясчаным шлейфам коціць бензавоз.
З кабіны Папялеўцаў выглядае,
Шафёру:
— От сюды, да дзвюх бяроз.—
Пераступіў парог Духоўскіх,
дома,
Дзе ён ніякі госць і не сваяк.
Удачы пажадаў сабе самому
І падбадзёрвае сябе ўсяляк.
Вось Папялеўцаў прывітаўся звонка
І папяросы порстка дастае
Духоўскаму, бо важная гамонка:
— Закурвайце, мы людзі ўсё ж свае.

Забудзем тую спрэчку, а не сварку.
Ідэі, справе служым мы адной.
Магчыма, і падымем разам чарку,
І будзем паважанаю раднёй.
Акрылены надзеяй і жаданнем,
Ён пачынае з ходу, напрамкі:
— Галіну не прынізіў заляцаннем,
Прашу ў яе павагі
і рукі,
Ўпусціла гаспадыня несвядома
Руплівае жаночае шыццё,
Перабірае, складвае тканіну,
Не стукае машына.
А біццё
Ў грудзях мацней, мацней,
нібы у птушкі,
Калі над ёй каршук
Звужае круг.
Аднойчы ўжо
пасажныя падушкі
Былі ў слязах дачкі,
Быў мулкі пух.
Тры позіркі нямыя
Скіраваны,
Нібы адзін прапіклівы пагляд,
Тры позіркі прамыя
Скрыжаваны
На тым, хто сам жаніх і смелы сват.
Глядзіць Духоўскі ў вочы: што ён меле,
Сказаць такое — хіба ў забыцці.
Ты часам, чалавеча, не з пахмелля,
А можа, й праўда просішся ў зяці?
Адчула боль даўнейшы той
Галіна.
Ён не ўтаіцца ў зманлівай цішы,
І нельга ёй маўчаць, сказаць павінна,
Што думае, што мае на душы.
Жаніх наперад падаецца троху,
Чакае ён адказу, каб трубіць
Адбой паспешлівы ці перамогу,
І чуе словы:
— Гэтаму не быць!
Як час ляціць, пяўтольны час Галіны,—
Ці так даўно віталася з вясной?

Часцей бываюць гэткія часіны,
Калі адна са споведдзю сваёй,
Калі не ўтоіш дум, трывог сардэчных,
Таго, што ў падсвядомасці, як сон.
Ужо чарнее на градзе сланечнік,
У дзень святочны ўдоў суцешыць ён.
Чакаюць печага (краса старэе)
І лушчаць семкі пад галлём густым.
Жаноцкае чаканне — латарэя,
Што шчасце абяцае не усім...
Рыпіць паром сасновы пад вазамі,
І тыя кветкі, што вясной цвілі,
Павіслі на лазе (лаза з вусамі),
З вадою быстрацечнай паплылі.
Цямнее гулкі Сож пад берагамі,
Раскалыханы жорнамі віроў.
Шпакі ўзнімаюць сетку над лугамі,
Лысее лес пад подыхам вятроў;
Бярэмамі — сухая пазалота,
Звініць блакіт у зрэджаным галлі.
І паднялося
Поліпень-балота
На пругкіх крылах.
— Мама, жураўлі! —
Пусцілася Наташа ўсцяж абрыву,
Пад цень, пад свіст птушынага крыла.
— Ты не ўпадзі,— Галіна гаварыла,
Дагнала і на рукі узяла
Сваю дзяўчынку — вырай шчабятлівы,
Сваю дачку — малое птушаня.
У бераг білі хваляў пералівы,
Курлыкала скразная вышыня.

*1964 г.*

## КАВЫЛЁК

Раскажу я вам, унукі,
Ды не казку, а быль.
Хто з вас ведае, скажыце,
Што такое кавыль?
Рос калісьці ён усюды
На маўклівай цаліне.
А расказ мой пра вярблюда,
Пра вярблюда на вайне.

Не за дальнімі гарамі,
А бліжэй — па гэты бок —
Папаўняўся на Урале
Запасны гарматны полк.
Кожны дзень у нас вучэнне:
Ваяваць — патрэбна ўменне,
Каб без промаху
Біць па ворагу,
Не паліць дарэмна пораху.
Скажа камандзір: «Выдатна!»,
Калі ты страляеш трапна,
Бранябойным падаб'еш
Танк, што выйдзе на рубеж.
Вельмі дрэнна — недалёт,
Вельмі дрэнна — пералёт,
Падвядзе няўмека фронт.
Падышоў да вартавога
У будзёнаўцы башкір
І пытае нават строга:
— Хто таварыш камандзір?
Вартавы размоў не любіць:
— Тут, дзядуля, не базар:
Ну куды вядзеш вярблюда?
Адыдзі пад ясакар!
Дзед на хлопца наступае:
— Што ж, па-твойму, я шпіён?
Я ў самога, брат, Чапая
Ў бой вадзіў свой эскадрон.
Маю ордэн за геройства,
На мяне ты не крычы.
Цяжка нашым там, на фронце,
Я хачу дапамагчы.

Сам стары я, не вайсковы;
Вось вярблюда аддаю,
Ён вынослівы,
здаровы,
Службу ведае сваю.

Так застаўся з намі
Верблюдок.
Мы яго назвалі
Кавылёк.

У абозе папаўненне,
Ў строй становіцца вярблюд.
Толькі коні ў недаўменні:
Што яму патрэбна тут?
Гарачыцца конь буланы:
— З гэткім горбам ты — у строй?
Дабраволец ці прызваны,
А ці проста на пастой?

Конь пярэсты збоку глянуў:
— Не твая, браток, вярста:
Ані выпраўкі, ні стану,
Ані грывы, ні хваста.

Ты, хітруга, вельмі ласы
На казённыя прыпасы,
На армейскі правіянт,
І, напэўна, сімулянт?

— Доўга будзеце смяяцца?
Што благога вам зрабіў? —
І пачаў вярблюд плявацца
Так, што вочы заляпіў.

Коні голавы схілілі,
Адчуваючы віну:
І чаго не падзялілі,—
Разам пойдуць на вайну.

* * *

То па полі, то па лесе
Эшалон
Бярэ разгон.

І вярблюд таксама едзе,
У вярблюда свой вагон.
Пакідае стэп і лета,
Кавыля сухога звон.
Едзе, едзе без білета —
На вайсковай службе ён.

Ад байцоў яму пашана,
І на станцыі любой,—
А ці позна, а ці рана,—
Ўсе к яму наперабой:

— Кавылёк, Кавылёк,
Пасмакчы сухарок.

Носяць сена: — Кавылёк,
Гэта твой паёк!
І — з брызентавым вядром:
— Вось вады мы набяром.
— Кавылёк, Кавылёк,
Ну яшчэ адзін глыток...

Едзе, едзе Кавылёк,
Едзе тыдзень, едзе два...
Ой, кавыль-кавылёк,
Горкая трава.

* * *

Паласа прыфрантавая,
Паравоз адпачывае.
Выгружаюцца салдаты,
І спускаюцца на дол
Танкі, коні і гарматы,—
Войска, войска навакол.
Запрагайся,
Кавылёк,
У гарматны
Перадок.

* * *

У танках смуглыя танкісты,
Каля гармат
Артылерысты.

На маршы крочыць
Кавылёк,
Гармату цягне
Вераблюдок.
Каляіны —
Бы ў пустыні,
Гарады —
Адны руіны.
Дрэвы звалены,
Вёскі спалены.
Толькі прысак
Ды жарства,
Пажаўцела
Ўся трава.

* * *

Вось сустрэча дык сустрэча,
Конь буланы цягне воз.
— Добры вечар!
— Добры вечар!
— Ты, напэўна, вадавоз? —
Здзекліва вярблюд пытае,
Аж губу ён скапыліў:
Не забыта крыўда тая,
Як з яго буланы кпіў.

Дзеці беглі на дарогу,
Ўсе глядзелі як на цуд.
Век не бачылі такога,
Каб сігаў тут сам вярблюд.
Сваё веданне яны
На хаду паказвалі:
— Хто у Афрыцы?
— Сланы.
— А вярблюд?
— У Азіі.

— Ты адкуль?
— З Уральскіх гор.
— А навошта
Носіш горб?
— Горб не лішні на спіне,
Горб патрэбен на вайне,

Горб — мой рэчавы мяшок,
Што набіт па вузялок.

* * *

Размясціліся ў ляску
Пры дарозе-бальшаку.
Самалёт фашысці «рама»
З чорным крыжам на баку.
Кружыць
Над прывалам
Прама,
Выглядае, што ў ляску?
Свіст жалезны,
Немы віск —
Паляцелі
Бомбы
Ўніз.

Нібы ў час землетрасення
Скалыхнуўся наш лясок.
Сосны падаюць з карэннем,
Трэскі,
Гліна
І пясок.

Дзе вярблюд?..
Ён не хаваўся,
Не задаў ён лататы:
Каля кухні затрымаўся
І агледзеў там катлы.
«У вялікім, мусіць, суп,
Ды не густа штосьці круп».

Каля кухні соль стаяла,
Галаву ён — у мяшок.
І — зусім турботы мала,
Што скупы ў байцоў паёк.
Для вярблюда соль — ласунак,
Самы лепшы пачастунак.

І не бачыць, і не чуе,
Як зеніткі рвуць блакіт;
Сам сябе вярблюд частуе,
Нагаияе апетыт.

Соль упляжыў бы да дна,
Ды з'явіўся старшына.

Пасля солі Кавылёк
Выпіў цэлы ручаёк.
І выходзіць — дзве бяды:
Ані солі,
Ні вады.

* * *

Ноччу свой рубеж знаходзім,
На пярэдні край выходзім.
За акопамі — равок,
Там застаўся Кавылёк.

Чутна ў цемрадзі густой —
Вартавы гукае:
— Стой!
Устрывожаны салдаты
І — хутчэй за аўтаматы.

— Не страляйце, панікёры,—
Кажа камандзір з дакорам,—
Навастрыце лепей зрок,
Гэта ж наш Кавылёк!

А вярблюд бяжыць з падскокам
Проста на пярэдні край.
Можа, ранены асколкам? —
Паспрабуй тут угадай.
Праз акопы ён сігае,
З відавоку ўжо знікае.

Што здарылася з вярблюдам,
Ад чаго перапалох?
Пад гарэлым чорным дубам
Ён на вожыка прылёг.

Лёг на вострыя іголкі,
А яны ўпіліся ў бок,
Як пякучыя асколкі,
І — ўсхапіўся Кавылёк.

І не чуў ён, як гукалі
Нашы хлопцы наўздагон.
Потым...
            немцы напаткалі
І забралі у палон.

— Ты, напэўна, перабежчык,
Уцякаеш ад сваіх?
А магчыма, ты — разведчык?
Гэй, паклічце вартавых.

Афіцэр у акулярах
Даў каманду абшукаць.
Настаўляе свой ліхтарык,
Каб было усё відаць.

Добра зубы палічылі,
Моцна ў вушы патрубілі,
Горб абмацалі старанна —
Можа, рацыя схавана?

— Дзе служыў ты: ў кавалерыі,
Сувязі ці артылерыі?
І якія ёсць гарматы,
Ці падвезены снарады?
Колькі лыжак у палку,
Колькі супу ў кацялку?

І за тое, што маўчаў,
Біць фашыст яго пачаў.
І выносіцца прысуд:
— Пойдзеш у абоз, вярблюд!

* * *

Можа, тыдзень, можа, болей,
Кавылёк ужо ў пяволі.
Хоць пры кухні служыць ён,
Ды не дадзен рацыён:
Ні крупінкі,
Ні сцяблінкі,
Ані макавай расінкі.

Повар выдумаў дазнацца —
Дзесяць сутак ці пятнаццаць

Без вады і без травы
Будзеш ты, вярблюд, жывы?

Кавылёк не еў, не піў,
Што загадвалі — рабіў.
І такі ён стаў слухмяны,
І дагодлівы, старанны.

Не спыняецца у возе,
Шэсць разоў ваду падвозіць,
Цягне кухню палявую
З тылу на перадавую.

І гагочуць немцы: — Гут,
Мы ў Сахары, мы ў пустыні,
Возіць нам абед вярблюд,
Горача — абед не стыне...

У дарозе повар дрэмле,
Знае ён: вярблюд не зверне
Ні направа, ні налева,
Не зачэпіцца за дрэва.

Дрэмле повар на світанні,
Ён сягоння недаспаў:
Быў у Фрыца на гулянні,
Імяніны той спраўляў.

Едзе кухня,
Едзе кухня,
Ані стукне,
Ані грукне.

Міна дзесь бабахне зрэдку,
Россып кулямётных трас.
Ні з разведкі, ні ў разведку
Не ідуць у гэткі час.

Кавылёк ужо сігае
Па нейтральнай паласе.
Хай фашысцкі ўзвод чакае,
Кухню ён не ім вязе.

Едзе кухня,
Едзе кухня,

Ані стукне,
Ані грукне.

А што, повар, табе сніцца?
Хай табе прысніцца рай.
Коціць, коціць калясніца
Ды на наш пярэдні край.

Падхапіўся немец сонны,
Лыпае — няўжо не сон?
Абхітрыў вярблюд палонны,
Кухню ўзяў у свой палон.

Падымае немец рукі,
Немец Гітлера кляне:
— Засталіся дома ўнукі,
Пашкадуйце вы мяне!

Так вярнуўся Кавылёк
У гвардзейскі родны полк.

* * *

Цераз рэчку пераход,
Каму — рэчка, каму — брод.
Вораг сілы ўсе сабраў,
Не пакінуў пераправ.
Знішчаны усе масты,
Не плывуць даўно плыты,
І ля берага, вядома,
Ані лодкі, ні парома.

Над ракою, над вадой
Пачынаем зранку бой.
Ледзь сышоў туман світальны
З прыбярэжных паплавоў —
Сігануў агонь знішчальны
Можа, з тысячы ствалоў.

Мы з бярвенняў плыт зляпілі
І гармату ускацілі.
Пад абстрэлам, пад агнём
Мы на бераг той плывём,
І плывуць артылерысты,
Пехацінцы, сувязісты.

Рэчка стогне і гудзе,
А вярблюд уброд ідзе,
Дастае нагамі дно,
Крамяністае яно.

Цяжка ранен наш наводчык,
Памутнелі ў хлопца вочы.
Зараз пойдзе ён на дно,
Паратунку не відно.

Кавылёк, Кавылёк,
У цябе шырокі крок,
Паслужы нам, даўганогі,
Замест «хуткай дапамогі»!

На спіне сваёй гарбатай
Вынес Кавылёк салдата
З той кіпучай быстрыні,
З той бурлівай глыбіні.

Пасля бою — час прывала,
Дом разбіты без акон.
— А каго вядуць з падвала?
— Бач, здаліся у палон
Штаб фашысцкі і ўся світа.
Вельмі важныя чыны;
Для парадаў былі сшыты
І мундзіры, і штаны.

Насцярожыўся адразу
Пахудзелы Кавылёк,
Бо не шмат мінула часу,
Як ад немцаў ён уцёк.

У кампаніі палонных
Пакідаў штабны падвал
Пры ўсёй форме і пагонах
Ваяўнічы генерал.

Столькі бляску, столькі глянцу,
І такі парадны ён,
Бы цяпер на пагулянцы,
Проста робіць мацыён.

Кавылёк глядзеў, глядзеў,
Быццам вымавіць хацеў:
— Ты з падвала?
Я — з Урала,—
Плюнуў ён на генерала.

Хтосьці хоча ўжо смяяцца,
Гледзячы на той мундзір.
— Перастань, вярблюд, пляваццa,—
Строга кажа камандзір,—
Твой учынак — непрыстойны,
Трэба ж ведаць добры тон:
Генерал — у нас палонны,
Не ваюе болей ён.

* * *

Лета.
Восень.
І зіма.
Кавыльку
Няма
Пісьма.

Снег на ўсе дарогі лёг.
— Ёсць пасылка, Кавылёк!
Кавылёк,
Не сумуй,
За пасылку —
Патанцуй!

Скача, скача
Кавылёк,
Скок ды скок,
Скок ды скок.
Адчувае
Рытм
І такт,
Скача гэтак,
Скача так.

Батарэя плешча ў ладкі,
Заахвочвае імпэт:
Каб абуўся ты у тапкі,—

Вось бы даў кардэбалет!
— Хопіць, адпачні часінку,
Атрымай сваю пасылку!

Адмысловая пасылка,
Не мяшэчак
І не скрынка.
Паштальён — з абедзвюх рук —
Уручае
Сена цюк.
Туга, туга спрасавана,
Па баках перавязана,
І — адкуль яно прыслана —
Не загадка,
Не сакрэт:
Не забыў
Вярблюда
Дзед.

* * *

Ехаў маршал Ракасоўскі
Па дарозе франтавой
Міма спаленае вёскі,
Дзе заціх нядаўна бой.

Кавылёк шагаў на маршы,
Перамешваў снег і бруд.
І спыніўся раптам маршал:
Скуль узяўся тут вярблюд?

Не ва ўзводзе і не ў роце:
Ён адзін такі на фронце
І на ўсёй на ўсёй вайне —
Воін з горбам на спіне.

— Дзе вярблюда вы ўзялі,
З Каракумаў прывялі?
Далажыў наш камандзір:
— Не, прывёў стары башкір...

— Дзякую, вярблюд, за службу,
За адвагу і за дружбу.
Ну ваюй, ваюй, вярблюд,
Хутка Гітлеру капут!

Кавылёк шчаслівы быў:
Сам жа маршал пахваліў.

* * *

Шмат было яшчэ прыгод,
І закончыўся паход.

Мы з баямі наступалі,
Адбівалі,
Вызвалялі
Сотні гарадоў, мястэчак,
Перайшлі нямала рэчак,
Сухадолаў і раўнін,
Штурмам узялі Берлін.
За салютам быў салют,
Па Берліне йшоў вярблюд.

* * *

На радзіму, на радзіму! —
Абвяшчае паравоз.
І кладуцца кольцы дыму
То на поле, то на плёс.

Чуцен колаў перабор:
— Адкрывайце семафор!
І спяваюць рэйкі:
— Пераводзьце стрэлкі!
Эшалон бярэ разгон,
А ў вярблюда свой вагон.

Едзе, едзе Кавылёк,
Едзе тыдзень, едзе два.
Зелянее кавылёк —
Сухадольная трава.

*1964 г.*

## БЕЛЫ КАМЕНЬ

А я на беразе Сакмары,
Далёка ад дубоў Дняпра.
Звіняць над плынню ясакары —
Святліста-гладкая кара;
Не ясакары — самавары,
І трубы, трубы — з серабра.
Трымціць распаленая дымка,
Вось-вось расплавіцца пясок,
На камень упадзе і дзынкне
Сухі падсінены лісток.
Ад духаты паўдзённай горка,
Паветра ные і зямля.
Хай пачакае гімнасцёрка —
Ужо адмыю апасля
Ад шэрага зямнога пылу,
Наждачнай ржаўчыны дратоў,
Ад едкай слодычы трацілу
І ад сямі маіх патоў.

Вядзе, вядзе мяне Сакмара
У халадок,
                    на глыбіню,
Нібы шаноўную радню
На добры чай пасля базару.
І панясла, і закружыла,
Адчуў я прыцягненне дня;
Калісь цыганка варажыла,
Што пад вадой мая труна.
Абвялі рукі. Сэрца млее.
Няма чым дыхаць. А ўваччу
Ўсплываюць радугі, лілеі...

А можа, сон, і я крычу,
Гукаю, ды ніхто не чуе,
Не ўскалыхне мой страшны сон?
Набатам у імглу начную —
Крыві стамлёнай часты звон...
На паварот лягла Сакмара,
Бліжэй да берага
                                    струмень.
Перада мной цень ясакара,

І я чапляюся за цень;
Не бачачы пясчынак белых,
Не чуючы жарствы зямной,
Цягнуся на жаданы бераг,
Паўзу, як даўні прашчур мой.

Аул уроскід пад гарою.
Хацінкі-мазанкі. Плятні.
Ступаю вуліцай крывою,
Як госць
                без блізкіх
                                  і радні.
Пячэ мне вуліца падэшвы,
Пячэ мне вуліца душу:
«Я па забітых галашу.
Адзін, адзін адтуль ідзеш ты».
Даруй, аул, даруй, дарога,
Стэп палявы,
                        стэп тылавы,
Не дакарайце сёння строга,
Што я жывы,
                        яшчэ жывы.

Мяне татары дапыталі:
— Чаго шукаеш тут, салдат?
— На адпачынак... Са шпіталя...
Пуцёўку даў... ваенкамат.
Стаю, нібы на медаглядзе,
Пад пільным позіркам барод.
— Такіх не ўбачыш на парадзе,—
Гаворыць хтось.— Ну як там фронт?
Бязбровы старшыня калгаса
Рашэнне вынес, як прысуд:
— Перадаю цябе Ніязу,
Бяздзетны ён і знойдзе кут.

Зацята курым самасейку,
Ні папярос, ні цыгарэт.
Мой гаспадар дастаў жалейку,
Мой гаспадар дае канцэрт.
Па-свойску хтосьці ўжо расказваў,
Нібы легенду мне паднёс,
Пра незвычайны лёс
                                  Ніязаў

І ўсе дзівацтвы.
У мароз
Ён басанож павольным шагам
Хадзіў у горад і назад;
А сведкі —
быццам за Алахам:
Бутэлькай спірту
быў заклад.
Знутры сагрэўшыся па-руску,
Каб аж да пятак прыпякло,
Ніяз
зубамі
на закуску
Малоў бутэлечнае шкло.
Скрышыўшы зубы да карэнняў,
Усё часцей свісцёлку браў
І ёй
адной
ён давяраў
Міраж прыгод, забаў, здарэнняў,
Журбу гадоў утаймаваных,
Растрачаных гарачых сіл
І ўсё, што ў стэпавых туманах
Сышло,
сплыло
за небасхіл.
Нявесела свісцёлка грала,
Ў ёй столькі болю і тугі,
Нібыта босая ступала,
А да Урала —
ўсё снягі.
Хачу пабыць на адзіноце.
Пустыр. Без агарожы двор.
Плылі ў няяркай пазалоце
Мільёны невядомых зор.
Якія там сузор'і свецяць,
Глядзяць
у глыб
дняпроўскіх вод?
Пражыўшы цэлых дваццаць год,
Я ведаў толькі дзвюх Мядзведзіц.
Чаму яны не успаілі
Мядзведжым лютым малаком,
Каб я сваёй не ведаў сілы,

Каб мог
        давераным
                штыком
Спыніць,
        падняць
                і прэч адкінуць
Чужынца, што ў той дзень ступіў!
Ды бачу я: і зоркі гінуць,
І маладзік свой серп ступіў.
А за сцяной свісцёлка пела
Аб чымсьці ўжо немаладым.
Ляцелі зоры — снег мой белы,
І — босы
        я
                на снезе тым.
Няма куды пісаць мне пісем:
Ў агні і дыме адрасы,
А сам часова я прапісан
Да злой вярблюдавай расы,
Да горкіх траў, да дзікай мяты
І пасівелых палыноў.
Стэп непачаты,
                непрымяты
Дарма чакаў сваіх сыноў.
Падай, Ніяз, пакуль не поўдзень,
Бугурусланскую касу,
Мы удваіх з табою пойдзем
Збіваць
        вярблюдаву
                расу.

Не косы нам далі, а вілы.
Дзве лабагрэйкі паплылі.
Пшаніца — лавай. Небасхілы
Над лавай
        бронзава
                гулі.
Не бачыш спелых краявідаў,
Бярэмя каласоў — і ўзмах,
Гушчар павалены адкідвай
Трызубцам вострым, што ў руках!
А левая ужо заныла,
Знямелі пальцы, як тады,
Калі лягла паблізу міна

І я аслеп да нематы,
Паплыў у белай каруселі
Насілак і шпітальных сноў
Аж да Урала.
                    Мы прыселі
Каля нявязаных снапоў.
Ніяз прыдумаў перадышку
У часе ранішняй смугі:
Няхай абвянуць коні крышку,
Бакі ў іх ходзяць, як мяхі.

Брыгадны стан. Кацёл брыгадны.
Дымок дрыготкі ў сіняве.
Дагнала Бібінур. Спагадны
Адчуў я позірк на сабе.
Яна пляменніца Ніязу,
Яна яму — нібы дачка.
А мы знаёмы з таго часу,
Як тут жыву. Гудзе рука;
Каб правая —
                    не ўзняў бы лыжку
(І чым суцешыўся, дзівак).
Пад краснаталам у зацішку
Абед — нязменны бішбармак.
Выкатваецца ў добрай форме
Лабасты
          выспелы
                    кавун;
Хоць саступі, а то падгорне
І падамне, нібы валун.
Гарэзна Бібінур смяецца;
Ўзняў
          сіняву нажа
                    Ніяз,
Скрылямі надзяляе нас,
І саладзейшым свет здаецца.

Звініць дарога, бы экватар,
Блішчыць сінявы чарназём.
У гарадок на элеватар
Зярно,
          як золата,
                    вязём.
Валы ступаюць нетаропка,

Няма валам трывог і бур.
Вунь Бібінур. Як гэта добра,
Што едзе з намі Бібінур.
Трапеча
вогненна хусцінка
На возе, што перада мной.
Гляджу я на цябе, дзяўчынка,
Ты адчуваеш позірк мой?
Прашу маўкліва: азірніся
Ў імгненне гэтае, а не,
Гукну цябе,— ты адгукніся,
Ўсміхніся
без спагады
мне.
Валы лянівую паходку
Не зменяць: тут жа —
пад гару.
Чакай, я поўную пілотку
Табе чарэшань набяру.
Лясок над рэчкай. Пераправа
Дыхнула блізкасцю вады.
Чарэшні навісаюць млява,
Даспелі ўжо да чарнаты.

Я даражу яе сяброўствам,
Яе даверам даражу.
Даўно лічу сябе дарослым,
Па многім страчаным тужу.
Але расказваць я не стану
Пра ўсё, што зведаў на вайне,
І часам так здаецца мне:
Калі у вочы толькі гляну,
Яна жахнецца у зняменні,
Яна збянтэжыцца на міг,
Убачыўшы нямыя цені
Сяброў маіх,
сяброў маіх...
Не бойся, любая, не бойся,
Я не ўстрывожу твой спакой,
Нясі ў вачах сваіх нябёсы
З іх сінявой
і чысцінёй;
Хай лёгка ў іх плывуць аблокі
І свецяць крылы матыля...

Мне Бібінур дае урокі
Татарскай мовы.
Вучань я.
Бы пачынаю жыць нанова,
Вучуся гаварыць.
Я рад,
Што назаўжды запомніў слова
Людской удзячнасці —
рахмат.
Рахмат маўкліваму аулу
За хлеб пададзены і соль,
Зямному стэпаваму гулу,
Што суцішаў тугу і боль.
Рахмат дзядам за іх махорку,
За праўду строгую і лад
І тым рукам, што гімнасцёрку
Палапілі,—
рахмат,
рахмат!
Пяе саратаўскі гармонік,
Вядзе ён
маладзёжны круг.
Далоні юныя ў далонях,
У поціску сяброўскіх рук.
Вянок жывы ў жывым спляценні
Ў вячэрняй зябкай сіняве.
Хусцінка ў блізкім аддаленні
Пялёсткам
макавым
плыве.
Да танца гэтага не здатны,
Я пазнаю яго душу.
І вось у вечар мой астатні
Я на пялёстак той гляджу.
У змроку сілуэт дзявочы
Знікае і святлее зноў.
Жадаю ўсім лагоднай ночы,
Жадаю нетрывожных сноў.
Паспелі рана мы паснедаць.
Сказаў Ніяз:
— Узяць бы воз,
Ды на валах туды не едуць,
Дзе нас чакае
не абоз.

Ніяз, як бацька, благаслаўляе:
— Гняздо, дзе птушка, не буры,
Чужой пушынкі не бяры,
А смерць — прад смелым адступае.

Спякала неба глыбінёю,
Гусцела марыва смугі.
Ля пераправы
за сабою
Адчуў я порсткія шагі.
Спыніўся. Бібінур стаяла,
Ў руках трымала вузялок.
— Вазьмі вось... маці гатавала.
Цябе я ўбачыла здалёк
І ледзь дагнала... ледзь дагнала...
Аж сэрца б'ецца ад хады.
Няхай жа
будзе
час прывала
Ля гэтай ранішняй вады,
Ля камня белага.
Сакмара
Змывала ярасна з пяску
Цень плямісты — цень ясакара,
Нібыта рыбіну луску.
Луска звінела, трапятала,
Вадзе ніяк яе не ўзяць.
А мне дзвюх моў і слоў замала,
Каб нешта простае сказаць.
Паром гайдаўся. Расставанне.
І ў міг апошні я прашу
Нібы ўзаемнага прызнання:
— Ты мне напішаш?
— Напішу.
...Гукала станцыя гудкамі,
А я глядзеў на бераг той,
Дзе кожны дзень, як белы камень,
Як белы камень над вадой.

*1965 г.*

## КАРА

Жанчына білася ў зацятым жалі
З адчаем кнігаўкі. І як маглі
Суседкі-ўдовы Ганну суцяшалі:
— Бяда на ўсіх — і нашы там ляглі.—
І абнадзейвалі:— Прапаў без вестак —
Яшчэ не значыць, што забіты ён;
Тут можна варажыць і так, і гэтак,
Магчыма нават — трапіў у палон.

Аўхім Гулькоў дайшоў з палком да Проні,
Да заўтрашніх світальных пераправ;
Аддаў кустам вінтоўку і патроны...
Прысяга? Так, прысягу ён прымаў.
Ён з фронту ўцёк і ўцёк ад трыбунала,
Засопшыся, ўваліўся ў рэдкі бор;
Сягаў, як быццам рота даганяла,
Каб споўніць неадкладны прыгавор.
Суцішыўся пад дзірваном зямлянкі,
Але заснуць у забыцці не мог;
Каляным і марозным здаўся мох
Ля вугалькоў пакінутай стаянкі.
Яго чакала кара па закону
Часоў вайны. І пад зямлёю тут
Ўяўляўся палявы вайсковы суд
І ўсё, што будзе трызніцца да скону.
На досвітку сасонкі ракаталі
Пад бранявым крылом штурмавіка.
Трывогі ўцекача не пакідалі;
Перавярнуўся б зараз у ваўка,
У крумкача... І жыў бы ў гэтым лесе,
Пракляўшы чалавецтва і вайну.
Асіна шчабятала: «Ты павесься,
Тады даруе свет табе віну».
Перабіваўся з ягад на арэхі.
Калі ж пачаў жаўцець сцюдзёны лес,
Пацёгся ў вырай пад людскія стрэхі,
Пастукаў ноччу ў шыбу.
— Ты ўваскрэс? —
Гаспадара жанчына сустракала
У адной кашулі. На парог вяла.
Яна, нібы нявеста, расцвіла;

Вайна жывых не часта адпускала.
— Забіты я... Забіты, пахаваны,
Не ўбачу больш ні свету, ні сяброў.
Давай да дня памінкі справім, Ганна.
Мяне шукалі тут? Ці сын здароў?
Дастала жонка моўчкі спавяшчэнне,
Што ёй прынёс нядаўна паштальён,
І не стрымала слёз і галашэння.
— Дзіця разбудзіш,— зазлаваўся ён.
— Не радуе мяне твае вяртанне.
І што людзям скажу я? Страшна мне.
— Было ў мяне такое прадчуванне,
Што куля першая не абміне.
Не б'юць так гада лютага і звера,
Як чалавека.
Ўвесь агонь зямны,
Усё жалеза — у руках вайны.
А дзе ж упэўненасць, надзея, вера,
Што выжывеш?
— Вярнуўся б хоць калекам.
Без рук, без ног — і то лягчэй ліпець.
Сярод людзей ты быў бы чалавекам,
Людзям у вочы мог бы ты глядзець.
Каму цяпер твае патрэбны рукі?
Ужо не возьмеш ты вясною плуг,
З касой не пойдзеш на зялёны луг,—
Не суцяшэнне нам прынёс, а мукі.
— Не люба чуць тваю жальбу і скруху.
Я не герой, не Мурамец Ілья;
Ёсць пахавальная? — Нябожчык я.
Падай сяннік, падушку і дзяругу,
Іду ў магілу.
Золак вераснёвы
Спякаў са стрэх і шыбы абдаваў.
Аўхім спускаўся ў пограб той дубовы,
Што сам пасля вяселля будаваў.
Даймае неадступная загадка,
Баліць спякотна ў Ганны галава.
І хто яна? Ні жонка, ні салдатка;
Ні жонка,
ні салдатка,
ні ўдава.
Ніхто не ведае пра лёс Аўхіма
(Засведчыў страту пісар палкавы);

І лічаць мёртвыя, што
лёг ён з імі,
Што з імі лёг пад дзёран палявы.
Пад абеліскамі гусцее сетка
Нясееных учэпістых раслін.
На цэлым свеце толькі Ганна сведка
Таму, як уваскрэс
з усіх адзін.
Вось тут сядзеў суцішна у застоллі.
З пасагам мерцвяка адплыў на двор.
І зразумела Ганна мімаволі:
Яна адна — суддзя і пракурор.
Вылазь, Аўхім, на волю з падзямелля,
Вылазь, Аўхім, ты дачакаўся дня!
Даруйце, людзі, што судзіць не ўмее,
Што плача горкімі слязьмі суддзя.
Яна судзіць не ўмее і не можа,
На сэрцы камень, і судзіць не ёй,
А ні радня, ні бацька не паможа,
Адна — з нязбаўнай тайнаю сваёй.
Да дна пагасла сінява азёрная,
Сплыліся цені ў паласу імглы.
Высока пралятае птушка чорная —
Два чорныя бясшумныя крылы.
Яшчэ відаць ёй сонца, што спускаецца,
Відаць асветлены парог зямны.
Без крыку птушка чорная спяшаецца
Над залатою макаўкай сасны.
Прыціхлая вячэрняя ваколіца
Ўжо з небасхілу зорку дастае.
А птушка позняя трывожна гоніцца
За сонцам, што ўцякае ад яе.

Семнаццаць год употай з сутарэння
Аўхім на птушку чорную глядзіць;
Няма ў яго ні крыл, ні апярэння,
І ён услед за сонцам не ляціць.
Ён аблысеў, як дзедава калена,
Ісусава бародка — жмут сіўцу.
Яму — аратаму,
касцу,
сяўцу
Даўно нішто не руціць. Недаўменна
Спахопіцца, ніяк не можа ўцяміць,

Хто ён,
        дзе ён,
                чаму заўсёды змрок?
Натужліва аслабленая памяць
Выкатвае былога вугалёк.
І вугалёк, раздзьмуханы ўспамінам,
Засвеціцца, штось выхапіць з начы.
...Суседскі плот. Антонаўку над тынам
З вясны ўзяліся шэршні сцерагчы.
Рабрыстыя, рудыя б'юць з байніцы —
Ў бярозе знізу шчыліна-дупло.
Хтось з хлапчукоў уздумаў падражніцца:
Салому падпаліў — і загуло,
Зарагатала полымя ў той ступе,
Аж іскры на гумно. Суседка — ў плач.
Рыжабароды ўз'юшаны Кудлач
Пагнаўся за Аўхімам неадступна...

Было ў Падгор'і свята.
Акт прымалі
На вечнае валоданне зямлёй.
Гармонікі рыпелі. І — грамамі
Ўздыхалі бубны. Ў садзе пад ліствой
Сталы арцельныя стаялі густа,
Ў баранавальшчыкаў асобны стол.
Скакалі чаркі. Райская закуска —
Зялёны яблык і ахвярны вол.
Каціўся з саду яблык недаспелы
Ў нягрэшную хлапечую руку.
Аўхім пасалавелы, пасмялелы
Ганусю цалаваў у вішняку...

Бяда з-за Буга ў касцы выглядала,
І данясло вся водгулле грымот.
Перакаціўся праз Падгор'е фронт,
Тады Ганися сына ўжо чакала.
Аўхім павёў у тыл рыкасты статак,
Цягнуў ён пугу ўслед за бугаём.
Застаўся пад Унечай з пугаўём,
З распіскаю вайсковай без пячатак.
З тым пугаўём прабіўся з акружэння.
З'явіўся першы ён з усіх мужчын.
Вітаў Аўхіма добрым плачам сын,—
І апраўданне тут і суцяшэнне.

Круціўся тата на стаптанай пятцы
Між двух агнёў. Гукнуў да помсты лес.
«Які цяпер з мяне ваяка, братцы?»
Аўхім на печ з аглядкаю палез.
У сорак трэцім гнала перамога
Вайну на захад. Райваенкамат
Пазваў Аўхіма ў войска. Ён, салдат,
Змяніў акоп на пограб.
З часу тога,
З тае пары ўцякае ад пагоні —
Не год, не два, а ўсё яшчэ не ўцёк.
Тугая скатка, плоскі кацялок,
І на плячах не крылы, а пагоны.
Дыханне сцята, і не скінуць скатку,
Спаўзла абмотка, кацялок грыміць,
Няўклюдны цвік балюча муліць пятку.
Прыцерці б цвік, абмотку падкруціць...
Святлее вечар, ці — ужо дасвецце?
У пограбе калодзежнае дно.
Даўно ўжо птушкі чорнай не відно,
Усеўся сыты месяц на павеці.
Не месяц ён — Кудлач рыжабароды:
— Здароў, Аўхім! Суседа не забыў?
Павер — з табой мы аднае пароды,
Дарма тады цябе, малога, збіў.
Даруй, сусед, не ўсё мой розум ведаў,
Не яблыкі шкадую, не сады;
Я ваяваў, як мог, супроць Саветаў
З вінтоўкай тою, што пакінуў ты.
Дзе я цяпер? Гляджу з-за акіяна,
З-за чорных хмар... Сядзі, Аўхім, сядзі;
Табе на белы свет выходзіць рана...
Бывай, суседзе!
— Згінь ты, прападзі! —
Хіхікнуў месяц і паплыў к рабінам.
Гул кананады стогне у вушах.
А за спіною хлопец [redacted] карабінам,
Таропіць ён Аўхіма: «Шырай шаг!»
Насустрач войска. Пыльныя пілоткі.
Гарматы. Танкі. Дымныя ствалы.
Абозны конь рагоча на ўсю глотку:
«Глядзіце — дэзерціра павялі!»
Бязлюдная спякотная часіна,
Нідзе ні следу, хвалямі пясок.

Аўхім пазнаў у канваіру сына:
— Ты ўжо салдат... Сустрэліся, сынок...
Дазволь прысесці... Я падбіўся крыху...
Сынок, сынок... Быў бацькам я... благім.

. . . . . . . . . . . . .

Ў сваёй магіле паміраў Аўхім.
Ніхто не чуў апошняга уздыху.

*1966 г.*

## ДЗЯЎЧЫНКА МАРЫЯМ

Адыход
Красавіка,
А на дрэвах —
Ні лістка.
Гэта ў нас. А вось на поўдні
Зелені і кветак поўна.
Быццам дываны пасланы —
Ярка ўспыхнулі цюльпаны.

Можа, трэба вам букет?
Прыязджайце у Ташкент:
Тут дзяўчынка Марыям
Кветкі паднясе
Сябрам.

Вочкі чорныя і бровы,
Тварык смугленькі, здаровы,
Цюбецейка на касічках,
У палосачку спаднічка.

* * *

Шмат людзей сабрала плошча,
Залаты фантан плюскоча;
Можа, горача, спякотна? —
То астудзіць ён ахвотна.

А па кругу — гляньце толькі —
Едуць тройкі, тройкі, тройкі.
Ззяюць дугі распісныя,
Мчацца коні выязныя.
Выязныя коні,
Беленькія поні.
Лейцы Марыям трымае,
Тройку, тройку падганяе.
Цюбецейка на касічках,
У палосачку спаднічка.

Паспяшалася дамоў,
Накарміла галубоў.

Дзе арык цурчыць пад тынам,—
Паспрачалася з паўлінам.

* * *

Прытаміла ножкі днём
І заснула моцным сном.
Па сцяжынцы між палёў
Сон павёў яе,
павёў.

Пад гарою, на паляне,
Водзяць карагод цюльпаны,
Чаравічкі ў іх — зялёныя,
Самі — вогненна-чырвоныя.

Б'юць паклоны:
— Марыям,
Спадабалася ты нам,
Будзь, смуглянка, нам сястрою,
Пойдзем мы гуляць з табою.

Сонца свеціць, сонца грэе,
Халадок з цясніны вее.
А захочам мы напіцца —
Ўнізе рэчанька бруіцца.
На світанні мы спяваем,
Сонейка вітаем,
Як узыдзе,— мы танцуем,
Сонейка віншуем.

Раззлавалася гара:
— Прэч усе з майго двара!
Вы не сонцу — мне павінны
Урачыстыя пець гімны.
Захадзіла хадуном,
Дыша дымам і агнём.
Узняла скалу гранітную —
Пацямнела высь блакітная.
Кінула скалу здаля —
Пахіснулася зямля.
Хваляй падняло дзяўчынку,
Панясло, нібы пясчынку,
Аж за свет занесці можа...

Хоча крыкнуць — ды не можа,
І прачнулася ў знямозе,
У няведанай трывозе.

Гул і тупат,
Гул і тупат.
Трэск і грукат,
Трэск і грукат.
Ні пасцелі, ні падушкі,
Чорныя над садам птушкі.

* * *

На пасту
У час світання
Дзед Садык на скрыжаванні
Са свістком і строгім жэзлам
У пагонах старшыны
Дыхаў свежасцю і бэзам,
Добрым водарам вясны.

А чаму, як па сігналу,
Дрэвы птушак пасагналі?
Што пачулі вы, чынары?
Што вы знаеце, сады?
Можа, страшнага пажару
Ці другой чакаць бяды?
Пракаціўся гул нясцерпны,
Скалыхнуўся дол зямны,
Скрыгнулі каменнем сцены,
Апаўзаюць каміны.

Грымнулі ўжо рыштаванні,
Друз і шкло — на скрыжаванні.
Гмах насупраць разгайданы,
Асыпаецца карніз.
Цягнуць людзі чамаданы,
Ўсе спяшаюцца уніз.
Ходзіць глеба пад нагамі.
Адзываецца штурпікамі.

Дзед не бачыў век такога:
На душы ў яго трывога —
Як жа дом?

Што
      дома там,
Як унучка Марыям?
Ясна без паведамлення:
Ў горадзе землетрасенне.

Санітарныя машыны
Мчацца, аж дымяцца шыны,
Трубяць, трубяць трывогу:
Дайце,
         дайце дарогу.
Не спыняецца напор,
З жэзлам дзед, як дырыжор;
Да абвалаў і руін
Скіраваў ён шмат машын.

* * *

Каля доміка былога —
«Хуткая
            дапамога».
Устрывожаны ўрачы:
Каму трэба памагчы?
Аварыйныя брыгады
Узялі з сабой лапаты:
Тут абвал нядаўна быў,
Мусіць, шкоды нарабіў.

Марыям стаіць — смуглянка
Просіць:
            — Доктар дарагі,
Паглядзіце вы на ляльку —
Засталася без нагі.
Стол пачуў, сцярпець не мог:
— Нават дзвюх не маю ног.
Стогнуць крэслы:
                        — Мы калекі,
Тэрмінова дайце лекі!
Лямантуе двесь будзільнік:
— А чаму не пабудзілі?
Енчыць дзядзька Файзула:
— Ці не бачылі казла?
І пачулі ад Гафура:
— Збегла са двара скульптура.

У смуглянкі цяжкі ўздых:
Не вярнуўся дзед Садык...

Стаў аўтобус на прыпынку,
І чакае ён дзяўчынку.
Падступілася к дзвярам.
— Куды едзеш, Марыям?
— Да гасцініцы «Ташкент»,—
На пасту застаўся дзед.

Смела Марыям ступае,
Свайго дзеда адшукае:
Як стаіць ён на пасту —
Вусы бачны за вярсту.
Дзеда па такой прыкмеце
Кожны ведае ў Ташкенце.

Вось гасцініца «Ташкент»,
А тут дзед
ці не дзед?
Вусы быццам бы не тыя,
Ўжо не чорныя —
Рудыя;
І фуражка не такая,
Ўжо не белая —
Рудая.
Дзед угледзеў Марыям,
Дзед гукае ўнучку сам:
— Марыям, Марыям!
Зараз змену перадам!
Дзед запылены, мурзаты,
Нібы ў чымсьці вінаваты;
Так старанна, так сумленна
Цішыню ўначы бярог,
Толькі вось землетрасення
Папярэдзіць ён не мог.
Як грымела, як гуло,
Дзеда пылам абдало.
Сціхлі ў горадзе сірэны,
Дзед вяртаецца са змены.
— Ну расказвай, што там дома?
— Ўжо няма, дзядуля, дома.
Калі толькі стала трэсці
І пасыпаліся трэскі,

Мы ў садок тады са страху,
Паглядзім — ні сцен, ні даху.
Гэта мама так сказала,
А сама тады я спала...
Дзед Садык на дрэва глянуў,—
Дзед Садык усхваляваны.
— Дзед, што бачыш на платане? —
Ціха Марыям пытае.
— Страсянуліся лісткі,
Зараз будуць зноў штуршкі.
Вестку аб землетрасенні
Дрэву
        падаюць
                карэнні.
І прадказванне збылося:
Загрымела,
            затраслося.

* * *

Хай сабе расстросся дом,—
Можна спаць і пад кустом.
А пакуль дзеля парадку
Дзед Садык прынёс палатку,
А другую — сын Імам,
Трэцюю — унук Хаям.
Ад сцяны і да сцяны
У палатцы дываны.
Ёсць насценны каляндар,
Ёсць сямейны самавар.

У палатку свеціць зорка —
Тут сямейная гаворка.
Тата кажа:
            — Наш завод
Не спалохаўся грымот.
Усяе бяды і толькі —
Столь і сцены без тынкоўкі.
Потым мама гаварыла:
— Школа ў стане аварыйным;
Заўтра школа будзе ў парку,
Там паставілі мы парты.

* * *

Шмат бядот. І шмат нягод.
Марыям ідзе ў абход.
І спыталася найперш:
— Як ты, яблынька, жывеш?
— Так трымцела, так баялася,
Моцна за зямлю трымалася.
Непакоюся і зараз:
Можа, абляцела завязь,
Чым тады цябе, малую,
Я увосень пачастую?

На ўзгрэве каля дрэва
Раптам яшчарку сустрэла.

— У трывожную пару
Я пакінула нару:
Я раней усіх пачула
Тое набліжэнне гулу.

А чаго паўлін журботны,
Гэткі сумны і маркотны?

— У мяне урон няпросты,
Бачыш — я зусім бясхвосты:
Калі тросся —
Не ўбярогся,
Мала пер'я
Засталося.
— Падыдзі хоць на хвілінку,—
Папрасіў арык дзяўчынку,—
Глянь — дарожка прада мною
Ўся засыпана жарствою;
Не прайсці і не пралезці,
Не магу
вады
я несці.
А чакаюць жа вады
І гароды і сады.
Марыям ступіла крок:
Тут лапату б ці савок.
Ды ў дзяўчынкі дзве рукі:
Падымае камякі,

Смецце, друз —
На два бакі.
І ачысціла яна
Арычок зямны да дна.
І пабег струмень вады
У гароды і сады.

* * *

Школьную ўсю гаспадарку
Можна бачыць добра ў парку.
Тут прасторы вельмі многа:
Неба — столь,
Зямля — падлога.
На траве пасталі парты,
На суках павіслі карты.
На заняткі без замінкі
Ходзяць хлопчыкі, дзяўчынкі.
З малышамі — бо не цесна —
Дрэвы вучацца сумесна.
Лічыць кіпарыс за ласку
Белую трымаць указку.
Ды не знае кіпарыс,
Дзе ён, горад той Парыж?
Не даецца ўрок платану:
Цяжкі прыклад па складанню.
Дрэвам кажа Марыям:
— Памагла б ахвотна вам,
Ды баюся памыліцца,
Бо яшчэ не вучаніца.
Я ішла сцяжынкай прама
І пазнала — вучыць мама.
А Каміл чаго вупь плача,
Можа, хітрая задача?
І пачулі ад Каміла:
— Мне суседка гаварыла,
Лопне на зямлі кара
І тут вырасце гара.

* * *

Зранку Марыям адна —
Гаспадыняю яна.
Перш за ўсё — па распарадку —

У садочак на зарадку.
Падмяла
Сама
Палатку.
Чысціня — усё прыбрана,
Ўсё дагледжана старанна.
І навіны для яе
Радыё перадае.
Слова мае Ленінград:
— Я з табой, Ташкент,
Мой брат!

Кіеў кажа з Украіны:
— У бядзе я не пакіну!

Мінск свой голас падае:
— Вось бяры
Дары
Мае!

Далучаецца Баку:
— Не застануся ўбаку...

Марыям гарадам
Адказала:
— Дзякуй вам!
У Ташкента шмат братоў —
Нашых слаўных гарадоў.
І, вядома, кожны брат
Памагчы Ташкенту рад.
Па цагліне
Падалі —
Дом высокі
Узвялі.
Па адной
Яшчэ паклалі —
Побач
Два дамы
Ўжо сталі...
Марыям дамы лічыла —
Неўзабаве лік згубіла.
І ніколечкі яна
Тут не вінавата:
Дзесяць пальцаў на руках,

А дамоў багата:
І ўсё новыя,
Шматпавярховыя.

* * *

Хутка лета прамільгнула,
Пад зямлёй не чутна гулу,
І руін няма нідзе.
Ў школу Марыям ідзе
Ў добры час
У першы клас.

Дзед Садык яе вітае,
Ўсе машыны прыпыняе:
— Тармазі, вадзіцель, колы,
Бачыш — дзеці каля школы!
Тут сяброўкі, тут равесніцы,
Марыям ад шчасця свеціцца.
Вочкі чорныя і бровы,
Тварык смугленькі, здаровы,
Цюбецейка на касічках,
У палосачку спаднічка.
А цюльпаны, а цюльпаны —
Пад гарой
З расой
Сабраны.

І дзівуецца Ташкент
На дзяўчынку,
На букет.

*1967 г.*



## СПРЭЧКА З ДРАЧОМ

Сонца села заляском,
Вее з лугу халадком.
На пароме дзед Іван
Углядаецца ў туман.
— Зараз, Таня, я праверу,
А ці ёсць каго вазіць,
Ды прыдумаем вячэру,
Трэба рыбкі налавіць.
— Хто яшчэ на перавоз,
Хто яшчэ не пераехаў?
Адгукнулася — во-оз, во-оз! —
У лясочку рэха.

— Барадач, барадач!
Не судно ў цябе — карыта! —
Гэта дзеда дражніць драч
У балоце з-пад ракіты.
— Маніш, драч, як заўсягды,—
Уступіла Таня ў спрэчкі,—
Дзед Іван без барады,
А ты, драч, баішся рэчкі.
Ты цыбаты, нéпрыгожы,
Ты зусім лятаць не можаш.
Крылы носіш
Ты дарэмна
І паводзіш
Сябе дрэнна.
Грубіян ты, забіяка,
Паглядзі, бяжыць сабака!

— Я нікога не баюся,
Я на лузе —

Гаспадар,
Са мной дружыць нават бусел,
Што лятае аж да хмар.
Вось як толькі захачу,
То да Сожа далячу
І паром перакулю,
Цябе з дзедам утаплю!

— Недарэка, брыдкі, брыдкі,
Ты хваліцца вельмі прыткі.
Дзед Іван дае параду:
— Лепш не звязвайся ты з ім,
З звягаю не знойдзеш зладу,
Драч — вядомы ён усім —
Будзе ноч усю чапіцца,
Аж да раніцы дражніцца.

Зноў крычыць у лузе драч:
— Барадач! Барадач!

*1960 г.*

## СІНЯЯ БАЛЬНІЦА

Над вадой стаіць ракіта,
Пад ракітай — сіні дом.
Шыльда на сцяне прыбіта
Між дзвярыма і акном:

Рак-вусач,
Галоўны ўрач.
Ледзь на раніцу займае,
Доктар дзверы адчыняе:
— З новым днём, з новым днём,
Калі ласка, на прыём!

Хвост у плоткі абарваны,
На спіне рубцы і раны.
— Не хвалюйся і не плач,—

Суцяшае плотку ўрач,—
Змажу, забінтую — болей
Не пачуеш нават болю.

Уваліўся галавень:
— Круціць нешта ў галаве.

— А ў мяне наадварот,—
Кажа лінь,—
Баліць жывот.

І паскардзіўся судак:
— Апетыт прапаў
І смак.

Доктар чуйна аглядае,
Дзе ў каго
Хвароба тая;
Ставіць градуснік
Пад плаўнік.

Краснапёркі-санітаркі
Робяць галаўню прыпаркі.

Лінь шыбуе да аптэкі
Неабходныя ўзяць лекі.

— Дзе мой апетыт і смак? —
Зноў трывожыцца судак.
Доктар адказаў:
— Дзівак,
Ты трымайся распарадку
І займайся
Фіз-
зарадкай.

За дзвярыма тупу-тупу,
Быццам коціць нехта ступу.
Глянуў рак
У калідор —
На парозе —
Сам бабёр:
— Мы плаціну будавалі,
Мы бярвенні падымалі.



**А. Пысін, У. Майданак, П. Кавалёў.**
**Краснаполле, 1970-я гады.**



Васіль Быкаў і Аляксей Пысін.
Магілёў, 1973 г.

І загнаў я стрэмак пяць,
Трэба з лапы іх дастаць.

Рак-вусач гаворыць:
— Можна! —
Павыцягваў асцярожна
Тыя стрэмкі-страмкачы.
— Будзь здароў, бабёр,
Скачы!

У пакоі тэлефон
Зазваніў, нібыта звон.
— Трывога, трывога,
Трэба дапамога:
Дрэнна сому
Маладому.
— Назавіце адрас,
Будзе доктар зараз.

— Брод Гусіны,
Ля плаціны.

Узялі лісток лілеі
Жукі-плывуны,
І павезлі-панеслі
Доктара яны.

Ліст зялёны,
Крыж чырвоны,
Гэй з дарогі!
Едзе, мчыць карэта
«Хуткай дапамогі».
Мчыць карэта, як ракета,
Па вадзе.
Стой! Прыехалі на месца,
Хворы дзе?

Ходзяць хвалі, плешчуць хвалі
Угары.
Сома ледзьве адшукалі
У нары.
— Дзень добры, сом,
Як жывём?

Сом бязвусы ані слова,
Аднялася ў яго мова.

Паслухалі сэрца —
Ледзь б'ецца.
Хоць выдатная пагода,
Ён ляжыць, нібы калода.
Тлушчам шчэлепы абраслі,
Нават вочы заплылі.

Не губляўся рак ніколі,
Даў ён сому два уколы:
— Кінь ляноту, сом,
Прагані свой сон,
Не ляжы тут цэлы дзень,
Лепш на свежы на струмень,—
Будзеш век тады здароў,—
І не трэба дактароў.

*1960 г.*

## МОСТ ІДЗЕ ПА ВАДЗЕ

На машыне спадарожнай
Таня едзе да ракі.
От спыніліся ля Сожа,
Дзе тут кладкі, дзе масткі?
Ні масткоў нідзе, ні кладак,
Хіба ж гэта ёсць парадак?
Толькі трос — стальны канат
Над ракою акурат.
Калі нават асцярожна
Па канаце пехатой,
Дык і то прайсці няможна,
Ў рэчку булькнеш з галавой.
— Знойдзем мост і знойдзем кладку,—
Дзед вусаты так сказаў.
— Пазнаёмімся спачатку:

Дзед Іван,— руку падаў.
— Не хвалюйся вельмі, Таня,—
Суцяшае добры дзед,—
Тут няшчасце не застане,
Ўсё наладзіцца як след.
Бачыш — вунь стаіць паром,
Мы на ім і паплывём.

Таня ўсцешана, вядома:
— Ты дырэктарам парома?
— Не, дырэктар на заводзе,
Тытул гэткі яму дан.
А паром — па рэчцы ходзіць,
Я — выходзіць —
Капітан.
З тоўстых дошак
На ўвесь рост
Змайстраваў
Я гэты мост.
А ці сонейка,
Ці гром —
Смела ходзіць
Мой паром.
Не патоне
Ён нідзе
І машыну
Павязе,
Табун коней
І кароў,
Ой, і дужы
Мой паром.

Мост дзядуля адвязаў
І канат у рукі ўзяў.

Упіраецца нагамі:
— Едзем самі, едзем самі! —
Таня дзеду памагала,
Ледзь да троса даставала.
Хоць рака цякла імкліва,
Пераехалі шчасліва.

*1960 г.*

# ШМАТПАВЯРХОВЫ ЎЛОЎ

Добра мы папрацавалі,
Адпачні сабе, паром.
Вудамі падрэжам хвалі
І вячэру сабяром.
Пад калодай — чарвячкі,
Чарвячкоў мы — на кручкі.
Акуні і галаўні —
Гэта вам нажыўка,
Рыбку добрую цягні,
Залатая жылка!
Уздрыгнулі паплаўкі,
Фарбаваныя бакі.
Не, не тоне паплавок,
Не бярэцца акунёк.
Падымае дзед кручкі:
Куды зніклі чарвячкі?
Зразумеў усё рыбак:
— От зладзюга,
От хітруга
Ты, шчупак!
— Што, дзядуля, ён украў?
— Ды нажыўку абабраў...

Зноў нажыўку дзед апусціць,
А шчупак яе —
адкусіць.
Паплавок нырнуў, знікае,—
Ўзяла рыбка. А якая?
Дзед да берага падводзіць,
Чуе, ходарам штось ходзіць.

На вадзе кругі, кругі,
Хваля плешча ў берагі.
Дзед памалу цягне, цягне,
Тут уловам добрым пахне.
Вось, здаецца,
І падвёў.
Не даецца
Ў рукі ўлоў:
Як пацягне, як рване,
Ажно гул у вудзільне.

Прытаіліся абое:
Дзед і той,
　　　　　　што пад вадою.

Ёсць канец ва ўсякай справе:
Хоць валтузіў так і сяк,
Змогся, здаўся неўзабаве
Пераможаны шчупак.

А пасля глядзелі цуд,
Не адна —
　　　　　　тры
　　　　　　　　рыбы тут:
Чарвячок прывабіў плотку,
А шчупак яе — у глотку,
Шчупака таго схапіў
Сам шчупак, што большы быў.

І сказала Таня словы:
— Наш улоў
　　　　　　　　шматпавярховы.

Быццам цені, паляцелі
Над ракою птушкі.
З апетытам, смачна елі
Дзед і Таня юшку.

*1960 г.*

## ТРЫВОГА Ў БАРЫ

Завіталі хлопцы ў бор
І расклалі там касцёр.
Быў спачатку ён маленькі,
Быццам жоўты матылёк,
Потым выпырхнуў са жменькі
І ў галлё сухое — скок!
І смяецца, і трапеча,
Хлопцам ён амаль па плечы.

Хлопцы хворaст падкідалі,
Як язычнікі, скакалі.
Забаўляліся, дурэлі,
Покуль бровы абгарэлі.
Узялі свае кійкі
І — дадому нацянькі.

А касцёр? Ён задаецца,
На сасновы бор злуецца:
— Мне не трэба адпачынак,
Дайце палак і галінак,
Дайце тоўстых мне калод,
Павяду свой карагод.
Не дасцё — па лісцях скокну,
Падыду да дрэў высокіх,
Дабяруся да смалы,
Абдыму агнём ствалы.

Сосны к ветру — з угаворам:
— Уратуй ты ад бяды.
Дзесьці хмарка ёсць над морам,
Добра, каб яе сюды.
Крылы разгарнуў вятрыска,
Паімчаўся ён з-пад дрэў.
Ці далёка, а ці блізка
Хмарку лёгкую сустрэў.
— Хмарка любая, паслухай,
Плачуць сосны у бары.
Ты зрабі, зрабі паслугу,
Мора ў бочкі набяры!
Трэба хутка, хутка, хутка —
Пагражае злы касцёр.
Хмарка глянула з-пад хусткі
Ды паклікала сясцёр.

* * *

І, пачуўшы трывогу,
Паплылі на падмогу
З мора Чорнага
Хмаркі шчодрыя,
З мора Белага
Хмаркі смелыя,
І азоўскія,

І балтыйскія,
І высокія,
І нізкія.
Едуць, едуць сто хмар
На вялікі пажар.
Толькі грукат і гром,
Пацямнела кругом.

* * *

Кружаць хмары па-над борам:
— Дзе той дым,
Дзе той дым?
Вось мы зараз пагаворым
З дымам тым,
З дымам тым!
Мы пажар тушыць умеем.
Дзе агонь,
Дзе агонь?
Кінем пругкія струмені
На яго,
На яго.
Кружаць хмары нізка, нізка,
Аж чапляюцца за сук.
— Падмануў ты нас, вятрыска,
Ах, свавольнік, ах, блазнюк!
Толькі тоненькі дымочак,
Аніякае бяды,
І навошта столькі бочак
Прыцягнулі мы тады?
Жартаваць не ўмееш, брат, ты,
Не даруем мы віны...

— Гэта сосны вінаваты,
Хай адказваюць яны!
І пытаюць хмары злосна:
— Вы скажыце праўду, сосны,
Хто трывогу узнімаў,
Хто ганца к нам пасылаў?
— Мы трывогу
Узнімалі.
Мы ганца ў дарогу
Слалі.

* * *

На ялінцы ля палянкі
Ёсць гняздзечка берасцянкі.
Чула птушка, як касцёр
Выхваляўся знішчыць бор,
І ўступіла ў бойку з ім.
Засцілаў ёй вочы дым,
А смурод
Лез у рот.
Берасцяначка лятала
Ды ігліцу адмятала
І адносіла лісты
За ядлоўцавы кусты.
У крынічку каля дубу
Брала кропельку у дзюбу,
Залівала галавешку,
Каб не выбіўся на сцежку
Ды не выбег у гушчар
Неўтаймаваны пажар.
Абпаліла крылы,
Выбілася з сілы.

А касцёр яшчэ жывы,
Хоць і ніжай ён травы.
Падымаецца дымок,
Не здаецца агеньчык.
Кажуць хмары берасцянцы:
— Ты зрабіла што магла,
Вось мы пройдзем па палянцы
І агонь зальём датла.
Сойдзе дым, і сойдзе чад,
Ну, ляці да птушанят.

Хлынуў лівень шчодры, цёплы,
Мые дрэвы і кусты.
І зліліся хутка кроплі
У адзін паток густы.
Не паток,
А патоп.
Крэкча дуб:
— Душ мне люб.
Па каленкі
Ў лужах елкі.

Ўсё бярозы
Мыюць косы.
А ядловец
Пену ловіць.

І няма, няма трывогі,
Рады дрэвы і кусты.
Чыста вымыты дарогі,
Па каторых пойдзеш ты
У шчаслівую часіну
Па суніцы і маліну.

*1962 г.*

## БАЗАР

### АБ'ЯВА

Разгорнуты лісток
Бяросты
Павешан на сучок
Бярозы.
Чакайце,
Гэта ж аб'ява;
Чытайце
Злева направа.
Чытайце
Выразна, услых,
Слоў не глытайце
Вялікіх, малых.
Значыць, аб'ява?
Цікава.

«Хутчэй сягоння снедайце
І наш базар наведайце!
Не знойдзеце другога
Базару такога.
Усім гасцям прывет!
Базарны камітэт».

Падняліся, паляцелі
Ўсе, хто крылы мае.
Зашумелі, загудзелі,
Гоман не змаўкае.

— Дзе пажар,
Дзе пажар?
— Не пажар,
А базар.

— Недалёка, недалёка! —
Абвяшчае ўсім сарока.

Глядзіць падазрона
Сівая варона:
— Можа, на хвасце ты
Слух прынесла гэты?

— Не, на самай справе —
Сказана ў аб'яве.

«Толькі б не спазніцца»,—
Думае сініца.

Драч бяжыць з-за купін:
— Штосьці купім,
Штосьці купім.

Нават муха і камар
Паляцелі на базар.

## ВЕРАБ'ЁВА ПРАМОВА

А базар — як стадыён.
Птушак, пэўна, тут мільён.
Дзе бярозкі —
Там кіёскі,
Дзе дубочкі —
Там ларочкі.
Над павільёнамі —
Сосны з парасонамі.

На трыбуне верабей
Слова мае да гасцей:

— Чык-чырык,
Свет вялік.
Ў добрай згодзе
Мы жывём,
У лагодзе
Гнёзды ўём.
Нашы — нівы, нашы стрэхі,
Нашы плёсы, нашы рэкі
І крутыя берагі,
І балоты, і лугі.
Добра жыць, добра жыць,
Ёсць што есці, ёсць што піць.
А цяпер святочным днём
І базар мы свой пачнём.

## ХТО ШТО КУПЛЯЎ

Дзятлы-друкары
Прадаюць буквары.
Мчыцца да прылаўка
Шэрая галка:
— Буквароў мне трэба восем,
Бо ўжо хутка восень,
Пойдуць дзеці ў першы клас,
Гэта — раз.

Яшчэ трэба пер'е,
Чыстая папера
І алоўкі новыя,
Каляровыя.

— Колькі за кніжку?
— Яловую шышку.
Просіць берасцянка:
— Трэба мне чытанка.

Жураўліха з жураўлём
Дзюбы ўзнялі над сталом:
— А навошта нам буквар?
Падавайце каляндар!

Салавейка стаў на дыбачкі,
Ён трымае скрыпачкі.

Скрыпку звонкую і смык
Доўга выбіраў індык.

— Каму спеўнік,
Каму спеўнік? —
Прапануе пеўнік.

Дрозд ступае ў новых ботах.
— Буду я спяваць па нотах.

Бусел абвяшчае:
— Хто набыць жадае
Дакладныя карты
І глобусы?
Адзначаны рэкі
І полюсы,
Горы, даліны,
Лясы і раўніны.
Ёсць і ўказка,
Калі ласка.

— За глобус і карту я
Шчыра дзякую,
Бо без іх хоць плач,—
Гаворыць драч.
Сыч вандруе па базары,
Ён шукае акуляры.
— Надакучыла днём спаць,
Буду я чытаць, пісаць.
— Пойдзем з намі,— кажуць
Вераб'ёвы дочкі,—
Мы табе пакажам
Аптэчныя ларочкі.

## КАНЦЭРТ

На трыбуне верабей
Слова мае да гасцей:
— Чык-чырык! Базар канчаем,
Весяліцца запрашаем.

На эстраду выйшаў пеўнік,
Прад сабой трымае спеўнік:

— Я ку-ран-ты
Замяняю,
Як уранні
Заспяваю.
Вось які я
Акуратны,
Як куранты,
Як куранты.

А за пеўнікам індык,
Скрыпку ён нясе і смык.
Ён смычком па струнах водзіць,
Песеньку сваю заводзіць:

— Куды я? Куды я? —
Даганяю каня.
Дагапю, даганю,
Дам вымову каню,
Дапяку ажно да слёз,
Аж да слёз:
Ты навошта з'еў авёс,
Мой авёс?

Тут на ўвесь прастор вялікі
Заігралі музыкі.

Затрубілі жураўлі,
Гусі бубны узялі.

— Нам не трэба
Кладак, броду,
Дайце ходу
Карагоду.
Мы танцуем,
Мы спяваем,
А драпежных
Не прымаем.
Ляці міма,
Злы каршук.
Не бяром цябе у круг.
Хто сумленны —
Той наш госць.
Во якая весялосць!

*1962 г.*

## ЛЯСНАЯ ГАЗЕТА

Што за стукат і грукат
У бары-гушчары?
То газета друкуецца
На сасновай кары.

У берэце чырвоным,
Што зіхціць, нібы жар,
Завіхаецца дзяцел —
Ён галоўны друкар.

Выбівае ўсе знакі —
За радочкам радок,
Ставіць коскі і кропкі,
Толькі чутна: чок-чок!

А маленькія птушкі —
Пасыльныя ў яго,
Весткі-чуткі прыносяць
З наваколля ўсяго.

Вось апошняя кропка —
Самы звонкі удар:
Сваю справу закончыў
Працавіты друкар.

Абвяшчаюць з сасны на сасну
Пасыльныя:
— Калі ласка, чытайце
«Навіны лясныя»!

Сыч ціхутка прыляцеў,
У дупле ён не ўсядзеў.
Развітаўся ён са сном,
Ужо бачыць сыч і днём,
Бо ў аптэцы на базары
Падабраў ён акуляры.

Просьба птушак тут усіх:
— Ты чытай нам, сыч, услых!
— Ёсць умова, каб мяне
Не перабівалі.
І чытае гучна сыч

Пра

**мядзведзевы цымбалы**

Пашчапаў сасну пярун,
Нарабіў ён многа струн.
Струны новенькія,
Струны тоненькія,
Ёсць пявучыя,
З сонца вітыя,
Ёсць грымучыя,
Басавітыя.

Прыйшоў мішка таўстапалы:
— Вельмі здатныя цымбалы!

Б'е па струнах, а ў бары
Падпяваюць камары.
Усміхнуўся сыч ледзь-ледзь:
— Вынаходлівы мядзведзь.
Хай жа гукі звонка льюцца,
Паглядзім, якія

**люцікі**

Кураняткі жаўтаротыя
Выйшлі, бестурботныя,
Да рачулкі на лужок,
На зялёны муражок.
А з-за рэчкі шух-шух,
Вылятае каршук.
Ой бяда, ой бяда,
Толькі луг ды вада,
Дзе схавацца?
Кураняткі не ўцякалі,
Люцікамі сталі,
Не баяцца.
Заўважаюць гэта птушкі,
Шчабятушкі і пяюшкі.
— Малайчыны, кураняткі!
— Што далей?

## Кратовы хаткі

На паляне, дзе палаткі,—
Пад зямлёй кратовы хаткі.
Тут няма ніколі сонца,
Бо — ніводнага аконца.

Павукі з маткáмі ходзяць,
Правады свае наводзяць,
Каб па тых па правадах
Пад дзірван — таўшчэзны дах —
Электрычнае святло
Паплыло.
Значыць, будзе святлей
І у падзямеллі.
Сыч чытае далей

**паведамленні**

У вавёркі Веры —
Рамонт кватэры:
Змяніла шпалеры,
Вокны і дзверы.
Ёсць на кладоўках
Новыя стрэхі,
Каб не намоклі
Грыбы і арэхі.

* * *

Праз густыя лясы
Да Трох Калод
Пракладаюць ласі
Водаправод.

* * *

Сёння у аленя
Дзень нараджэння.
На імянінах —
Статак ласіны.

* * *

Браканьер на паляванне
Выйшаў з стрэльбай на паляну,
А зайцы напалі,
Стрэльбу адабралі.

* * *

Выхваляецца дзік,
Што ён з'есць маладзік.

* * *

Весткі з базару:
Сыч купіў акуляры.
Сыч ажно ўсміхнуўся:
— Жонцы пахвалюся,
Бо не жарты гэта —
Трапіў я ў газету.

Зноў звініць кара сасновая,
Стукат не змаўкае.
То друкуецца новая
Газета лясная.

*1962 г.*

## ШЧУПАК НА ЯКАРЫ

За лясамі, за лугамі
Поўна рэчка з берагамі.
Самалёцікі-стракозы
Апускаюцца на лозы.
Вы, стракозы, чарадою
Не лятайце над вадою,
Бо шчупак — разбойнік люты —
Тут не дрэмле ні мінуты,
З-пад куста высока скача,
На ляту хапае качак,
Не дае жыцця нікому.
Ўсе ўцякаюць з вадаёму.
Праклінаюць лёс свой горкі
Залатыя краснапёркі,
І маленькія уклейкі
Зашываюцца ў дол глейкі.

А шчупак — метровы рост,
Дзве лапаты — гэта хвост,
Зубы ў пашчы — дзве пілы.
Гэткі люты, гэткі злы.
— Я тут цар,
Уладар,
Маю рэчку,
Маю плёс,
І авечку б
Я панёс,
Праглынуў бы
І вала,
Во была б тады хвала!
Доўга так было ці мала,
Шчупака бяда спаткала.
Прыйшоў Янка на рыбалку,
Ён прынёс з сабою палку.
І на палцы ёсць катушка,
Закруцілася вяртушка,
Заіграла шыбка, шыбка,
Мільганула ў рэчку рыбка.
То не рыбка, а бляшня.
Ўшыркі, ўдоўжкі з акуня,
І на самым на канцы —
Тры вялізныя зубцы.
Не стрымаўся жываглот,
Ухапіў бляшню у рот
І панёс,
            панёс,
                        панёс
У плёс.
Як стаеннік на аркане,
Ходзіць з самага ўжо рання
І туды ён і сюды —
Ледзь не выскачыць з вады.
Сіла ёсць у шчупака,
Цягне ў рэчку рыбака.

Толькі Янка часам тым
Стаў за дубам векавым.
Шчупачына пнецца, пнецца,
Ажно дубададолу гнецца
І калоціцца карэнне,
Нібы тут землетрасенне.

Над ракою гром раздаўся,
Быццам выбухнуў вулкан,—
Абарваўся
Аркан.
Ну і сіла,
Ну і конь,
Во хамут бы
Ды супонь.
Можна сосны вазіць,
Воз каменнем грузіць.
Дзень шчупак і тыдзень нашча,
Бо застрэмленая пашча.
Хоць дагоніць часам плотку,
Ды не можа ўзяць у глотку.

Замаркоціўся хітруга,
Трэба, трэба да хірурга.
І да рака на прыём
Уварваўся напралом.

— Вельмі занядужаў я,
Ў пашчы у мяне бляшня
З трыма вострымі зубцамі,
І пячэ, нібы агнямі.
Выцягні ты жалязяку,
І табе скажу я дзякуй,
Ажа да старасці гадоў
Я карміць цябе гатоў.

Рак з усмешкаю зірнуў,
Рак вусамі варухнуў.
Абвяшчае так вусач:
— Зараз не магу, прабач,
Вось як толькі пасвішчу,
То цябе і палячу.

Адказаў яму шчупак:
— Добра, добра, мілы рак,
Я не вельмі ганарысты,
Пачакаю твайго свісту.

Пад карагаю мянтуз
Ходзіць смела, быццам туз.

Скачуць плоткі, галаўні,
Не баяцца ані-ні:

— Дзе ты, цар,
Уладар?
Глянь на рэчку,
На плёс.
Хтось авечку
Прынёс,
Белалобага вала
З лугу
Качка прывяла.
Ў шчупака метровы рост,
Дзве лапаты — гэта хвост,
Зубы ў пашчы — дзве пілы.
Ён на плотак вельмі злы.
— Вось пасвішча толькі рак,
Адвядзе маю бяду,
Тады ўспомню забіяк,
Пад зямлёю ўсіх знайду.

Рассмяяліся стракозы:
— Эх, дзівак,
дзівак,
дзівак,
Лепей кінь свае пагрозы —
Не свістаў ніколі рак.

*1962 г.*

## КОТ-БРАКАНЬЕР

За садамі ёсць ставок,
Хваля мые там пясок.
Хто стаўком валодае,
Глыбінёй падводнаю?
Забаронена ў стаўку
Пасяляцца шчупаку,

І не зойдзе у ставок
Паласаты акунёк.
Не для хцівай рыбы
Гэтая сяліба.
Тут жыве рахманы
Карп люстраны.
А ў ягонай сям'і
Дзетак тысяч ля сямі.

Па-над берагам чарот
Шалясціць мяцёлкамі.
У чарот прыходзіць кот
Раніцамі золкімі.
Кот вусаты,
Кот зіркаты
Рыбе робіць многа страты.
Выгінаецца дугою
І стаіць па-над вадою.
Падплыве маленькі карп —
Скокне кот
І — цап-царап.
Рыбу ў кучу ён складае
Ды ад радасці спявае:

«Мур-мур-мур, мур-мур-мур,
Я паеду на Амур.
За высокай сіняй брамай
У лясах, лясах густых
Ходзіць брат мой,
Ходзіць брат мой —
Паласаты тыгр.
Рыпні, брама, рыпні,
Мы наловім рыбы,
Буйнай — тыгранятам,
Дробнай — кацянятам».

Ды аднойчы ў кіпцюры
Неяк трапіў карп стары.
Сігануў,
А кот на ім,
Быццам на кані ліхім.
Едзе, едзе кот-яздок,
Аж кругі на ўвесь ставок.
Пад кругамі — глыбіня,

Пахавае і каня.
Кот замяўкаў з перапуду,
Апусціў ён хвост, як вуду,
Цягне хвост яго на дно,
Паратунку не відно.

Кот ратуе сам сябе,
Знае, лапамі грабе.
Ехаў, ехаў кот вярхом,
А назад плыве цішком.
Не чакаў такой бяды,
Ледзьве выбраўся з вады.
Адубеў ён, акалеў,
Не тыгрыны выгляд меў.
Ад стаўка паклыпаў прэч.
Ой, далёка яшчэ печ!

*1962 г.*

## ПРАЎДУ КАЖУЦЬ ЯЕ ВОЧКІ...

Вочкі,
Нібы вугалёчкі,
Броўкі,
Быццам бы падкоўкі.
Стужкі, стужкі,
Заплятушкі,
Чаравічкі —
Невялічкі.

Верка скача,
Верка плача
І смяецца на ўвесь рот.
Праўду кажуць яе вочкі,
А язык — наадварот.

Вы спытайце ў Веркі імя,
І адкажа Верка:
— Хіма.

Прыйдзе к бабцы — ды з парога:
— Не варылі мы нічога,
За сталом мы пасядзелі,
Нічагусенькі не елі.

— Распранайся, Верачка,
Вось твая талерачка.
Ці ж бабулька ведала,
Што ўжо Верка снедала?

— Хочаш, Верка, малака?
— Вельмі хочу, ага,
Мамка з поўненькім вядром
Ад Красулі ішла,
А Красуля — капытом,
Малако ўсё разліла.

Абураецца бабуля:
— Ах, свавольніца Красуля.—
Бабка малако падносіць:
— Што яшчэ ў вас адбылося?
— Рэшата кот скінуў з лаўкі,
І пабіліся ўсе яйкі.

— Ты, дзіцятка, не гаруй,
Зараз яек адвару,—
Бабка ўнучку суцяшае
Ды кату ўсё пагражае:
— Зловім мы яго, зладзюгу,
Пакаштуе ён папругі.

Верка ўспомніла, вядома,
Што сказала несвядома,
Не было ніякай страты,
Кот ні ў чым не вінаваты.

Да бабулькі Верка з ласкай:
— Лепш даруем мы кату.
Адпачні ты, калі ласка,
А я хату падмяту.

*1962 г.*

# ЖУК І ЖОЛУД

Дуб на лузе сукаваты,
А пад дубам —
Жук рагаты.
Жук рагаты,
Жук лупаты,
На баках —
Стальныя латы.
На нагах-крывульках —
Боты,
Гэта — боты-скараходы.
А на ботах шпоры,
Быццам зоры.
Жук абцасамі — туп-туп.
— Узбяруся я на дуб! —
Хоць кара, нібыта з бронзы,
Ды ёсць шчыліны-баразны.
Жук панёсся — не суняць,
Шпоры новыя звіняць.
Вось ступае смелы жук
На круты шурпаты сук.
Глянуў ён туды-сюды:
На галінках — жалуды.
Жолуд
Жук аблюбаваў,
Гоп з разгону —
Асядлаў.
— Жолуд, жолуд,
Жалудок,
Патрымай
Мяне, браток.
Спелы жолуд ледзь
трымаўся,
Ад галінкі адарваўся.
Паляцеў дадолу жук.
Толькі латы грымяць,
Толькі шпоры звіняць,—
Стук і грук.

Прыляцелі матылі
на ратаванне,
Робяць жуку яны
штучнае дыханне.

Аглядаюць на баках
сінякі
Ды кладуць прымочкі
на бакі.
— Не чапаў бы ты, жук,
жалуды,
І не ведаў бы, жук,
ты бяды!

*1962 г.*

## ЖУРАВІНЫ

Павуціннe па вадзе,
На стаўку гусіным.
Зранку Таня ў лес ідзе
Па ўзбярэжжы сінім.
Не адна — ступае следам
За сваім вясёлым дзедам.
Адкрывае лес вароты:
— Выцірайце чыста боты,
Не заплямце дываны,
Вельмі ж чыстыя яны.
— Дыванамі лес засланы?
А з чаго яны сатканы?
Дзед смяецца з-пад вусоў:
— З самых лепшых верасоў.
Ой, дыван мой, дыванок,
Мяккі, чысты, як лянок.
Бляск шаўковы,
Цвет ліловы,
У мяцёлачку узор.
Ты схіліся, лес яловы,
Раскажы нам казку, бор!
Вунь пайшоў па сцежцы лось,
Дзевяць у лася рагоў,
Дзевяць казак ён панёс
Да зялёных мурагоў.
Лось пачне скубці траву,

Казкі — скок на мураву,
Па сцяжынках, па дарожках
Пабягуць на тонкіх ножках.
Пойдзем, Таня, за ласём,
Можа, казку прынясём!
Голуб задрамаў на дубе,
Казку ён трымае ў дзюбе.
Ты зрабі нам, голуб, ласку,
Дай ты, голуб, Тані казку.
Пад ялінай густа, густа
Спее зайцава капуста,
Тры маленькія лісткі —
Вось качан які!
Паміж трох лясных дарог
На балоце вырас мох.
Мох ружовы і зялёны,
Мох бялявы і чырвоны,
Жоўты мох і сінявы,
Лёгкі, цёплы, быццам вата.
Калі мы будуем дом,
Пад бярвенні мох кладзём,
Каб у шчыліну мароз
Не прасунуў сіні нос.
На паляне светлай, чыстай
Ягадак вісяць маністы.
Таня жменяю грабе —
І сястрычцы, і сабе,
Многа ягад назбірала,
Дома Галю частавала.
Ведаць Галя ўсё жадае,
Аб усім яна пытае:
— Як жа ягады твае,
Таня, называюцца?
Таня ёй адказ дае:
— «Вочкі закрываюцца».
З'ела ягаду Галінка —
Стала жмурыцца дзяўчынка,
Вейкі сціснула;
Праўду Таня гаварыла:
Вельмі кіслыя.

*1962 г.*

## ПЕТРЫК І СОНЦА

Грэе сонца, вее ветрык,
Траўка ўмылася расой.
Пазяхае часта Петрык,
Кепскі ў Петрыка настрой.
Фіззарадкай не займаўся,
Не ўмываўся, не ўціраўся,
Ні сцяжынкі, ні дарогі
Малышам ён не даваў,
З добрай раніцай нікога
Петрык не павіншаваў.

Сонца ласкава свяціла,
Не змаўкаў пчаліны звон.
Толькі хлопцу ўсё не міла,
Не ўсміхнецца нават ён.
Парасят загнаў на градкі,
Вераб'ёў страляў з рагаткі.
Вось даяркі мыюць вёдры,
Маці Петрыкава тут.
Петрык не сказаў «дзень добры»,
Закрычаў: — Салют, салют!

Змрок вячэрні. Прахалода.
Ў садзе не шумяць лісты.
Вее вільгаццю з балота.
Асядае пыл густы.
Пастухі прыгналі статак.
Маці спаць кладуць дзіцятак.
Пад вярбою каля дому
Петрык многіх сустракаў,
Ды нікому, ды нікому
«Добры вечар» не сказаў.

* * *

Петрык спаў. І ўбачыў:
Сонца
Лезе ў хату праз аконца,
Пачынае строгі допыт:
— Хіба ранак быў не добры?
Хіба дзень мой быў не добры?
Хіба вечар быў не добры?

Ты ж нікога не вітаў
З добраю парою
І нікому не жадаў
Добрага настрою.
Не хацеў маіх даброт?
Будзе ўсё наадварот!

* * *

Зранку неба ўслалі хмары,
Дзесь паблізу гром ударыў.
Петрык з ложка як ускочыць.
Стаў ён вочы праціраць,
Ды маланка слепіць вочы,
Вокны ад грымот звіняць.
Гром грукоча, гром рагоча:
— Можа, Петрык, выйсці хочаш?
Барабаніў дождж па даху,
Біў пярун з усіх гармат.
Петрык енчыў, ныў ад страху —
Навальніца не на жарт.
Сонца ў небе не відно:
Раззлавалася яно.

*1962 г.*

## ТУМАН

На кустах і на траве
Серабрацца густа росы,
Пара белая плыве,
Засцілае луг і плёсы.

Свеціць месяц. На лужок
Заяц выскачыў з гушчару:
«Пабягу на беражок,
Хто развёў такую пару?»

Скок ды скок ён напрасткі,
Блізкая дарога;
І спыніўся ля ракі,
Стаў, як ля парога.

Дзівіцца адважны заі:
У гарлачыкаў на ўлонні
Жабяняты цёплы чай
П'юць са сподачкаў зялёных.

Мчыцца заяц да палян,
Сам з сабою размаўляе:
— Знаю, ад чаго туман
Па-над рэчкаю бывае.

*1962 г.*

## РАТАВАЛІ СТРАКАЗУ

Скалыхнулася лаза,
На рацэ трывога:
Тоне, тоне страказа,
Трэба дапамога!
Не, не выплыве сама,
Ў вір яе адносіць.
Ні саломінкі няма
На рыбацкім плёсе.
Можна кінуць бы лісток,
Як масток
Пантонны,
Ды да прорвы толькі крок,
Мосцік там патоне.

— Сёстры, любыя, ратуйце,
Пашкадуйце, пашкадуйце!

Страказа ляціць адна
І бярэ пад пахі;

Крыллем узмахне яна —
Ды дарэмна ўзмахі:
Не хапае сілы,
Бо намоклі крылы.

Тут другая падлятае
І сяброўку абдымае.
Вось і трэцяя за ёю,
І ляцяць,
Ляцяць
Наверх
Грамадою,
Ўсёй сям'ёю —
Ўжо чацвёрты ёсць паверх.
Потым пяты,
Шосты,
Сёмы.
Над ракою гул вясёлы.

А вада аж пеніцца,
Быццам кружыць верталёт.
Паднялі тапельніцу,
Ўратавалі ад бядот.

*1962 г.*

## ГРЫБЫ

Над лугамі,
Над балотамі
Хмарка ехала
З грымотамі.

Бліскавіцаю апаясана,
Стужкай вогненнай
Перавязана.

Запыталіся дубы:
— Што вязеш?

— Вязу грыбы.
Кажа хмарка:
— Зараз скіну
На зялёную раўніну!

Пачалі грыбы прасіць:
— Будзе сонца нас паліць,
Мы не бачым на лужку
Ні кусточка, ні цяньку.

— То спускайцеся ў балота,
Там заўсёды прахалода!
— Не,— грыбы сказалі разам,—
У балоце мы загразнем.

Апусці нас у лясы,
У густыя верасы,
Пад бярозы, пад асіны,
Пад калматыя хваіны,
Дзе цярушыцца ігліца,
Пахне смольная жывіца.
Развязала хмарка
паясы,—

І сыпнуліся грыбы
ў лясы.

І адразу ў глыбіні лясоў
Пазнаходзілі ўсе
схоў:
Пад іглiцай,
Пад травіцай,
Пад галінкай,
Пад былінкай,
Пад бярозавым лістком,
Пад мяцёлкай-вераском.
А хто змог —
Схаваўся ў мох.
Толькі сёстры-сыраежкі
Засталіся каля сцежкі.

*1963 г.*

# АЛЁШКА

*Паэма-казка*

Напрадвесні
Ў цёмным лесе,
Дзе граніца
Роўна, гладка
Пралягла,—
Аляніца
Алянятка
Прывяла.

Узнялося малое на ножкі,
Хоча ўздыбнуць, прайсціся хоць трошкі,
Сцежкай стылай прабегчы, сагрэцца,
Са сваёю матуляй сустрэцца
І прыпасці губамі, ўсёй пыскаю,
Каб ажно малачко ў вочкі пырскнула.

Напрадвесні
Ў цёмным лесе,
Дзе граніца
Пралягла,—
Аляніца
Алянятка
Прывяла.

Аднаго на паляне пакінула,
А сама ў невядомасці згінула.
Воўк, магчыма, яе ўпільнаваў,
На вячэру сабе ўпаляваў.
Засталося часінкаю тою
Алянятачка сіратою.
І далёка яшчэ да світання,
Блізка-блізка да замярзання,
І — за крок, можа, воўк,
Што зубамі шчоўк-шчоўк.

* * *

Неба звечара ўсеялі зоры,
А пад зорамі ў пушчы
Дазоры.



Міхась Стральцоў і Аляксей Пысін.
1963 г.

У дазорцаў на шапках —
Зоркі,
У дазорцаў
Пагляд вельмі зоркі:
Заўважаюць усё да драбніцы,
Каб ніхто не парушыў граніцы.
І адразу ім трапіў на вочы
І жывенькі маленькі камочак.
Падышлі да яго пагранічнікі
І на рукі ўзялі,
Невялічкага.

Ночкай зябкаю напрадвесні
Ў кажуху на заставу панеслі.
— Будзеш з намі, Алёшка,—
Сказалі,
Так адразу
Алёшкам
Назвалі.

* * *

Зранку клопат ва ўсіх пра Алёшку,
І найпершы — то ўсё ж пра кармёжку.
Сасуночку пакуль што не трэба
Ані лыжкі,
Ні міскі,
Ні хлеба.

Чым жа, чым жа карміць?
Малачком.
Хтосьці ў вёску пабег
Са збанком.

І яшчэ пасланец
У вёску,
Ды ў другі канец —
Купіць соску.
Прадаўшчыца і добрыя мамы,
Што гуртком ля прылаўка стаялі,
Пагранічніка юнага ў краме
Так сардэчна і шчыра віталі.

А як ён запытаўся пра соску,
Засвяціліся цёткі па-свойску:
— Ой, такі маладзенькі,
Зусім зеляненькі,
А ўжо татка...
І Алёшкам
Завецца
Дзіцятка?

Пажадалі паклонам і словам,
Каб вялікім ён рос і здаровым.

Усміхнуўся сабе пагранічнік,
Хай жа так яно будзе, як лічаць:
Алянятка — дзіцятка,
А ён яму — татка.

* * *

Для Алёшкі лясная застава
І кутком і прытулачкам стала.

Падрастаў,
Прырастаў к распарадку:
Сон з вачэй —
Свет званчэй.
— На зарадку!

Зубкі чысціць духмянай травіцай,
Умываецца свежай расіцай.

Дрэвы, кветкі ў густой разнастайнасці —
Ўсе выводзяць яго са звычайнасці:
Што вязе з лесу воз мурашыны
І чым пахне лісточак ажыны,
Што спявае,
Што шэпча галінка,
Колькі колераў мае расінка...

Пагранічнікі —
З песняй на пляц,
І Алёшка пачне падпяваць.
Запявала пазірквае скоса:
Скуль узяўся такі безгалосы?

Да Алёшкі:
— Параду прымі,
Ведаць трэба табе
ДО, РЭ, МІ...
Нот, на жаль,
Няма ў нас саміх,
Пастарайся ж узяць на слых.

* * *

Праз дажджы,
Праз вятры,
Праз парошкі
Пачалі выбівацца патрошкі
У Алёшкі
Рожкі.
Для аленя сапраўднага рогі —
Не адна толькі гожая ўкраса:
Прэч, мядзведзь таўстаногі,
З дарогі,
Сарупі, калі ласка!
Пасняшайцеся, мурашы,
Не рабіце са сцежкі шашы!
Ваўчаняты,
Зязюлі,
Казулі
Вачаняты
Ў здзіўленні
Разулі:
Бач, ступае алень па расе,
На рагах
Ён
Сонца нясе!
Баявая ў Алёшкі пастава —
З ім граніца,
Сяброўства,
Застава.

Дзень
Ці змрок наваколле агорне,
Ён сяброў пазнае па форме:
І фуражкі ва ўсіх, і пагоны
З вёснаў колер бяруць
Зялёны.

Хто не ў форме —
Вядома ж, не свой,
І прышэльцу каманда:
«Стой!»

* * *

Пагранічча
З улоннем лясным.
Паласаты слуп, а на ім —
У калоссях Молат і Серп
З літарамі
СССР.
Дрот сігнальны.
Барозны ўзараны,
Бараною за-ба-ра-на-ва-ны.
Хто ні ступіць —
След бачны яскрава.
Вось — сарока з варонай скакала,
Вожык тупаў нядаўна: чох-чох...
Накапыціў малы вепручок...
А бывае — да нас з-за мяжы
Хтось няпрошаны,
Злосны,
Чужы.

* * *

З лета качкі ляцяць чарадою —
Колькі іх на вадзе,
Над вадою!
А чаго з наваколля сюды?
А чаго да тутэйшай вады?
Каб застацца з пухам і пер'ем,
На граніцу ляцяць — з даверам,
Пагранічнікаў і Алёшкі
Не баяцца качкі ні трошкі.

* * *

Зрок і вушы напяў алень:
Чый галінкаю хруснуў цень?
Цень павёў за сабой валасы,
І бародку, і рот, і вусы,

Вочы, бровы і доўгі нос —
То ж каго сюды
Нос занёс?
Ён не ў форме —
Значыць, не свой,
І дазор загадаў бы:
«Стой!»
Трэба, трэба сігнал трывогі!
Узлятайце, рогі і ногі!
І Алёшка памчаў стрымгалоў
Да сяброў,
Да сяброў,
Да сяброў!

Даўганосы чамусь не ўцякаў,
Усміхаўся, стаяў... і чакаў.
Госць заставы...
Знаёмы...
Пісьменнік.
Так тлумачыў затым:
— Гэта ж неяк
Адхіліўся ад сцежкі,
Збочыў
І далей у гушчар пакрочыў.
З-за мяне трывога ўзнялася?
Вы даруйце мне, калі ласка.
Зоркасць,
Спрыт надзвычайны аленя
Атрымалі ў сяброў ухваленне.
Сам таварыш маёр
На заставе
Даў ацэнку належную справе:
— Госць шаноўны.
Зусім не шпіён.
Ды ў граніцы свой строгі закон.
Ты, Алёшка, не быў разявакам,
І за гэта табе
Падзяка.

* * *

З хлапчукамі з'явіўся Алёшка —
Пераняў каля трох ручаёў.
Спрабавалі ўцячы — ён у рожкі,

Даганяў,
Павяртаў
І вёў.
Упіналіся, не даваліся,
І спрачаліся,
І злаваліся,
Ды, нарэшце, відаць, прытаміліся,
Перад дужым прад ім
Скарыліся.

Іх абодвух, у майках і кедах.
Ён дзяжурнаму перадае.
Пастаіць, пачакае, каб ведаць,
Ці чужыя яны,
Ці свае?

Хлапчукі
Падраслі ад здзіўлення,
Ўсхваляваліся не на жарт:
— Гэта мы
Затрымалі аленя,
Вы паверце, таварыш сяржант!
Знекуль выбег — і напярэймы,
Ды рагамі, нагамі пярэднімі...
Дакараем: «Ну ты ж не сляпы!»
Просім ветліва: «Саступі!»
Прапануем па-чалавечы:
«Паважаны, будзь з намі знаём,
Пасябруем з гэтай сустрэчы,
Вучні мы — Мірон і Зянон».
Не пускае ні ўлева,
Ні ўправа.
Павярнуліся мы ў бок заставы:
— Не хацеў падабру,— так сказалі,—
Кроч за намі!

Пагранічнік плячыма павёў:
Хто ж каго на заставу прывёў?

* * *

След чужы...
Той — адтуль — жэрдзь валок,
Адштурхнуўся,

Узнёсся
І — скок!
Ды не вынес за ворыва крок.
Мікрафоны, трывогу гарпіце:
Парушэнне
Дзяржаўнай
Граніцы!
Па трывозе,
Без лішняга пошуму,
Ўся застава
На пошуку.

Падняліся узлётна і лёгка
І Мірон,
І Зянон,
І Алёшка.

Дзе, куды зараз крокі скіроўвае
Скакунец,
Што дыстанцыю ўзяў
Трохметровую?

Сосны, дуб,
І кусты, і карчы
Хоць маўклівыя,
Ды гледачы.
І сцяжынка,
І верас, і мох
Штось падкажуць,
Акрэсляць намёк.

І Алёшка,
Мірон
І Зянон —
Па карчах,
Па кустах наўздагон.
Незнаёмага ў пушчы спаткалі.
Джынсы.
Куртка.
Рукзак за спіной.
— Вы адкуль? —
Асцярожна спыталі.
— Прэч, дзятва...
Я — дарогай сваёй.

Затрымаць бы, спыніць:
«Рукі ўгору!» —
Не адолеюць, хоць і ўтраіх.
Хлапчукі засталіся ў дазоры:
— Ты, Алёшка, хутчэй да сваіх!

Саступалі наўзбоч мурашкі,
Лес шаптаў:
«Я галінкі ўзніму».
Бег алень да зялёнай фуражкі,
Першай той, што пасвеціць яму.

І дазорцы падказку ўлічылі,
За Алёшкам паскорылі крок.
За кустамі,
За ярам ваўчыным
Затрымалі,
Спынілі,
Не ўцёк
Госць нядобры з ухмылкаю злой.
Джынсы.
Куртка.
Рукзак за спіной.

* * *

Пагранічча
З улоннем лясным.
Паласаты слуп, а на ім —
У калоссях Молат і Серп
З літарамі
СССР.

Грабянец бараны
Шырока
Ўсцяж граніцы роўнядзь навёў.
Чмыхне вожык.
Паскача сарока.
Вепручок пабегае зноў.
Паласа —
Да камочка камочак,
Захавае след кожны,
Не змоўчыць.

Над заставаю сонца ўзышло,
Пакацілася к сонцу дарожка.
Ў цішыню,
Сіняву
І святло
Лёгка-лёгка ступае Алёшка.

*1977 г.*

## КАЗЯРОГ

*Паэма-казка*

З начной разведкі, шлях спазнаны,
Вярталіся ў лес партызаны.
Цішэй! — чыгунка, пераезд
Сцяжыначцы наперарэз.
Там, дзе стаялі, заляглі
Стамлёным целам —
Да зямлі.

Шлагбаўм драўляны, паласаты
Амаль старчма у неба ўзняты.
А на шлагбаўме каля зор
Вісіць, матляецца казёл
З пятлёй тугою на рагах,
Ні «бя» ні «мя»,
І страх і жах.

Чый злосны жарт?
Захопнік люты,
Ён і казлу прынёс пакуты.
Зграблі бясшумна вартавога,
Казла спусцілі
Ледзь жывога.

Дамоў казлу няма вяртання,
З руін не скора вёска ўстане.
А з вёскай ворагі спалілі
Усіх, каго ў палон схапілі.
З бабулькай ён пабег наўцёкі,
Ужо віднеўся лес высокі,
Ўцякалі — не ўцяклі,
Бабульку карнікі ўзялі;
Яго ж — так рагаталі весела —
На-над чыгункаю павесілі.

З начной разведкі, шлях спазнаны,
Вярталіся ў лес партызаны,
З разведкай — лесу навасёл,
Уратаваны йшоў казёл.

* * *

Казла віталі, сустракалі
Дняпроўскай пушчы жыхары.
Сарокі дружна стракаталі,
Барсук высоўваўся з нары.

З-пад дуба рыжая кабыла,
Не маючы, напэўна, зла,
Пафырквала і нават кпіла:
«Няўжо не бачылі казла?
Ды ён — распуснік, валацуга,
Ён не цягнуў ніколі плуга,
Не запрагаўся ў барану,
І збіў ён рогі барану.
Сялом ідзе машына з грузам —
Як сігане казёл у кузаў,
І гэтак на кірмаш ён едзе,
Паблізу там саскокне недзе,
Паб'е бабулькам гарлачы,
Сваволіць, шкодзіць да начы...»

Па праўдзе кажучы, кабыла
Тут крышку лішняга хапіла.
Калі б цяжар цягнуў казёл,
То што рабілі б конь і вол?
А ўсе казліныя пацешкі —
Для гледачоў, для іх усмешкі.
А ні сялібы, ні сяла
Няма на свеце без казла.
І без казла, як без падказкі,
Вядома ж, не бывае казкі.

* * *

З людзьмі казёл прыжыўся ў лесе,
Скубе мурог, з крынічкі п'е.
Спытаўся дзед:
— А як завешся,
Якое ж прозвішча ў цябе?

Маўчыць казёл,
Ні «бя» ні «мя»,
Не можа вымавіць імя.
З дагадкай хтосьці:

— Напэўна, Казя?
Яшчэ здагадка:
— Можа, Вася?
Звярнуўся дзед, і нават строга:
— Мяне паслухайце, старога.
Служыў калісь на караблі,
Падоўгу ў моры мы плылі.
Начамі неба вывучаў,
І неба ўсё —
Ў маіх вачах.
Між сцежак млечных і дарог
Сузор'е свеціць — Казярог.
Казла з-пад неба вы знялі,
Дык ён —
Сузор'е на зямлі.
Пасля агульнага ўзгаднення
Казёл пачуў паведамленне:
— Імя табе даецца звычнае,
Імя зямное і касмічнае.
Для ўсіх баёў і перамог
Цяпер ты будзеш —
Казярог!

Ён з імем звыкся.
Ў Казярога
Сяброў адважных, смелых многа.
Казла на сцежкі баравыя
Бяруць з сабою вартавыя.
Галінка хрусне — за вярсту
Казёл пачуе на пасту.
Стрыгне вушамі, ўскіне рогі,
Сябрам падасць
Сігнал трывогі.

* * *

Усенародная вайна!
У мсціўцаў запаведзь адна:
Варожы эшалон спыніць
І пад адхон яго пусціць.

— Гэй, Казярог,
Вастры свой рог! —
Адсюль, вось з гэтага узмежку,
Ты пойдзеш з намі на жалезку!

Балота.
Дрэўцы.
Луг мурожны.
Ступаюць ціха, асцярожна.
Дзяркач пагнаўся, птах цыбаты,
Вось-вось наступіць ён на пяты.
Крычыць, дзярэцца на ўвесь лог:
— Ка-зя-рог!
Ка-зя-рог!

Лугі. Палі.
Лес цёмны, гулкі —
З высокім насыпам чыгункі.
Вядома хлопцам — на світанку
Састаў падкоціць — едуць танкі.
Усенародная вайна!
У мсціўцаў запаведзь адна:
Састаў варожы падпусціць
І пад адхон яго спусціць.

Ды падыход як на далоні,
Лес ссечаны на ўсім улонні.
Сказалі хлопцы Казярогу:
— Пасты ахоўваюць дарогу.
Туды, на пост,
І справу знай —
Ты вартавога затрымай!

Казёл ступае без аглядкі,
Нібы прад ім з капустай градкі.
На ўзвышшы, як на п'едэстале,
Стаіўся ў сцішанай паставе.
Вачыма зіркае, цікуе,
Стрыжэ вушамі,
Бачыць, чуе.

Фашыста ўбачыў Казярог,
Таропка скіраваў свой крок,
Наблізіўся да вартавога
Для баявога
Дыялога.
«Прымай мой выклік»,—
Знак падаў,
Нацэліў рогі —

І напаў.
Зваліў на дол і, колькі сілы,
На рогі гітлераўца ўскінуў.

З падземных бункераў, са сховаў
На лямант выбегла ахова.
Трывога, страх неразгаданы:
— Дэсант зваліўся?
— Партызаны?
І пачалася страляніна,
З вінтовак паляць несупынна.
І задудукаў кулямёт —
З чаго ж спалох?
Адкуль налёт?

Ракеты ўспыхнулі святлом,
І ўбачыла начная варта:
Ваюе рыжы Фрыц з казлом,
Напады адбівае ўпарта.

Наўкруг — ахоўнікі.
Ўся зграя
За паядынкам назірае:
«Трымайся, Фрыц, з табою — фюрэр!
Здзяры з казла і шэрсць і скуру!»

З пякучай шышкаю на носе,
Фрыц, падбадзёраны, узнёсся,
За нож-палаш схапіўся ён:
Казлу — прысуд,
Казлу — праклён...

З павевам — нарастанне гукаў,
Паблізу эшалон загрукаў —
Наўзбоч хіснуліся пасты,
Наш Казярог
Даў лататы.

Трава, пянёчкі і паленне,
Сцяжынкі вузкай аддаленне.
Пачуў пад соснамі пасля,
Як здрыганулася зямля —
Дрэў захадзілі верхавіны,
Пад небам — выбуху лавіна.

Тым выбухам састаў змяло,
І загрымела, загуло:
Гарэлі танкі і гарматы,
У скрынках бухалі снарады.

Зусім няцяжка здагадацца,
Чый подзвіг тут,
Чыя тут праца.
Пакуль казёл вёў бой рагамі,
Сябры умелымі рукамі
Там-сям пад рэйкі-каляіны
Падклалі міны.

Сябры з дыверсіі вярталіся,
З дубамі, соснамі віталіся.
Сам камандзір стаў перад строем,
Падзяку абвясціў героям.

А дзед казла хваліў як мог:
— Прынёс ты ўдачу, Казярог!
І сем Казлоўскіх,
Два Казловы
Казла віталі добрым словам.

* * *

Сустрэўся доктар:
— Гэй, казёл,
Патрэбна ўсё ж зрабіць укол!
Ад доктара уцёк у роў:
Навошта ўкол,
Калі здароў!

* * *

Шаўца наведаў — лапці плёў,
Абутачак — не для казлоў.
Шавец стараўся, плёў і плёў —
Навошта ж гэтулькі лапцёў?
Казёл, відаць, таго не ведаў:
Не пакідае лапаць следу.



Не спіцца дзеду:
— Казярог,
Даю табе чарговы ўрок!
Глядзі і слухай, забіяка,
Над лесам — Пояс Задыяка:
Сузор'і — Рыбы і Стралец,
Блізняты, Вадалей, Цялец,
І Казярог, і Рак, і Леў,
Яшчэ ёсць Дзева,—
Зразумеў?
А Казярог — дык вось забаўна —
Да нас спусціўся... са шлагбаўма.—
Дзед патрымаў казла за рогі,
Упадабаў ён Казярога...

Без баявых прыгод і спраў
Казёл, вядома ж, сумаваў.



Над рэчкай хлопцы разграмілі
Варожы моцны гарнізон.
І Казярог быў разам з імі,
З сябрамі вернымі сваімі,
І паспяваў усюды ён.

У ворага забралі зброю
І ўсё, што можна ўзяць з сабою.
Яшчэ застаўся у дадатак
Жывёлы свойскай ладны статак.

Жанчыны ў лесе, дзеці ў лесе,
Туды і статак трэба весці.
Прыклалі хлопцы ўсё старанне —
Бляянне ў полі ды рыканне,
Брыдзе жывёла,
З добрай ласкі
Шукае лепшае папаскі.

Агледзеў статак Казярог —
О, колькі ў статку рог і ног!
Паважным крокам страявым
Узяў кірунак,

А за ім
Знаёмым шляхам каля рэчкі
Пайшлі каровы і авечкі.
Жанчыны рады,
Рады дзеці.
— Зноў малако мы будзем есці!

* * *

Кастры начныя запалалі,
У лесе, нібы ў Запаляр'і,
Святло ружовае і ззянне.
Балота блізкага дыханне,
Пах журавін з таго балота
І вуркатанне самалёта —
Пайшоў, пайшоў ён з вышыні
На знак пасадкі,
На агні.

Патрапіў лётчык з гулкай дымкі
Лясным салдатам у абдымкі.
— Ура! — падкінулі аж тройчы,
Настрой у партызан святочны.
Знаёмства, поціскі, вітанні
І пра Маскву, пра фронт пытанні.

І — з рук у рукі,
З рук у рукі —
Газеты, пісьмы, падарункі.
Казла гукнулі:
— Казярог,
Твае, брат, справы прагрымелі!
І Таганрог і Крывы Рог
За подзвіг твой удзячны вельмі.
Яшчэ цябе віншуюць шчыра
Каля высокага Паміра.

* * *

У тыл — абоз.
Грукочуць колы.
На адпачынак — полк стралковы,
Панылы, злосны і не сыты,
Пад Сталінградам недабіты.

Рака і мост.
На тым баку —
Сон і яда у гарадку.
Пакуль абоз —
Казёл на мост.
Перад казлом —
Варожы пост.

— Жывым узяць! —
Загад быў варце,
І на загад прыбеглі ўсе.
Крутнуўся Казярог:
— Бывайце!
І скокам-бокам —
На шасе.

Фашысты люта узлаваны:
— З казлом нахабным — партызаны?
Туман і змрок.
Адкуль пагроза?
Ударылі
У бок абоза.

Спыніўся полк перад агнём:
— Мост партызанскі?
Лупянём!
Мост і абоз.
Сустрэчны бой.
Фашысты б'юцца між сабой.
— Мацней! — жадаюць мсціўцы ім
І памагаюць тым і тым.

З кювета зіркаў Казярог.
Казёл зрабіў усё, што змог.

* * *

Так густа падалі сняжынкі
На лес, на поле і сцяжынкі.
Дзед да казла:
— Ад рог да пят
Бялёсы ты, нібыта зрэбны,
І маскіровачны халат
Табе узімку непатрэбны.

* * *

Былі баі.
Былі паходы.
Былі паходы і прыгоды.

Спусціўшыся з-пад Задыяка,
Казёл фашыстам даўся ў знакі.

Зноў лёг падбіты эшалон?
Дзесь не ўтрымаўся гарнізон? —
Адтуль дарога ў лес вяла,
Былі на ёй сляды казла.

* * *

На вышку, што між сосен трох,
Вясной узняўся Казярог.
Сустрэў і позіркам правёў
Стамлёных лётам жураўлёў.

Здалёк яны вярталіся,
Зніжаліся, спускаліся
На ўлонні журавіныя,
Дзе гнёзды жураўліныя.

Панёсся з вышкі Казярог,
Не заўважаючы прыступак,—
І неба і зямлю аблёг
Злавесны гул,
Страшэнны грукат.

На лес, на сосны і бярозы
Свой груз пусцілі бамбавозы.
Лавіна танкаў і гармат —
На партызан,
Лясных салдат.

Стаў кожны на сваёй мясцінцы —
Трымалі абарону мсціўцы
І білі ворага ва ўпор,
І памагаў ім родны бор,
Сасна туліла, засланяла,
Асколкі на сябе прымала.

Ды ўпаў Казлоў,
Казлоўскі лёг,
Забітых, раненых нямала...
З жанкамі, з дзецьмі Казярог
Імшарай крочыў
Ад навалы.

Усё цяжэй, цяжэй хада,
Балота, лужыны, вада.
Хада — ратунак ад пагоні,
Тапіліся і гразлі коні.

І скарб, і дробныя ўсе рэчы
Прымалі з воза — і на плечы.
Казёл цягнуў на ўласным горбе
Шрыфты друкарскія — дзве торбы.

Дрыгва —
Ні сцежкі, ні дарогі,
Ламачча кідалі пад ногі.
Ды з кожным днём — паўней вады.
І сіл няма,
Няма яды.

Забыўшы пра яду і сон,
Трымалі мсціўцы свой заслон,
Шалёны націск адбівалі,
Жыццё ад згубы ратавалі.

Праз дзесяць дзён,
Праз дзесяць сутак
Спыніўся гул,
Спыніўся стукат.
Слабела ворага навала,
Яму ўжо духу не ставала.

На мове гулкай веснавой
Вялі размову жураўлі,
І мсціўцам чулася у ёй:
— Пера-маглі!
— Пера-маглі!

* * *

Заціхнуў гул.
Улёгся бой.
І на паляне баравой
Было з сябрамі развітанне —
Ў магіле брацкай пахаванне.

На дно магілы лапкі клалі,
Каб вечны сон — як на прывале.
Зямлёй засыпалі сырою
І пакланіліся слязою.

Асобна дзеда пахавалі,
Старога вельмі паважалі:
Матрос, ён з хлопцамі сваімі
Ў Кастрычніку
Браў штурмам Зімні.

* * *

Сорак чацвёрты слаўны год.
У лесе пчолы бралі мёд.
Паўзлі мурашкі на папаску
Па ямах, па варожых касках.

Па ўсіх дарогах — войскі, войскі:
Вёў наступленне
Ракасоўскі.
Грымотна з новых рубяжоў
Зямлёй і небам
Фронт ішоў.
Там — самалёты ў вышыні,
Тут — танкі моцнае брані.

Час вызвалення!
Час чаканы!
Насустрач выйшлі партызаны.
Салдат па-брацку прывіталі,
Як родных, блізкіх, абдымалі.

— Адкуль, браточкі?
— Мы — башкіры!
— А мы, таварышы,—
З Сібіры!

— А нас Туркменія паслала!
— Мы — украінцы!
— Мы — з Урала!

* * *

А на прывале за сялом
Спатксліся вярблюд з казлом.
Цягнуў гармату верблюдок,
Яго тут звалі —
Кавылёк.

Казёл глядзеў і ўсё дзівіўся:
Адкуль дзівак такі з'явіўся?
З высокім горбам, даўганогі,
Каб для красы яму —
Хоць рогі!
Вярблюд уважыў Казярога,
Абнюхалі адзін другога.
І захацеў казёл-пракуда
Здзівіць ціхмянага вярблюда.

Казёл вярблюду:
— Зможаш так? —
І скокнуў стрымгалоў на танк,
На вежу ўзнёсся адным махам
І стаў вышэй за ўсіх над шляхам.

Тут,
Каля танка баявога,
Спыніўся маршал Ракасоўскі
І Кавылька і Казярога
Вітаў [redacted] усмешкаю
Па-свойску.

Вяла уперад Перамога,
Была ва ўсіх
Адна дарога.

*1977 г.*



*Муса Джаліль*

**З кнігі «МААБІЦКІ СШЫТАК», 1975 г.**

## МАЕ ПЕСНІ

Песні, ў душы я ўзрасціў вашы ўсходы,
Вось вы ў айчыне квітнець пачалі.
Колькі агню ў вас і колькі свабоды,
Столькі вам дадзена жыць на зямлі.

Вам давяраў я натхнення набытак,
Слёз чысціню і ўвесь жар пачуцця.
Суджана смерць вам —
памру я, забыты,
Ваша жыццё — мне працягам жыцця.

Ў песні агонь запаліў я, такая
Воля народа была ў грозны час.
Песня служыла пярэдняму краю,
Ворага перамагала не раз.

Нізкія радасці,
дробнае шчасце
Я адкідаю, як злую траву.
Песня напоўнена праўдай і страсцю,
Тым, для чаго я ў змаганні жыву.

Сэрца маё перад тым, як астыне,
Здзейсніць сумленную клятву сваю:
Песні заўжды прысвячаў я айчыне,
Сёння айчыне жыццё аддаю.

Пеў я, адчуўшы пару веснавую,
Пеў я, ўступаючы ў першы свой бой.
Вось і апошнюю песню пішу я,
Ката ўжо бачачы перад сабой.

Песня мяне навучыла свабодзе,
Песня ўзялася і смерці вучыць.
Песняй звінела жыццё у народзе,
Смерць жа
як гімн барацьбы прагучыць.

*26 лістапада 1943 г.*

## ПЕСНЯ ДЗЯЎЧЫНЫ

Любы мой, радасць лёсу майго,
У паходны становіцца строй.
Любы мой, сонца лёсу майго,
Панясе сэрца сябра з сабой.

Так нялёгка развітвацца мне
І сказаць: «Мой любімы, бывай!»
Хай жа куля яго абміне,
І ён вернецца ў родны свой край.

Ліст аб тым, што чакаю, люблю,
Перашлю я джыгіту свайму.
Ліст аб тым, што чакаю, люблю,
Як дарунак найлепшы яму.

*Чэрвень 1942 г.*

## ХУСЦІНКА

Перад расстаннем вышыла каймою
І на ўспамін дала хусцінку мне.
Дарунак любы! Ён заўжды са мною,
І ім закрыў я рану на вайне.

Хусцінка фарбавалася крывёю,
Я згадваў дом і кветкі пад акном,
Нібы схіляла голаў нада мною
Мая сяброўка ў полі пад агнём.

Перад варожай сілай я не ўкленчыў,
Не адступіў у бітве ні на крок,
Хусцінкаю вось гэтаю засведчыў,
Як шчасце наша ў цяжкі час бярог.

*Чэрвень 1942 г.*

## ДАРУЙ, РАДЗІМА!

Даруй мне, твайму радавому,
Самай маленькай частцы тваёй.
Даруй, што не даў мне скanання
Смерцю салдата той жаркі бой.

Хто можа сказаць, што я табе здрадзіў?
Хто хоць у чымсьці мне кіне папрок?
Волхаў — за сведку: я не збаяўся,
Пылінку жыцця майго не бярог.

У пятлі акружэння пад бомбамі
Ўскіпалі нянавісць і гнеў.
Бачачы раны, смерць пабрацімаў,
Тварам я не спалатнеў.

Слязінкі не выпусціў, хоць ведаў:
Дарогі адрэзаны. Чуў жа я:
Смерць бязлітасная лічыла
Секунды майго жыцця.

Я не чакаў ні ратунку, ні цуда,
Смерць прасіў маленнем вачэй:
— Дабі,
уратуй ад жорсткага рабства! —
Прыспешваў яе: — Хутчэй!..

Хіба не я жонцы пісаў:
«Не турбуйся», —
Хіба суцешваў не я сам:
«Апошняя кропля крыві капне —
На клятве маёй не будзе плям».

Хіба не я вершам сваім пакляўся,
Йдучы на крывавую вайну:
«Смерць усмешку маю ўбачыць,
Калі апошні раз уздыхну».

Аб тым, што твая любоў, сяброўка,
Агнём жыцця поўніла мне душу,
Што Радзіму і цябе люблю я,
Крывёю маёй на зямлі напішу.

Яшчэ аб тым, што буду спакойны,
Калі за Радзіму смерць прыму.
Жывой вадой гэта клятва будзе
Сэрцу змаўкаючаму майму.

Лёс мой насмяяўся з мяне:
Смерці чакаў — не дачакаўся яе,
Апошні патрон — як запавет!
Мне здрадзіў
мой пісталет...

Скарпіён сябе забівае джалам,
Арол забіваецца аб скалу.
Хіба арлом не быў я, каб мне
Памерці так, як належыць арлу?

Радзіма, павер мне, быў арлом я, —
Гарэла ўва мне арліная страсць!
Крылы ўжо склаў я — ўніз каменем
І смерці бяздонне спаткаць.

Што рабіць?
Адмовіў мне ў слове,
Ў слове апошнім друг пісталет.
Вораг мне сцяў схаладзелыя рукі,
Пылам заслаўся крывавы мой след.

...Я ўбачыў зару над калючым плотам,
Жыву — паэзія жыццё дала:

Полымем нянавісці сцякае
Раненае сэрца арла.

Зноў зара над калючым плотам,
Можа, сцяг ваш, сябры, бачу я?
Нянавісці крывавай ірдзее
Палоненая душа мая.

Толькі адна ў мяне надзея:
Будзе жнівень.
                    У імгле начной
Гнеў мой да ворага, любоў да айчыны
Выйдуць з палону разам са мной.

Ёсць адна ў мяне надзея —
Сэрца радуецца аднаму:
У вашых радах ісці на бітву
Дайце, таварышы, месца яму!

*Ліпень 1942 г.*

## ВОЛЯ

І ў час начнога соннага спакою,
І ў час, калі світанне настае,
Здаецца мне, чагось няма са мною,
Усё чагосьці вельмі не стае.

Усё тыя ж рукі, ногі, як заўсёды,
І ёсць душа,
                    што целам даражыць,
А справа вось у чым — няма свабоды,
Няволяй цяжка дыхаць, цяжка жыць.

Калі і мова у турме змаўкае,
Сардэчнае спыняецца біццё,
Якое тут ужо значэнне мае
Само жыццё тваё ці небыццё?

Што мне з таго, што быццам не без зроку,
Што ногі ёсць —
магу ісці й глядзець,
Бо не ступіць на волі мне ні кроку
І песняю раскутай не звінець.

Я вырас без бацькоў, але, як помню,
Не адчуваў сябе я сіратой.
І тое, што так дарага было мне,
Згубіў: айчыну, край бацькоўскі мой.

У ворагаў я раб тут і нявольнік,
Без волі, без сяброў — лёс сіраты.
Але я ўсё ж для ворагаў — крамольнік,
Жыццё закута ў краты і драты.

Мая свабода, воля залатая,
Ты птушкай паляцела наўсягды.
Ўзяла б мяне з сабой, як адлятала,
Чаму я ў полі не сканаў тады?

Не перадаць, не выказаць мне болю,
Свабода незваротная мая.
Ці ж ведаў я на волі цану волі!
Спазнаў яе цану ў няволі я!

Калі ж мой лёс разбурыць перашкоду
І знойдзе тут мяне яшчэ ў жывых,—
Я барацьбе за волю і свабоду
Аддам увесь астатак дзён маіх.

*Ліпень 1942 г.*

## ТОЛЬКІ Б ВОЛЯ МНЕ БЫЛА

### 1

Ластаўкай калі б я быў,
Крыламі калі б я біў,
Ў час, як сонейка засне,
Зорачка Чалпан мігне,

Родны дом, зямля мая,
Прыляцеў бы к табе я,
    Быццам бы ў шчаслівым сне.

2

Быў бы рыбкай залатой,
У часіну, як ракой
    Ходзяць хвалі і кругі,
    Затапляюць берагі,
Даўгакосая мая,
Да цябе прыплыў бы я,
    Толькі ўсцеліць змрок лугі.

3

Быў бы быстрым я канём,
Ў час, калі жывым агнём
    Бліснуць росы на траве,
    Вецер грыву разаўе,
Зорачка, дачка мая,
Да цябе прыбег бы я,
    Чуў бы: кветак пах плыве.

4

Толькі б воля мне была,
Воля б мне усё дала —
    Шаблю я б у рукі ўзяў,
    Карабін у рукі ўзяў,
Край любімы, ў барацьбе
Пастаяў бы за цябе,
    Ў слаўнай бітве голаў склаў!

*1942 г.*

## ЛЕС

Ужо згасае дзень,— я ўсё яшчэ стаю
І з пацяжэлаю душою
Маўкліва думу думаю сваю,
Гляджу на лес, што ўстаў сцяною.

Там, можа, партызаны прыляглі
Каля кастра — і скачуць веткі,—
«Дзядулевы» адважныя арлы,
Відаць, вярнуліся з разведкі.

Там нанач, можа быць, таварыш «Т»
Вялікую задумаў справу,
Здаецца ж, чуў я, чуў у цемнаце,
Як мужны шаблю сваю правіў.

Лес, лес, глядзі, паміж табой і мной
Кальцом жалезным загароды.
Ў палоне толькі цела,— розум мой,
Мой дух не маюць перашкоды.

Ён вольны, кружыць там, у гушчары,
Твае сцяжынкі аглядае.
Кладуся спаць ці ўстану да зары,—
Усё голас твой мяне гукае.

Лес, лес, усякі раз кране
Твой покліч з цемрадзі сасновай,
Ты вучыш песням ярасці мяне,
І помсце вучыш ты суровай.

Лес, лес, як цяжка доля мне мая,
Як вольнай я зайздрошчу кроне.
Скажы, дзе ўсе сябры,— пытаю я,—
Куды схаваў іх, нескароны?

Лес, лес, вядзі хутчэй мяне да іх
І зброю дай,— адвагу ж маю.
Памру, зваліўшы ворагаў маіх,
І клятву чыстую стрымаю!

*Ліпень 1942 г.*

## ЧЫРВОНЫ РАМОНАК

Промень поле асвяціў
І рамонкі разбудзіў:
Усміхнуліся спрасонку,
Пацягнуліся так звонка.
Вецярок іх калыхаў,
У вяночак сабіраў,
Іх зара памыла чыстай
Свежаю расой іскрыстай.
Так люляюцца яны,
Светам цешацца яны.
Раптам позірк свой рамонкі
Павярнулі да сяброўкі.
Гэта дзеўчанё ў красе
Не такое, як усе:
Бо ўсе кветкі-прыгажуні
Носяць белыя кашулі.
Між белых, іх,— яна,
Быццам кроў, была адна.
Ўсе здзівіліся нямала:
— Ты чаму чырвонай стала?
— Дзе свой колер узяла?
І яна адказ дала:
— Вось якая выйшла справа,
Ноччу бітва ускіпала,
І плячо ў плячо са мной
Тут ляжаў баец-герой.
З ворагам ён стаў змагацца,
Ён адзін, а іх пятнаццаць.
Ён іх біў, не адступіў,
Толькі ранен ранкам быў.
Як ляжаў,— сцякаў крывёю,
І памылася я ёю.
Ён пайшоў, яго няма,—
Буду дзень вітаць сама.
І цяпер па ім гарую,
Зоркаю Чалпан гару я.

*Ліпень 1942 г.*

## САЛАВЕЙ І КРЫНІЦА

*Балада*

1

Ледзь займецца зара,
Ледзь пачне цалаваць
Шыр палёў, цёмны лес
І азёрную гладзь,—

Страпянецца ад сну,
Б'е крылом салавей,
І глядзіць ён удаль,
Дзе плыве санцавей.

Там крыніца цурчыць
Па зямным латаку,
Так сумуе яна
Па сваім сябруку.

Як цудоўна, сябры,
Адчуваць, ведаць зноў,
Што хтось любіць цябе,
Ёсць на свеце любоў!

Птах крыніцу любіў,
А крыніца — яго,—
Паміж імі узнік
Чыстай дружбы агонь.

Раніцой салавей
Пакідае свой лес
І вясёлкай жывой
Абмываецца ўвесь.

Рады ён і яна́,
Шчасце ў іх — на дваіх!
Доўга можна глядзець
З любаваннем на іх.

2

Разбудзіла зара
Салаўя, як заўжды:
Страпянуўся, зірнуў
Ён туды і сюды.

Узляцеў-паляцеў
Да крыніцы хутчэй.
Ды сяброўку цяпер
Не пазнаў салавей.

Не смяецца яна,
Весялосць яе дзе?
Нерухома ляжыць,
Гора, гора гняце.

І крыштальны струмень
Замуціўся, сцямнеў.
Нібы ў кроплі любой
Падымаецца гнеў.

У здзіўленні тады
Запытаў салавей:
— Што здарылася тут?
І прамовіў ручэй:

— Вораг нашай зямлі
Тут учора хадзіў
І маю чысціню
Замуціў, атруціў.

Баязліва пабег
Крывасмок і бандыт,
А за ім па слядах —
Наш адважны джыгіт.

Вораг ведаў: джыгіт
Піць захоча ў баі,
Не ўстрымаецца ён,
Скажа мне: «Напаі!»

Вып'е яду глыток —
І на месцы забіт,

І ад помсты ўцячэ
Крывасмок і бандыт.

Што рабіць мне, скажы,
Верны шлях пакажы:
Як адвесці бяду?
Ці ратунак знайду?

У развазе сказаў
Птах крыніцы сваёй:
— Не трывожся,— сказаў,—
Не загіне герой.

Як захоча ён піць
На тваім мурагу,
Знаю, што мне зрабіць,
Я жыццё зберагу!..

3

І прымчаўся баец,
Той, што ворага гнаў,
Той, што ў дужых руках
Зброю моцна трымаў.

Знішчыць ворага ён
І адпомсціць за ўсё,
Бо айчына яму
Даражэй за жыццё.

Так стаміўся, прыстаў
Франтавік малады.
Ох, цяпер бы яму
Хоць бы кроплю вады!

І крынічнай вады
Ўбачыў ён глыбіню.
Ён знясілеў ад смагі,
Ад злога агню.

Да вады б ён прынік,
Усю б выпіў яе.
Ды здзівіўся джыгіт:
Салавейка пяе.

Перад воінам сеў
На вярбовым кусце.
І пяе.
        Так пяе,
Бы размову вядзе.

І пяе ён аб тым,
Што жыве ў нас любоў,
І пяе ён аб тым,
Як хвалюецца кроў.

Гордай справе байца
Ён хвалу аддае —
Ён аб смерці пяе,
Ён аб славе пяе.

Сэрцу сябра хвалу
Аддае салавей,
Бо на свеце любоў
Нават смерці мацней.

Славіць вернасць сяброў,
Славіць дружбу сяброў,
Гэту песню яго
Поўняць страсць і любоў.

4

Хоць і слухаў джыгіт,
Хоць кранаў яго спеў,—
Што сказаў салавей,
Зразумець не здалеў.

Нахіліўся ніжэй,
Прадчувае глыток,
На засмяглых губах
Чуе ўжо халадок.

Скокнуў птах да байца
І да рота прыпаў,
Кроплю тую схапіў
І ў крыніцу упаў...

Шчасце меў салавей —
Як герой паміраў:

Клятву мужна стрымаў
І сяброўку абняў.

Зашумела вада,
Ў бераг грукнуў паток
І прапаў,
Толькі з дна
Віўся чорны дымок.

Юны волат стаяў
Над крынiччам пустым.
Вельмі здзіўлены быў
Ён знікненнем такім.

Зноў джыгіт на кані,
Шабля зноў у руках.
Знішчыць ворага ён
У наступных баях.

Новы жар запылаў
Тут
у сэрцы жывым!
І растуць, і растуць
Сілы новыя ў ім.

З нараджэння свайго
Вольнай бачыў зямлю.
Любіць сэрцам усім
Ён радзіму сваю.

А смяротны свой час
Ён гатовы сустрэць так
І сустрэне яго,
Як крыніца і птах.

*Ліпень 1942 г.*

## ПТУШКА

Ланцуг баракаў і пясок сыпучы
Калючкаю абнесены вакол.
Як быццам мы жукі у гнойнай кучы:
Варушымся, сыходзячы у дол.

Усходзіць сонца,
як з часоў стварэння,
Але чаму пахмурнае яно?
Не грэюць нас, не пестуюць праменні,
Нібы на свеце сонца не адно.

За лагерам прасцёрты лес і поле,
Парой чуваць, як косы клепяць там.
Учора з плота, трапіўшы ў няволю,
Пяюха добрая спявала нам.

Ты не спявай на плоце, як учора,
У лагер небяспечна прылятаць.
Ты бачыла сама — тут смерць і гора,
Тут прымушаюць слёзы нас глытаць.

Ой, госця любая, ты, калі ласка,
Мне адкажы: на нашу старану
Зноў паляціш ты вольна, без апаскі?
Хачу я просьбу выказаць адну.

У нескароным сэрцы просьба гэта
Жыла ў аздобе самых лепшых слоў.
Мой быстракрылы птах!
Як спеў паэта,
Імчыся ў даль да родных мне палёў.

Па крылах-стрэлах і па звонкай песні
Цябе пазнаюць на радзіме ўсе
І скажуць гэтак: — Аб паэце весткі
Вось гэта птушка з далечы нясе;

Яго трымае пільная ахова,
Ды немагчыма волю ў ім зламаць.
Хаця і вязень ён, паэта слова
Ніхто не зможа знішчыць, закаваць.

Ты з песняй вольнаю, што будзеш несці,
Ляці праз вогненныя рубяжы.
Калі загіну на чужыне дзесьці,
Ў краіне роднай песня будзе жыць.

*Жнівень 1942 г.*

## ШЧАСЦЕ

Былыя нягоды,
Бяда і пакуты,
Прамчацца, як воды,
Забудуцца хутка.

Часіна надыдзе,
Адчуецца, што ты
Не плакаў у крыўдзе,
Не зведаў гаркоты.

Ды век не астудзіш,
Хоць вокны ўсе насцеж,
Ды век не забудзеш
Мінулага шчасця.

Жывіце вы доўга,
Як сонца праменні,
О, шчасце людскога
Часы і імгненні.

*Восень 1942 г.*

## НЕАДЧЭПНЫЯ ДУМКІ

Напэўна, недарэчна я памру,
Бо не здалею голад, сцюж гайню.
Як бедная жабрачка, я памру,
Скалеўшы ля пагаслага агню.

Памерці як мужчына марыў я
Ў агні ўраганным тым, што не міне.
Ды не! Як лямпа, сінім аганьком
Чадзею. Міг — і ўжо няма мяне.

Здзяйснення дарагіх маіх надзей
Не прычакаў.
«З усмешкаю памры» —
Дарма я словы гэткія пісаў.
Мне паміраць не хочацца, сябры!

Ці ж многа добрых спраў ажыццявіў?
Ці ўжо так многа я на свеце жыў?
Калі б даўжэй шугала дзён святло,
То ад жыцця карысці б больш было.

Не думаў я раней і не гадаў,
Што стану вязнем жорсткасці людской,
Такога гневу я ў сабе не знаў,
Не знаў любові і журбы такой.

Цяпер адчуў, зірнуўшы ў твар вайны,
Што можа сэрца так палаць ва мне —
І засталося толькі шкадаваць:
Не мог яго радзіме я аддаць!

Не страшна паміраць —
вось мой чарод,
Калі жыццё аддаў за свой народ.
Сканаць ад голаду? Зямля мая,
Ганебнай смерці не жадаю я.

Я жыць хачу, хачу я адчуваць
Апошні самы сэрца той штуршок,
Каб, паміраючы, я мог сказаць:
Радзіме ўсё аддаў, што мог аддаць.

*Верасень 1942 г.*

## ПІСЬМО

*Песня*

**1**

Я ў зацішку між баямі
Гаварыць задумаў з вамі,
Вам пісьмо б я напісаў!
Эх, дзяўчаты, сёстры, сёстры,
Вам пісьмо б я напісаў!
Вестку ў песню вы ўключыце,
І мяне вы памяніце
На гулянцы і ў садку.
Эх, дзяўчаты, сёстры, сёстры,
На гулянцы і ў садку.

**2**

Стрэнемся з ардой крывавай,
Знішчым ворага са славай
І мы вернемся дамоў.
Эх, дзяўчаты, сёстры, сёстры! —
І мы вернемся дамоў.
А не суджана вярнуцца,—
Сэрцы ў песні адгукнуцца,
Гэта шчасцем будзе нам.
Эх, дзяўчаты, сёстры, сёстры,
Гэта шчасцем будзе нам.

**3**

І калі мы неабходны,
Край любімы, край наш родны,
Мы становімся мацней.
Эх, дзяўчаты, сёстры, сёстры! —
Мы становімся мацней.
Знікне гора, будзе шчасце,
Перамогі пажадайце!
Вечна ў нашых сэрцах вы,
Эх, дзяўчаты, сёстры, сёстры,
Вечна ў нашых сэрцах вы.

*Верасень 1942 г. (?)*

## У ПІЎНОЙ

Парог бацькоўскі я пакінуў рана,
Ўсё думаў, скіраваць куды б мне крок?
І выпаў гонар мне,
хлапец рахманы,—
На службу трапіў я ў піўны ларок.

І піва п'ю цяпер, мае браточкі,
І не за грошы, пахвалюся перш.
А з донца кожнай апусцелай бочкі,
Ледзь нахіліўшы,
ўсе астаткі п'еш.

Прыкіну так і сяк, дзіўлюся дзіву:
Было сто бочак, і давай яшчэ!
Але ж ці ў жыватах змясціцца піву?
А піва ў куфлі ўсё цячэ, цячэ...

Мой нос малы, на твары ёсць румянец,
А галава ад пары, будзь здароў,
Танцуе на плячах вясёлы танец,
Парой ад піва лопнуць я гатоў.

Артысты і паэты ў нашай залі.
І качагар замурзаны ідзе.
Бухгалтары! Такія прыбягалі
З аглядкаю, маўляў, перападзе.

Шаноўнага кліента адпраўляю,
Хвалою перад ім сцялю я шлях.
А іншага я за каўнер хапаю,
Ледзь-ледзь каленам
паддаю ў дзвярах.

Самога д'ябла ўзяў бы я за грудзі,
Затое сам магу я страшным быць.
Усё тут кружыцца — бутэлькі, людзі,
І зала наша, як кацёл, кіпіць.

Чынуша за сталом сядзіць, схмялелы,
Відаць, пазбавіўся усіх турбот.
Яго кішэні сёння ўжо схуднелі,
Ды час ад часу ўсё паўней жывот.

А вось акцёр. Сабе на гора ўчора
Ён піў, затым, забыўшы зняць чалму,
На сцэне ён з'явіўся ў «Рэвізоры»,
І гледачы зашыкалі яму.

Ды творыць тут паэт
з натхнёным тварам,
Зеленавокі, з грываю густой.
Ён творыць тут і тым жа ганарарам
Выдаткі пакрывае ўсе ў піўной.

І рошчыну сімфоніі паставіў
Славуты кампазітар, а цяпер
Ён добра півам рошчыну заправіў,
І вось яна ўзыходзіць — вер не вер!

Касір Гімай зайшоў на куфаль піва,
Калі вяртаўся з банка на пастой.
Цяпер ён у міліцыі. Вось дзіва!
Панылы. Звесіў нос. І сам не свой.

Я моцна трос, будзіў, як нежывога,
І не ўскатурхаў госця аднаго.
Цвярозым стаў імгненна ён, нябога,
Калі зірнула жонка на яго!

Што загс!
Без нас бы загсы што рабілі?
Вяршым мы лёсы ў позні нават час.
Джыгіт страчаецца з сваёй любімай,
І з жонкай муж разводзіцца у нас.

Цырульніку сусед, сядзеў ён блізка,
Так спадабаўся, што лязом стальным
Таму суседу, кажучы «сасіска!»,
Адрэзаў нос і вуха назусім.

І ў той жа дзень,
любога можа ўзрушыць,
Бязносага прывёў цырульнік сам.
«Я позна аценіў цябе, мой дружа»,—
Сказаў бязносы — волю даў слязам.

Нібыта ласку ён зрабіў, як другу,
Цырульнік той, калі адрэзаў нос.

Як быццам бы нядобраю паслугай
Нябогу паратунак ён прынёс.

Прыгрэла пекара піўная зала —
Ў пякарню ногі ледзь дацёг свае,
І люлька ў цеста свежае упала,
Цяпер ён з хлеба выцягнуў яе!

Пажарнік на пасту пачаў кімарыць,
Паддаўся хмелю гэты вартаўнік,
І не было каму у звон ударыць,
Калі пажар на каланчы узнік.

Згарэла вышка! Справы вось якія!
Пажарніка знялі з яго паста.
Ды і са мной, браточкі дарагія,
Здарылася вось гэткая лухта.

Адкаркаваўшы бочку, хмелем сыты,
Памалу п'ю, куды яшчэ ісці?
І з бочкі той, што мной была адкрыта,
Я выпіў куфляў болей дзесяці.

Як лоцман тонучага парахода,
Ляжу я ў бочцы, спіцца добра мне.
Вакол прасторы мора піўзавода,
А я між хваляў плаваю у сне.

Мяне знайшлі і трэслі колькі сілы,
Сон перабілі, і такая рэч —
Не папярэджвалі і не прасілі,
А проста з бара вытурылі прэч.

Цяпер, сябры, адным сябе я цешу —
Падацца я хачу на піўзавод.
На новым месцы буду разумнейшы,
Пачну рабіць усё наадварот.

Я зверху бочку не крану ні крыху!
А знізу прасвідрую я цвіком
І навучуся, родныя, паціху
Цераз саломінку цягнуць тайком.

*Верасень 1942 г.*

## ПАЭТ

Не спаў паэт да дня, пісаў радкі,
Сляза сцякала за слязою.
Грымела навальніца за акном,
І дом
　　　трымцеў парой начною.

З налёту вецер дзверы расчыніў,
Параскідаў шматкі паперы,
Рвануўся прэч і ярасна завыў,
І ў сэрцы сум, журба без меры.

Ідуць гарамі хвалі па рацэ,
Стаіць паранены дуб-волат.
Сціхае гром.
　　　　　　У зябкай цішыні
Спаўзае на пасёлак холад.

А над сталом паэта даўно
Хадзілі хмары грамавыя.
І падалі на аркушы ўсю ноч
Сугуччаў бліскаўкі жывыя.

Паэт у час світальны змоўк
　　　　　　　　　　　　　　і ўстаў,
Спаліў без жалю плён натхнення
І дом пакінуў.
　　　　　　　Вецер сціх. Зара
Ружова ззяла ў аддаленні.

Аб чым складаў радкі свае паэт?
Якія ён знаходзіў словы?
Што сэрцам адчуваў, калі ішоў,
Прылашчаны зарой ружовай?

Няхай аб ім раскажа гром і шум,
Што ў далячынь адсюль сплывае,
Уноч народжаны прамень зары
І ў небе хмарка агнявая.

*Кастрычнік 1942 г.*

## РАССТАВАННЕ

Як цяжка расставацца ў прадчуванні,
Што з сябрам не сустрэнешся ты зноў,
А маеш ты адзінае багацце —
Яно адно сяброўства ды любоў!
Калі душа з душою так з'яднаны,
Што падзялі іх — і памруць яны,
Калі разлука —
непасільны клопат,
З якім нядоўгім будзе шлях зямны.
Раптоўна ад цябе навекі сябра
Выкрадвае, бярэ няўмольны лёс.
Апошні раз да губ памкнуцца губы,
Сваіх саромецца не станеш слёз...
Як шмат было таварышаў любімых,
Сяброў...
Цяпер самотны я душой.
А толькі іхнія яшчэ ўсё слёзы
Не высыхаюць на шчацэ маёй.
Якіх мне навальніц чакаць —
не знаю,
Няхай мне скуру высушаць гады,
Ды едкі след слязы апошняй друга
На ёй я буду адчуваць заўжды.
Нямала гора зведаў я на свеце.
Ужо я вочы выплакаў даўно.
Але слязу знайшоў бы для спаткання
З таварышам,
калі б было яно.
Не дні, не месяцы, гады пакуты
Ляжаць гарамі на грудзях маіх...
Мой лёс,
так мала у цябе прашу я:
Ты дай сустрэчы мне шчаслівы міг!

*Кастрычнік 1942 г.*

## ЛЕКІ

Хворая дзяўчынка у пасцелі.
Не ўстае.
                    І глуха б'ецца сэрца.
Дактары ёй памагчы хацелі,
Перабралі лекі ўсе,
                              здаецца.

Так ішлі ў снах цяжкіх дні і ночы,
Тыдні йшлі у смутку і трывозе.
Але дзверы расчыніліся аднойчы,
І — любімы бацька на парозе.

Упрыгожыў шрам яму аблічча,
У паходах пацямнела дзяга.
Ўжо дзяўчынка дзён даўно не лічыць,
Ужо сэрцу стомленаму блага.

Дарагія рысы ўміг пазнала,
Падавала бацьку ручаняты.
Толькі адно слова і сказала,
Усміхнуўшыся, сказала: «Тата!»

Успацела ў тую ноч малая,
І хвароба ўвідавочкі чэзне.
Доктар нешта ціха вымаўляе,
Дзівіцца такому вылячэнню.

А чаго здзіўляцца,
                              доктар мілы,
Памагаюць нашаму здароўю
Лекі самай цудадзейнай сілы,
Тыя, што завуцца ў нас любоўю.

*Кастрычнік — лістапад 1942 г.*

## МЕЧ

> Хто з мячом прыйдзе,
> ад мяча і загіне.
>
> *Аляксандр Неўскі*

— Нялёгкі пояс у паходзе,
Ён адцяжараны клінком,
Пакрыты густа пылам боты,—
Стаміўся ты, ўвайдзі ў мой дом.

Шаўковую вазьму я коўдру
І пасцялю, жаданы мой.
Час будзеш мець зямныя грудзі
Абмыць слязою і крывёй.

І запрашэнне гаспадыні
Нямецкі выслухаў маёр.
У дом зайшоў,
                    дзвярыма грукнуў
І на яе глядзіць ва ўпор.

— Хто ты, красуня, я не знаю,
Ды ты б каханкай быць магла.
Гатуй абед, дастань гарэлкі,
Затым у ложак — ад стала.

Зварыла курыцу жанчына,
Пітво у посуд лье шкляны.
І задаволена кладзецца
Маёр, і сыты і п'яны.

Яна, пакорліва нібыта,
Здымае боты з «панскіх ног»,
Бярэ мундзір зялёна-шэры
І з добрай ручкаю клінок.

Уцех салодкіх і абдымкаў
Маёр чакае як хутчэй.
Бляск сталі бачыць над сабою
І позірк вогненны вачэй.

— Ты апаганіў край мой родны,
Паспеў і мужа ўжо забіць
І раскрываеш мне абдымкі —
Жадаеш юр свой наталіць.

Ты захацеў, каб мілавала
Цябе,
    пазбыўшыся ўсяго?
О, не!
    З мячом да нас хто прыйдзе,
Той і загіне ад яго.

Клінок яму яна ўсадзіла,
Лязо да ручкі — у грудзях.
Маёр, галаварэз адпеты,
Закончыў свой бясслаўны шлях.

Ён пачастункам сыт па горла,
Ўжо кроў струменіць з самаго.
— Памры! З мячом да нас хто
                        прыйдзе,
Той і загіне ад яго.

*Лістапад 1942 г.*

## ЗВАНОК

Аднойчы каля дзвярэй асабняка
Высокага
    стаяў хлапчук маленькі.
А дацягнуцца пальцам да званка
Не мог — і быў збянтэжаны ён нейкі.
Я падышоў і гавару яму:
— Што, хлопчык, кепска?
                Не хапае росту?
Ну што ж, твой клопат на сябе вазьму,
Адзін званок ці два? Мне гэта проста.
— Аж пяць? —
        Званю, пільнуючыся ліку.
А хлопчык мне:
        — Ну, дзядзечка, гайда!
Бяжым хутчэй!
        Хоць ты смяльчак вялікі,
Дасць прачуханца гаспадар,— бяда!

*Снежань 1942 г.*

## РАБ

Здаўся ворагу. Кінуў вінтоўку.
І адразу зрабіўся рабом.
Бо ўжо скручаны рукі вяроўкай,
Пазнаёміўся ўжо з бізуном.

І, нагружаны грузу гарою,
Ён закрэслены з гэтай пары.
Над яго галавой маладою
Каты ўзносяць свае тапары.

Быццам рабскім кляймом, адзначан
Ён ударам таго бізуна.
І каромыслам, не па-юначы,
Ўжо сагнута яго спіна.

Ці ж у ім, скрукаваным, гарбатым,
Нешта ёсць ад сапраўдных байцоў?
Ні душы,
ні адвагі салдата,
Стаў уласнасцю гаспадароў.

Рукі ўзняў ты перад чужакамі
І закрыў шлях жыццёвы навек,
Існаваць будзеш пад бізунамі
І забудзь жа,
што ты чалавек!
Толькі раз рукі ўгору узняў —
І навек сябе ў рабства аддаў.

Ты змагайся за добрую справу,
Ў бой ідзе з намі праўда сама.
Быць героем —
і гонар і слава,
Быць рабом —
большай ганьбы няма.

*Студзень 1943 г.*

## ХАДЗІЧА

Станам Хадзіча як ветка
І з гульні сваёй нярэдка
У паўночны час прыходзіць:
Любіць пагуляць суседка.

Вартаўнік сівабароды
Ўчора зачыніў вароты
І заснуў,
чакаць не стаўшы.
Што рабіць ёй? Вось турбота.

Спаць пад небам несагрэтым
Каля плота нават летам
Несалодка, хоць сумленне
Чыстае, як твар, пры гэтым.

Тоіць Хадзіча журботу,
Лезе цераз загароду
І парвала чымсь спадніцу,
Калі брала перашкоду.

Дзеўчына на самым золку
Ўсё б зрабіла б не без толку,
Калі б толькі пажадала
Ніткай закілзаць іголку.

А яна сказала: «Позна,
Бач, на небе зор завозна».
Сну аддаўшыся бязвольна,
Абышлася несур'ёзна.

Коўдру раніцай скідала
Неахвотна —
мала спала,
І пабегла на работу:
Часу надта бракавала.

Бедавала: ўсе прыкмецяць —
Ножка голым целам свеціць.
А жанкі спадніцу лічаць
Самай моднаю на свеце.

Дзень мінуў.
І вось пацеха:
Ні спадніцы — без прарэху,—
Пастараўся пол жаночы.
Ледзь не плачу я ад смеху.

Зменліва, нібы пагода,
Дзень жыве парою мода.
Каб спадніцу ў час прыходу
Ўчора Хадзіча зашыла,
Не была б сапсута мода.

І дзяўчатам, і кабетам
Раю: ні зімой, ні летам
Не гуляйце надта позна,
Вельмі я прашу аб гэтым.

Калі поўня на арбіце,
Перашкоды не бярыце
І, парваўшы штосьці такое,
Модным гэта не лічыце!

*12 лютага 1943 г.*

## ПРАСТУДЖАНАЕ КАХАННЕ

Я пакахаў, даўно было ўжо гэта —
Часінаю юнацкаю маёй.
Кахання кветка, кажуць так паэты,
Раскрылася сцюдзёнаю зімой.

І раптам лёс паслаў мне пакаранне.
Мой нос пацёк, я катар падхапіў.
А да сваёй каханай на спатканне
Дакладна ў час прызначаны прыбыў.

Мы з ёй сядзім. Хусцiначку ў кішэні
Я не знаходжу, быццам бы назло.

Ў вачах туман, у галаве кружэнне,
А з носа ручаінай пацякло...

Я духам паў.
Што мне рабіць, не знаю.
І не знаходжу я патрэбных слоў.
Адно шапчу: «Любімая, кахаю!» —
А сам я толькі чхаю зноў і зноў.

Сядзеў бы я спакойна і без чхання,
Маўчаў як рыбіна.
Ды вось бяда:
Калі пачну ўздыхаць я закахана,
Засвішча нос працяжна, як дуда.

Якая ганьба! Зноў успамінаю
Усё, што адбылося ў той начы.
Дзяўчыну у абдымках я трымаю
І ёй кажу:
— Апчхі... цябе... апчхі!

У смешныя развагі я пускаўся,
З яе рукамі я свае самкнуў.
Неасцярожна так разрагатаўся
І на яе, каханую, я чхнуў.

Ад гневу ўспыхнула і твар закрыла
Хусцінкаю. А ці ўсталюю мір?
Відаць,
дзён лепшых не ўзаўюцца крылы,
Каханне лопне, быццам бы пухір.

Сказала мне без смеху і без плачу,
Ажно пачаў у грудзі боль калоць:
— Малакасос!
Ты вытры нос спачатку,
На цэлы кіламетр не падыходзь!

Яна пайшла, засведчыўшы наглядам,
Што не даруе мне віны.
Ў аптэку я спяшаюся — за ядам,
Лічу, закончу сёння шлях зямны.

Бягу я колькі сілы, каб навекі
Спачыць у непрабудным сне,

Я нездарма звярнуўся да аптэкі —
Ад катару знайшліся лекі мне.

Я пра яе не марыў больш ні разу,
Мы сустракацца болей не маглі.
Пазбавіцца ад дзвюх хвароб адразу
Аптэчныя мне лекі памаглі.

Марнею на чужыне сіратою,
Гады сплылі, няма звароту ім.
Эх, дайце мне прастуджанае тое!
Каханнем трызню нават і такім.

*Сакавік 1943 г.*

## ВАЎКІ

Людзі кроў у баях пралілі,
Колькі згіне за суткі адны!
Пах спажывы адчуўшы, ваўкі
Шнырадь ноч па дарогах вайны.

Разгараюцца вочы ваўкоў:
Шмат каніны і мяса людзей!
Вось адной перастрэлкі цана!
Вось начны ураджай батарэі!

Воўчай зграі мацёры важак
Ужо хмельны свой баль прадчуваў
І стаіўся:
　　　　　　яго прыкаваў
Стогн таго, што паблізу ляжаў.

Да бярозы прыпаў галавой
Воін, стомлены болем цяжкім.
І бяроза стаяла над ім,
Бедавала, як маці, над ім.

І, шкадуючы, плача яна,
І з лісточкаў усіх не раса
Асядае ў пажоўклай траве,
А сляза — за слязою сляза.

Воўк стары пастаяў над байцом
І абнюхаў, агледзеў яго,
Для чагосьці у вочы зірнуў
І падаўся да лесу свайго.

На світанні і людзі прыйшлі;
Дыхаў ранены — можна адчуць.
А надзея усё-такі ёсць
Да жыцця чалавека вярнуць.

Людзі ў цела загналі спярша,
Распаліўшы, стальное пруццё,
А затым на бярозе, ў пятлі,
Памірала слабое жыццё.

* * *

Людзі кроў у баях пралілі,
Колькі згіне за суткі адны!
Пах спажывы адчуўшы, ваўкі
Шныраць ноч па дарогах вайны.

Што ваўкі! Горш усякіх ваўкоў
Зграі лютых двухногіх звяроў.

*Сакавік 1943 г.*

## АДНОЙ ДЗЯЎЧЫНЕ

А цікавая сустрэча выйшла:
Не было ў нас памятнай пары,
А цяпер мы рукі пацікаем
Ад душы,
як даўнія сябры.

Хоць імя майго яшчэ не знаеш,
На мяне глядзіш з любоўю ты,
Адчуваючы, што у паэта
Сэрца ўсё з вясновай пекнаты.

У жыцці шмат дробязей бывае,
Што душу ўзбунтуюць пустатой.
Што з прыгожай дружбай параўнаю,
З чыстай і гарачаю такой?!

З чым я параўнаю погляд гэты,
Колькі сэрцаў абуджае ён?!
Па тваіх вачах заўжды смуткую,
Так і буду жыць да скону дзён.

Сам не знаю,
як з табой зрадніўся,
Я свайго кахання не таю.
І не словы — позіркі ўзаемна
Выдавалі тайну нам сваю.

Погляд твой пяшчотны,
патаемны,
Разумею я, і не сакрэт,—
Без касцей язык — ён хлусіць часам,
Погляд сэрцам вызнае паэт.

Хай гады мінуць.
Цябе убачу —
На цябе праз слёзы пагляджу.
Ад душы тваю руку пацісну.
«Любая! Каханая!» — скажу.

Калі лёсу нас вятры разлучаць,
І ў часіну восеньскай імглы
Не губляй, сяброўка,
гэту дружбу,
Найвялікшую на ўсёй зямлі.

Я хацеў бы, каб і жыцці нашы,
Стаўшы неадлучнаю раднёй,
Харчаваліся кахання сокам,
На сцябліне расцвілі адной.

Я хачу, каб леты маладыя
Мы ў каханні страсным правялі.
А мацней, чым гэтае, сяброўка,
Ці бывае шчасце на зямлі?!

*Май 1943 г.*

## САДАВОД

Неўтаймаваны дзед — наш садавод,
Яму, напэўна, дзевяноста год.
А ён,
усход засвеціцца ледзь-ледзь,
Ужо не спіць, спяшаецца паспець
З лапатаю... Час кветкі ўжо саджаць,
Або галінкі яблынь падстрыгаць,
Ці ўскопваць градкі...
ў садзе густа так
Растуць фіялкі, ягады і мак!
З вясною дружна прыляцяць у сад
Сябры крылатыя — стары ім рад.
А ў маі пад птушыны чысты свіст
Бярозавы зазелянее ліст.
І маладзее дзед і са слязой
Глядзіць на вербнічак, што над мяжой.
Мінуць гады —
тут будуць вербы ў рад,
І моладзь прыйдзе і пахваліць сад.
Калі ж ён і сканае, садавод,
Жыць і квітнець сад будзе з году ў год.
І лёсам задаволены стары:
Аб ім пець будуць дрэвы і вятры.

*1943 г.*

## ЗАКАХАНЫ І КАРОВА

Мне без любімай белы свет не свет,
Няхай бы шчасце з рук яе далося.
Я падарыў духмяны ёй букет,
Магчыма, ўдзел ён прыме ў маім лёсе.

Ды кінула ў акно букет сама,—
Напэўна, я не дараг чарнабровай.
Гляджу я — кветачкі жуе карова,
Ад сораму ратунку мне няма.

Карова кветкі есць. А той парою
Кіпіць увесь ад прыкрасці юнак.
І вось,
        павёўшы галавою,
Карова чалавеку кажа так:

— Дарэмна гарачышся. Толку мала.
Прысядзь ты і падумай, браце мой,—
Калі б вось малака я не давала,
То прыгажуня ці была б такой?

Якія ручкі пульхныя! Смятана
І пяшчоту, і свежасць ёй дае.
І твар, як зорка весняя, румяны,
І зубкі белыя ў яе.

І закаханаму цяпер здаецца:
Тут праўда ёсць. І ў думках усплыло:
Яна на лузе цэлы дзень пасецца,
Каб на вячэру малако было.

Суцешыўся хлапчына. Гэтым летам
Каля рачулкі кветкі ён збіраў.
Пасля ён да дзяўчыны бег з букетам,
Ды кветкі ўсе карове аддаваў.

— Ну, так і быць. Карову падтрымаю.
Кахання іншага не хочу сам.
Таму шчаслівы я, што дарагая
П'е малако з каханнем напалам.

*Не пазней мая 1943 г.*

## АПОШНЯЯ ПЕСНЯ

Якая ўдалі зямля
Прасторная, неабсяжная!
Толькі мая турма
Цёмная і страшная.

У небе птушкі ляцяць,
Вядома ж, на волі яны,
А я на падлозе тут,
Рукі мае закованы.

У полі кветка расце,
Водар такі духмяны.
А я паміраю ў турме,
Мне не хапае дыхання.

Я знаю — соладка жыць,
О сіла жыцця пераможная!
Ды я паміраю ў турме,
Гэта песня мая —
апошняя.

*Жнівень 1943 г.*

## КАПРЫЗНАЯ КАХАНКА

Красуня гаварыла маладая
Царэвічу, што пакахаць быў рад:
— Каб верыць да канца табе магла я,
Гэй, шахскі сын,
хай мёртвым стане брат.

І шахзадэ з слухмянасцю сляпою
Пайшоў і брата хутка перамог.
І вось ужо з'явіўся перад ёю
І чэрап ёй паклаў ля мілых ног.

Красуня ў чэрап налівае яду,
Каханаму падносіць: «Пі хутчэй!»
Той выпіў як салодкую прынаду...
Каханне слепіць, тым яно мацней.

Любіў жыццё ўсім сэрцам і ўсім ладам,
Дамогся ўзнагароды, а якой?
Падманшчыца дае мне кубак яду,
Майго юнацтва чэрап — кубак той.

*Жнівень 1943 г.*

## АСУДЖАНЫ

Прыгавор смяротны аб'явілі,
Больш не ўбачыць ні начэй, ні дзён.
Толькі слёзы, што ў грудзях кіпелі,
Зніклі ўсе... І ўжо не плача ён.

Будзе сонца, будуць зоркі ў небе
Так свяціць, як пры яго жыцці.
А нябога думае, што будзе
Сіратой дзіця яго расці.

*Восень 1943 г.*

## СОН У ТУРМЕ

Дачушка мне прыбачылася ў сне.
Прыйшла, рукой пагладзіла чупрыну.
— Ой, доўга ты хадзіў,—
сказала мне,
І ўсю душу ўстрывожыў зрок дзяціны.
Мне радасць ускружыла галаву,

Дачку я цалаваў, і вусны смяглі.
Я думаў: вось якія наяву
Любоў і смутак, што мяжы дасяглі.
Мы мора кветак з ёй пераплылі,
Хадзілі там, дзе травы лугавыя.
Свяціла вольная зара ўдалі,
Жыцця салодыч зноў пазнаў тады я.
Прачнуўся я. У той жа я турме,
І камера панылая ўсё тая ж,
І кайданы са мной, і у імгле
Ўсё тая ж варта, што не адпускае.
Дзеля чаго жыццём лічу я сны?
Ці ж я змагу, турма,
з табой згадзіцца?
Што наяву пакуты мне адны,
А радасць толькі сніцца?

*Верасень 1943 г.*

## ТЫ ЗАБУДЗЕШ

Прад табой жыццё маё знямее
Кветкаю з надломаным лістком.
Без аглядкі, як слата заспее,
Пройдзеш ты ва ўтульны цёплы дом.

Ты забудзеш, як пад ценем хмаркі
Кветка, што ў руках тваіх была,
Так святочна, радасна і ярка,
Так духмяна у садку цвіла.

Ты забудзеш, што зусім не воддаль,
А стаяла пад тваім акном,
Дасылаючы табе свой водар
І паклон б'ючы пад вецярком.

Ты забудзеш, як у дзень пагожы,
Быў днём нараджэння ён тваім,—
На стале пылаў букет прыгожы,
Узначальваў свята імянін!

Днём асеннім пойдзеш на спатканне
Лёгкай і трывожнаю хадой.
Не адчуеш, як балюча стане
Кветцы, храбуснуўшай пад нагой.

У цяпле схаваешся ад сцюжы
І акно зашчэпіш на кручок.
Ну, а кветка засталася ў лужы,
З ёю холад, дождж, асенні змрок.

Сэрца нейчае тады астыне,
Адпалаўшы, знікне назаўжды.
А каханні, абяцанні тыя...—
Гэта ўсё, як ёсць, забудзеш ты.

*Верасень 1943 г.*

## ТУРЭМНЫ АХОЎНІК

*(Ямаш — 1911)* [1]

Вартуе, ходзячы, маю турму.
Два знакі «Э» [2] блішчаць па рукавах.
Мне ў сэрца быццам забівае цвік
Ягоны крок, што бухае ў мурах.

Пад позіркам зацiхла ўсё вакол —
Не ўпусцяць зрэнкі нечага свайго.
Зямля як быццам ахае пад ім,
Не хоча сонца глянуць на яго.

Страшэнны вырадак, не першы год
Ён службу ў смерці,
ў варварства нясе.

---

[1] Відаць, падзагаловак «Ямаш — 1911» дадзены з кансператыўнымі мэтамі, як і ў іншых вершах. Ямаш — магчыма, Х. Ямашаў — вядомы татарскі рэвалюцыянер-падпольшчык (1882—1912).
[2] Таксама для канспірацыі замест «СС».

Ахоўнік рабства ходзіць ля варот,
Вартуе краты і завалы ўсе.

Уздых перадсмяротны — вось яда,
Захоча піць —
ён кроў і слёзы п'е.
Ён сэрца заняволеных дзяўбе,
Хіжак, ён гэтым толькі і жыве.

І загубіў ён столькі чалавек,—
Калі б зямля даведацца змагла,
Не падняла б яна яго ні ў век
І сонца не дало б свайго цяпла.

*Верасень 1943 г.*

## КЛАПЫ

Холадна ў турме, і мышэй гайня,
Вузкая пасцель, і клапы, клапы.
Я клапоў лаўлю, б'ю іх па адным,
Потым зноў лаўлю —
з лютае журбы.

Звесці б іх усіх,
разграміць турму,
Ператрэсці ўсё, сцены разваліць
І знайсці б у доме гаспадара,—
Быццам клопа ўзяць ды і раздавіць.

*Не пазней верасня 1943 г.*

## ПЕРАД СУДОМ

*Чэрчэцкі хан*[1]

Нас вывелі — і хутка пакаранне,
На пустыры нас выстраіў канвой.
І каб не быць за сведку ў гэта ранне,
Раптоўна сонца знікла за гарой.

Пакрыта вільгаццю трава густая,
То, мусіць, слёзы сумныя зямлі.
І лес расправу бачыць не жадае —
Ўсе дрэвы ў ранішні туман сышлі.

Як холадна! Але адчулі ногі
Зямлі дыханне, што памалу йшло;
Зямля, за лёс мой зведаўшы трывогу,
Дарыла мне знаёмае цяпло.

Зямля, не бойся: сэрцам я спакойны,
Ступнямі на тваім цяпле стаю.
Адно імя я паўтару, як воін,
І за радзіму тут памру сваю.

Вакол стаяць чаляднікі Чарчэта,
Крыві чакае нюх, а стогнаў — слых.
Яны не вераць, што іх песня спета,
Што не яны, а мы асудзім іх.

Хай каты з памутнелымі вачыма
Цяпер свае заносяць тапары,
Мы ведаем, што праўда ўсё ж не з імі,
Лютуе вораг толькі да пары.

Надыдзе урачысты дзень свабоды,
Меч праўды пакарае іх найперш.
Суровым будзе прыгавор народа,
І будзе ў ім і мой апошні верш.

*1943 г.*

---

[1] Чарчэцкі хан — персанаж з паэмы татарскага паэта А. Ісхака, выдадзенай у 1940 г. пад рэдакцыяй М. Джаліля. З мэтай канспірацыі М. Джаліль называе чарчэтамі фашыстаў. На палях сшытка арабскім шрыфтам напісана «актсышаф», што чытаецца справа налева «фашыстка», г. зн. фашыст.



Павел Кабзарэўскі і Аляксей Пысін.
1970-я гады.




**Віктар Ракаў і Аляксей Пысін.**
**1981 г.**

## КАХАНАЙ

Мажліва, будуць без пісьма гады,
Без весткі пра мяне.
Мае сляды зацягнуцца зямлёй,
Мае дарогі зарастуць травой.

Мажліва, ў сны твае, журботны,
я прыйду,
Ў адзенні чорным увайду.
А часу хваля змые ці саб'е
Той міг, калі я цалаваў цябе.

Цяжар чакання, ён вялікі стаў,
Для плачу не пакіне слёз,
Перакананне, што «няма яго»,
Як быццам гэтак вырашыў сам лёс.

Міне тваё каханне.
Ну, а я
Жыву, мажліва, ім адным.
І давядзецца ў нечаканы дзень
Пайсці мне з памяці тваёй зусім.

І вось тады, у гэты самы міг,
Калі я мушу ад цябе пайсці,
Мажліва, смерць адолее мяне,
І мне шляхоў зваротных не знайсці.

Я дужы быў, пакуль чакала ты —
І я ў баях не зведаў нават ран:
Мяне ахоўваў і мяне збярог
Твайго кахання дзіўны талісман.

І клятву воіна: «Перамагу!»
Нічым я не заплямію на вайне,
Калі б прыйшоў без перамогі я,
Тады б ты «дзякуй» не сказала мне.

Салдацкі шлях далёкі і цяжкі,
А толькі ты кахай мяне заўжды,
І я прыйду: тваё каханне мне
Ратункам ад агню і ад вады.

*Верасень 1943 г.*

## МАГІЛА КВЕТКІ

Гэта сцюжа дыхнула мацней —
І пакінула кветка сцябліну.
Прыляцелі на крылах завей,
Прыляцелі вятры на раўніну.

Ўсё жывое знямела зімой,
І не градка цяпер, а магіла.
І бярозка, нібы над труной,
У маўчанні журботным застыла.

Не відаць ні палёў, ні лугоў,
Завіруха гудзе ў наваколлі.
І пад коўдраю белых снягоў
Кветка спіць у маўклівым спакоі.

Ды вясновай бурлівай парой
Паратоўныя ліўні пральюцца,
Ўспыхнуць воблакі свежай зарой,
І прыгожыя кветкі прачнуцца.

Так завялаю кветкаю я
Буду спаць пад пялёнкай сваёю.
Ды апошняя песня мая
Расцвіце ў вашым сэрцы вясною.

*Верасень 1943 г.*

## ГАДЗІННІК

Я з каханаю сяджу
І на твар яе гляджу,
Мы шчабечам і маўчым
І гаворым аб сваім.

А каханая мая —
Не пакрыўдзіць — бачу я,

І павекі — мне відаць —
Сарамліва ўніз глядзяць.

Бровы — цёмныя лясы,
Льюцца хваляй валасы,
Ўразіў жа ўсяго мацней
Позірк дарагі вачэй.

Прада мной сядзіць яна,
Светлая, нібы вясна,
Ды адно гняце мяне —
Любай часу не стае.

Ўсё спяшаецца назад
І глядзіць на цыферблат.
Кажа: «Досыць мне гуляць,
Будуць дома там чакаць».

А гадзіннік лік вядзе
(Хто яго зрабіў і дзе!),
Мерны стук — нясцерпны ён,
Як царкоўны сумны звон.

— Не развітвайся,— кажу,—
Вельмі рана,— ёй кажу.
На сцяну яна зірне:
— Бачыш сам! Пара ўжо мне!

Цяжка мне цярпець было б,
За язык гадзіннік — хоп,
Хай навучыцца маўчаць,
Нас не стане разлучаць.

Каб шчаслівымі нам быць,
Пра гадзіннік лепш забыць!..—
І не ўгледзілі мы, не,
Што світанне ўжо ў акне.

*Верасень 1943 г.*

## ЛЮБАЯ

Любая ў святочным плацці
Завітала ў домік мой
І сказала:
— Пагуляць я
Вечарам магла б з табой.

Апускаўся ціха вечар,
Ды калі імгла лягла,
Да рачулкі, дзе сустрэча,
Я памчаўся ўсцяж сяла.

А мяне смуглянка гоніць:
— Колькі я цябе вучу!..
Прынасі з сабой гармонік,
Слухаць музыку хачу!

Шапку я насунуў змаху,
Павярнуўся — і дамоў,
Згроб гармонік я пад паху,
Да рачулкі зноў прыйшоў.

Паглядзела так журботна
Любая: маўляў, не лепш...
— Ты чаму не змазаў боты,
Ведаў — да мяне ідзеш?

Не хвалюйся, калі ласка,—
Зноў бягу сцяжынкай той,
Боты я нацёр да бляску
Чорнай ваксай гарадской.

Стала любая сварыцца:
— Што ж ты, чалавеча мой,
Не даўмеўся пагаліцца
Перад стрэчаю са мной?

І, губляючы ўжо сілы,
Я пабег, нагрэў вады
І, ужыўшы брытву з мылам,
Зняў я рэшткі барады.

Ды галенне выйшла бокам,
Накараны я ўдвайне.

— Бачу, ты парэзаў шчокі,—
Любая сказала мне.—
Не, не лёс, гуляць не будзем,
Мы разыдземся з табой,
Хай дарма не кажуць людзі,
Што мы чубімся з табой!

Вось і дом мой, вось і ганак.
— Ты адкуль? — сусед спытаў.
— Толькі з рэчкі, ад каханай! —
Урачыста я сказаў.

Вы настрой мой зразумелі,—
Ўжо бяссонных шмат начэй.
З любаю мне цяжка вельмі,
Без яе яшчэ цяжэй.

*Верасень 1943 г.*

## БЯДА

— Такая красуня адна,
Я ў думках яе ўсё наведваю.
Ўвесь свет паланіла б яна,
Ды замужам, добра я ведаю.

— А мужа кахае яна?
— Кахае,— кажу я разгублена.
— Калі гэта так, то, павер,
Надзея нікольві не згублена.

Няхай жа скасуе свой шлюб,
Пакуль ёй жыццё не атручана.
Жаніся і будзь ты ёй люб,
З каханаю будзь неразлучны ты.

— Ах, братка, на месцы тваім
Прыдумаў бы сам штосьць вакольнае.
Ды толькі бяда мая ў тым —
Зладзейка — мне жонка законная.

*Верасень 1943 г.*

## СВЯТА МАЦІ

— Як птахі, што над стэпам у блакіце,
Ў палёце дзесьці тры сыны мае.
Як блізкай, як жанчыне, адкажыце,
Як маці, мне, што слёзы лье:

Ну дзе сыны мае?
Ў душы трывога,
Хто ведае і хто б ёй мог сказаць:
Якая дзецям суджана дарога?
Бяды ці радасці чакаць?

Ляціць пад воблакамі голуб з поўдня,
Садзіцца ён на матчын пагрубок.
— Ты бачыў іх? Прашу цябе, успомні,
Дай вестку мне, мой галубок!

Дзе мой старэйшы? Лёс які ён, сынаў?
Ці сын жывы? Ці трэба што яму?
— Цярпі, о маці, у баі загінуў,
Твой сын загінуў у Крыму.

Застыла маці. Болей не прыгорне
Таго, хто быў уцехай сэрца ёй.
І галаву пасерабрыла гора
Па сыну, ўзятаму вайной.

— Як птахаў,
што над стэпам у блакіце,
Адправіла ў палёт я трох дзяцей.
Як блізкай, мне, як маці, адкажыце,—
Пашліце вестачку хутчэй.

Старэйшы мой ужо не адгукнецца,
У бітве паў,— такі ягоны лёс.
А ці жывы сярэдні? Можа, вецер
Паклон мне ад яго прынёс?

Шуміць, гуляе вецер на парозе,—
Размова ёсць з матуляю сівой.
— Скажы мне, вецер, на тваёй дарозе
Ці не сустрэўся сын з табой?

— О, не пытайся ні ў мяне, ні ў пошты,
З сярэднім сынам не чакай сустрэч.
Пакуль не змоўк у сэрцы ўдар апошні,
Не выпускаў з рукі ён меч.

У непрытомнасці матуля ўпала,
Ледзь сэрца не спынілася ў старой.
Сляза каціласи, не высыхала
І вочы асляпляла ёй.

— Як птахі, што над стэпам у блакіце,
Ўзляцелі тры сыны ў адну пару.
Як блізкай, як жанчыне адкажыце,
Інакш ад гора я згару.

Загінулі ўжо два сыны-героі,
Жыву цяпер надзеяю адной:
Калі ўжо не прымчацца разам трое,
Ці вернецца малодшы мой?

Але чамусьці галубок не ўецца,
І нават сціхнуў вецер — цішыня.
Адно на ўзлессі рэха аддаецца
Трубы і тупату каня.

Конь скача, грыву вецярок палошча,
Палае сэрца матчына ў вясне:
Сынок любімы, саменькі малодшы
Сядзіць на гордым скакуне.

Ў яго руках — сцяг нашай перамогі
І на грудзях сярэбраны медаль,
І лес яго вітае і дарога,
І спевам — сонечная даль.

Яна душой адчула і пазнала,
Хаця і ўбачыць сына не магла.
Сказала: — Сын мой!
Сын мой! — зарыдала,
І светлаю сляза была.

— Вярнуўся мой апошні, мой адзіны,
І мы сустрэліся, сыночак, вось!..
І льюцца залатыя слёзы сына
На серабро яе валос.

— Мінула гора, супакойся, маці,
На сына паглядзі, не трэба слёз!
Сваёй радзіме я жыццё і шчасце
На баявым клінку прынёс.

Браты старэйшыя ў баі крывавым
Ішлі наперад і натхнялі нас.
Зрабілася жыццё іх вечнай славай,
Калі настаў апошні час.

Я закапаў іх у зямлі вясновай
І месца тое ў сэрцы берагу.
А светлы водбліск іх крыві пунсовай
Адтуль прынёс я на сцягу.

Матуля сцягам вочы выцірала,
І да яе зусім вярнуўся зрок.
І позіркам малодшаму сказала:
Стаў дужым сокалам, сынок!

— Як птахаў, што над стэпам у блакіце,
На бой я блаславіла трох сыноў.
Як родная, ўсіх клічу я: прыйдзіце!
Як маці паўтараю зноў.

Сыны любоў святую да айчыны
Ўсмакталі разам з малаком маім.
Я сокалаў пусціла ў далячыні,
Жадала перамогі ім.

Не вернуцца, дваіх няма на свеце,
Без коннікаў іржуць іх скакуны.
Кроў тую, што сваім дала я дзецям,
Ўдалі пакінулі яны.

І будзе кроў іх, што ў баях праліта,
Зарою перамогі назаўжды.
Высокі сцяг зары ў руках джыгіта,—
Ён сын мой, сокал малады.

Медаль я бачу — зорку дарагую —
І гавару: «Ты шчасце мне даеш!»
Здаецца мне, я двух сыноў цалую,
Калі сяброў ты прывядзеш.

Гляджу, як сыну, кожнаму у вочы
І хочу верыць: іх бяда міне.
Журуся раз, а радуюся двойчы,
Сябры пяюць, і лёгка мне.

Сыноў я ўзгадавала, што бяссмерце
Далі краіне, паўшы на вайне.
Святкую свята з вамі я, паверце,
І вы прыходзьце да мяне!

Ніхто не збочыць і не пройдзе міма,
І кожны кветкі і любоў нясе.
Імкнецца шчасцем, кветкамі радзіма
Ад гора вылечыць яе.

О Маці,— даражэй няма
На цэлым свеце ў нас імя.

*Верасень 1943 г.*

## ШЛЯХ ДЖЫГІТА

Вярнуўся б джыгіт,
ды дарога пятлёй,
Дарога далася б, ды горы ўстаюць.
Не горы, а орды — заслон на шляху,
Варожыя орды прайсці не даюць.

І стаў ён на камень
і вострыць свой меч,
І конь асядланы паскуб мурагу,
Іржэ ён і кліча свайго ездака
Адпомсціць за ўсё,
не застацца ў даўгу.

— Джыгіт, паспяшайся,
бо хутка ўжо ноч,
Туманам засцелецца луг над ракой.
Тады заблудзіць нам нядоўга ў бары,
Дарогу тады не знайсці нам з табой.

— Не бойся, мой конь,
не раднёю мне страх,
Ноч — верны пасобнік —
бяжыць па кустах,
І вораг не ўчуе, што гонімся мы
У змроку глыбокім за ім па слядах.

Скакун мой, удалечы ўжо нездарма
Тужлівая песня каханай чутна.
І нас перамогай на родны парог
Світаннем павінна прывесці яна.

*Верасень 1943 г.*

## СТАЛЬ

Так гартавалася сталь.
*М. Астроўскі*

Я не галіў вусоў яшчэ ні разу,
Калі свой дом пакінуў год назад.
А пеpажытае лягло на плечы,
Як быццам грукнула мне шэсцьдзесят.

За год адзін я столькі перадумаў,
Што ў галаве разбухла і ў грудзях.
У дваццаць год твар скрэмсалі маршчыны
І валасы сівыя,— проста жах!

Цяжар крыві, слёз, пораху і поту
Ў маіх нагах,— ледзь ногі валаку.
Яшчэ зваліў мяне асколак мінны,
І я займеў патрэбу у кійку.

Ў вачах маіх цяпер не адшукаеш
Хлапецкага бадзёрага агню,
Мае вясёла бровы не ўзлятаюць,
І сэрца — бы закутае ў браню.

На твары толькі аднаго цярпення
Пакутлівыя жорсткія сляды.
Юнацтва ўспыхнула, нібыта порах,
Успыхнула, згарэла назаўжды.

Юнацтва, а дзе ласка сініх-сініх
Вачэй, дзе месяц, песня салаўя?
Там на Дану,
ў акопных чорных ямах,
Дарожка абарвалася твая.

Не ў салаўіным досвітку ружовым,
А ў грознай ночы
водбліск твой мільгнуў,
На рубяжы далёкім перамогі
Цябе крывавым сцягам я ўваткнуў...

А толькі я не каюся,
не бойся!
Каб перамогу ў твар мне угадаць,
Калі б я сто юнацтваў меў,— адразу
За гэту радасць мог бы я аддаць.

Гаворыш ты: ёсць крылы у юнацтва,
Яму, маўляў, у воблаках лунаць.
Што ж!
Подзвіг наш гісторыя запомніць
І са здзіўленнем будзе ўспамінаць.

Мы праз агонь, ваду ішлі за праўдай,
Мы адстаялі нашай праўды дні,
Юнацтва наша у баях мінула,
Сталь гартавалася ў такім агні.

*30 верасня 1943 г.*

## ДАРОГІ

*Аміне*

Дарогі! Дарогі! Ад роднага дому
Даволі гасціў я ўдалі.
Вярніце мяне з стараны незнаёмай
Палям маёй любай зямлі.

Замосце забыць не магу дарагое
І поле з густой збажыной.
Адчуецца мне — ведзіцё за сабою
Вы, вочы каханай маёй.

Калі адыходзіў, дажджы бушавалі;
Сяброўка марнела адна.
Не кроплі дажджу на павеках дрыжалі,
Слязу выцірала яна.

Сцяжынкі і поле,
лес роднага краю,
Паўсэрца пакінуў я там.
Ды разам з любоўю і воля стальная
Была спадарожніцай нам.

Дарогі! Дарогі! Людскія пакуты
На вас пакідалі сляды.
Каму, адкажыце, прыносілі смутак,
Каго давялі да бяды?

Імкнуліся сэрцы чые маладыя
Уперад праз цяжкасці ўсе?
Надзея крылатая ў далі чужыя
Каго, як мяне, занясе?

Вандруем мы смела. Юнацтва так хоча,
І гоняць нас хвалі страсцей.
У далях далёкіх праклалі дарогі
Не ногі — пачуцці людзей.

Я змалку, бывала, пускаўся ў дарогу,
Бадзягай сябе я лічыў.
Да роднага зноў я вяртаўся парогу,
Бо вельмі айчыну любіў.

Дарогі, ў краіну маю дарагую
Вядзіце па даўніх слядах.
Я ў думках трывожных па любай сумую,
Лячу пад бацькоўскі свой дах.

*Кастрычнік 1943 г.*

## НАВАГОДНІЯ ПАЖАДАННІ

*Андрэ Цымермансу*

У навагоднія кілішкі
Нальём палынных слёз віно.
Нальём!
У нас яго залішне,
І сэрцы прапячэ яно.
І горыччу ўспамін падсолім,
Каб адхіснуцца да згрызот.
Нальём! Няхай жа з гэтым болем
Адыдзе сорак трэці год.

Няўжо ён, барада сівая,
Зямлю навечна пакідае,
Запёршы вязняў пад зямлёй?
Бывай! Аб лепшым я гадаю
І — узнімаю келіх свой.

Пакут і хворасці даволі —
Крыві нямала ўжо сплыло.
Каб расступіўся змрок няволі,
Успыхні, радасці святло.

Хай Новы год, як друг жаданы,
Для нас свабоду прынясе.
Саб'е з балючых рук кайданы
І вытра слёзы нашы ўсе!

Ён нас пазбавіць ад знямогі,
Ад кратаў стылых і сухот.

І ў час вячысты перамогі
З сябрамі стрэнем Новы год!

Хай шчырыя абдымкі будуць
І слёзы шчасця на вачах!
Хай нам пячэ аладак груды
У доме бацькавым ачаг.

Няхай сустрэцца змогуць дзеці
І жонка — з доблесным байцом!
І, прыгадаўшы ліхалецце,
Даніну аддамо бяседзе

І мужным вершам, і віном.
Згадаем, паглядзеўшы ў далі,
Як гэты год мы сустракалі
З табой за сцішаным сталом!..

*1 студзеня 1944 г.*

*Міхаіл Ханінаў*

**ЖУРАЎЛІ НАД СТЭПАМ, 1977 г.**

* * *

Я не хмара, якую
гоніць вецер да скал,
Чалавек я,
іду праз круты перавал.
Я не сцюжа,
што вые зімовай парой,
Чалавек я,
спяваю, як птушка вясной,
Я не спёка,
што высмаліць грудзі зямлі,
Чалавек я,
каналы вяду на палі.
Я не холад,
што ломкасць жалезу дае,
Чалавек я,
стыхіі скарыліся мне.
Я не змрок,
што схіляе усё да зямлі,
Чалавек я,
ўзнімаю я сонца з імглы.
Я не выбух вайны,
я не гора,
не страх,
Чалавек я,
з кумысным пітвом у руках.

## МУЗЫКА Ў ГРЫВАХ

Гул капытоў
і разбойны свіст,
Гукаў лавіна
высокіх і нізкіх:

Гэта іграе
вялікі артыст —
Вецер бязмежных
стэпаў калмыцкіх.
Вы, відавочна,
не згодны са мной?
Не, тут няма
ні сакрэту, ні тайны.
Ў стэп запрашаю,
сябры, вас вясной,
Слухаць душою
канцэрт незвычайны.
Вецер іграе
на тысячах струн
У неабдымным прасторы
і часе.
Гэйкнуў табуншчык,
і ўзняўся табун,
І, распластаўшыся,
стэпам памчаўся.
Та-та-та-та-та,
та-та-та-та-та!
Грывы — на ветры,
Грывы — на ветры!
Чуеце музыку?
Аж любата,
Гэта ўверцюра
блізкага лета.
Сцелецца
вогненна-яркі касяк,
Сонца на грывах —
найлепшай украсай.
Нізка і моцна
вядуць на басах
Сола сваё
скакуны-кантрабасы.
А стрыгуны,
стрыгуны-трубачы,
Так затрубілі
узнёсла-крылата.
Часам жалейка
пяшчотна гучыць,—
То пачынаюць
спяваць жарабяты.

Мчыцца мелодыя
                у вечнасць вякоў,
Лёгка любыя
                бярэ пераправы.
Льецца з кабыліных саскоў
                малако
На перасохлыя цёмныя травы.
Вецер
                на крылах сваіх веснавых
Сам падпявае,
                кіруе аркестрам.
Як ён іграе
                на струнах жывых,
Гэты вясёлы
                старукі маэстра!
І падбірае табуншчык
                матыў,
Голас мацнее,
                зусім не журботны;
Мусіць, сябе
                ён на сцэне ўявіў
І палічыў,
                што артыст ён народны.
Ў стэп запрашаю вясною
                сяброў
Слухаць канцэрт,
                што лунае над стэпам;
Музыкай нашай
                дзяліцца гатоў,
Так як дзяліўся
                некалі хлебам.

## КАЛІ ДАМБРА ІГРАЕ

У стэпе зноў вясна,
Калі дамбра зайграе,
Хвалюе і натхняе
Усіх людзей яна.

Так весела гучыць яе напеў,
І ён пяшчотнасцю душу сагрэў.
Здаецца, песня жаўранка ўзлятае,
У грудзі льецца і ўслаўляе свет.
Стэп апрануў зялёны свой бешмет,
І кроў у ім зайграла маладая.
У стэпе зноў вясна,
Калі дамбра зайграе,
І дзверы адчыняе
Ва ўсіх дамах яна.
Спяшаюцца стары і малады
Сваю дамбру паслухаць, як заўжды,
І ўсё мацнее тупат танцавальны,
«Давай, давай!» — крычаць каля дамбры,
Бяжыць, нібы чародка дзетвары,
Кавыль на звон вясёлы, запрашальны.
У стэпе зноў вясна,
Калі дамбра зайграе,
І злога ушчувае
Пяшчотаю яна.
Калі ўступаюць «верхнія лады»,
Курганы, быццам мудрыя дзяды,
Працягваюць ускінутыя рукі.
Прырода так напружана сама,
Як быццам бы ва ўсім дрыжыць струна
І скача ўся зямля пад тыя гукі.
У стэпе зноў вясна,
Калі дамбра іграе,
І песня узлятае,
Святлее вышыня.
І пачалі «сярэднія лады» —
Крык чаек, качак і гусей, з вады
Узняўшыся, лунае у паветры,
І рыбінкі, усмешка да вушэй,
Падскокваюць над хваляю вышэй
Пад свіст задорны чарацінкі-флейты.
У стэпе зноў вясна,
Калі дамбра зайграе,
І песню паўтарае
На цэлы свет яна.
Вось падхапілі «ніжнія лады»,
І, быццам белых лебедзяў рады,
Плывуць дзяўчаты у дашуры-танцы,
Дзесь на брыгадным стане альбо ў клубе,

І ўжо ад іх усмешак белазубых
Так стала светла, быццам пры маланцы.
У стэпе зноў вясна,
Калі дамбра зайграе,
Звініць, не замірае
Пад пальцамі струна.
Ляціць напеў з усіх сямі ладоў,
Пусціцца ў танец кожны з нас гатоў.
І хлопцы — устаяць ніхто не можа:
Той — дол абцасамі б'е гулка, зычна,
Той — у падскоку ўзняўся, быццам клічнік,
А той віраж закладвае прыгожа.
У стэпе зноў вясна,
Калі дамбра зайграе,
І твары асвятляе,
Як сонейка, яна.
І джангарчы размову павялі
Пра Бумбу казачную,— і арлы
Ўзняліся ў неба у адным імкненні:
Уволю паскакаць. А да зары
Пяюць аб ураджаі трактары,
Прад імі адступаюць ночы цені.
Калмыцкі кліч — хадрыс!
І пальцы над дамброю
Вясёлаю парою
Ляцяць уверх і ўніз.
Зямля і неба ў чаргаванні дзён,
Сам чалавек і працы яго плён,—
Усіх і ўсё ўслаўляе песня гэта.
Ў вячэрні час звініць дамбра ў руках
Маёй калмычкі любай, што ў вяках
Паэтамі народнымі апета.

## КАЛМЫЦКІЯ КАВЫЛІ

Кавылі, кавылі, кавылі,
Нібы дзеці, галоўкі ўзнялі,
Белачубыя
мчацца наўскач,
Даганяючы ў стэпе свой мяч.

Кавылі, кавылі, кавылі,
То — цякуць сайгачаты ўдалі
Па ліманах. Ану, дзетвара,
Вам паесці, паспаць бы пара!
Кавылі, кавылі, кавылі,
Нібы дзеці, галоўкі ўзнялі.
Стэп звініць...
І шуміць, як бурун,
Жарабят танканогіх табун.
Кавылі, кавылі, кавылі,
Вы аб чым жа звініце ўдалі?
Струны нашай святочнай вясны,
Вы пад восень сыходзіце ў сны.
І ў часіну зімовай імглы
Спачываеце вы на зямлі.
Завіруха да гэтых раўнін
Данясе песні іншых краін.
Кавылі, кавылі, кавылі,
Нібы дзеці, галоўкі ўзнялі,
Белачубыя мчацца наўскач,
Даганяючы ў стэпе свой мяч.

## ЯК ПАДОБНЫ ПІЛЬКАЎСКІ ВЕЦЕР З ЦАГАНУРСКІМ ВЕТРАМ

Скрып і стук за блізкаю кібіткай,
там ці не кабыла трэцца грывай?
Лёгкі шоргат —
па траве сухой і колкай
мыш прабегла палахліва?
Зверху футра цёплае упала —
маці загарнуць мяне
зноў парашыла,
Звон вуздэчкі...
Скакуна мой бацька поіць...
Чараціна
Зноў звініць ля возера глухога,
з зоркамі на блізкім небасхіле —

Сосны парачанскія...
Іх цені проста к сэрцу
ноччу падступілі.
Прывязаць бы трэба мне кібітку,—
вецер пількаўскі і астраханскі,
То не ён...
Радкі Максіма Танка
я чытаю дома, на світанні...

## СТЭПАВЫ ХАТОН

О Цаган-нур,
о Цаган-нур,
Спалілі маладосць пажары...
Асенні дзень, як доўгі шнур,
Іду,
падпасак,
за атарай.
На скуры — бронзавы загар,
Штаны мае — на латцы лата...
Вось выплывае сонца шар
З-за горкі,
і на сэрцы свята!
Кавыль хіснуўся:
берагі
Азёрныя ва ўсёй выгодзе...
Ў бешметах жоўтых
сітнягі,
Нібы дзяўчаты ў карагодзе!
Вярблюд, што дня разматваў
шнур,
Не адчувае ўжо
паклажы...
О Цаган-нур,
о Цаган-нур,
Ты ткаў дыван
са шчасця пражы.
За Каспій адплываў туман,
Калгасы ўсім адкрылі вочы...

Нам першы дом зрабіў
Іван —
Нядаўні піцерскі рабочы.
Не злічыш промняў у акне,
І ёсць яда, і ёсць набыткі...
І не шкада нікольki мне,
Што ўжо разбураны кібіткі.
Жадае вораг нам хаўтур
І хоча нас схапіць за глотку...
О Цаган-нур,
мой Цаган-нур
Стаў караблём,
што мчыцца ходка
Ў краіну светлую маю,
Дзе — мора
промняў непагасных.
А за штурвалам
я стаю,
Пары юнацкае падпасак.

## ДЗЯЎЧЫНА — УРАГАН

Чарнавокая калмычка
Спрытна скокнула ў сядло
І памчалася прывычна,
Ажно ў стэпе загуло.

Быццам сонейка з кургана,
Сіганула за курган.
Так ляцець хутчэй бурана
Можа толькі ураган.

А буран, у бель прыбраны,
Ўслед у покрыве імглы,
І — нібы ганчак старанны,
Прыхінуўся да зямлі.

Моцна ён трымае хмару,
Лютым холадам цячэ,

Вока мае на атару,
Беласнежны саван тчэ.

Мчыцца напрасткі дзяўчына,
Сэрца б'е у сто званоў:
Як хутчэй яна павінна
Папярэдзіць чабаноў.

Літасці няма ў бурана,
Як няма яе ў ваўкоў:
Непрыкметна, нечакана
Наляціць з усіх бакоў.

Наляціць, як зграя тая,
Заскуголіць, запяе
І дзяўчыну апантае,
Замарозіць ён яе.

У яго такая звычка,—
І за нейкім курганом
Пажадае ён калмычку
Разлучыць навек з канём.

Стэп гудзе,
Пяе і плача.
Па бязмежнай цаліне
Праз буран дзяўчына скача
На гарачым скакуне.

Ды знячэўку конь спыніўся,
Свой стрымаў імклівы бег:
Ён падбіўся,
З шляху збіўся,—
Ўсё засыпаў жорсткі снег.

Хоць бы месяц свой ліхтарык
Паказаў на нейкі міг.
Толькі месячык і хмара
Дзесь схаваліся ўдваіх.

Тут няцяжка ў воўчай яме
Апынуцца да зары.
Конь прыціх, стрыжэ вушамі:
Гаспадыня, гавары!

«Бач, стараецца завея
І гудзе, нібы агонь.
У мяне адна надзея
На цябе, мой добры конь!..»

Конь уважліва паслухаў,
Згодны ў чымсьці з ездаком.
Капытом аб стэп пастукаў,
Выбіў белы снежны ком.

Нібы ўгледзеўшы дарогу,
Конь упэўнена заржаў.
А буран з перапалоху
Затрымцеў і задрыжаў.

Хоць буран і карагодзіў,
Ды каня не збіў ён з ног.
Конь з паслабленым паводдзем
Сам дарогу выбраць змог.

І дзяўчына пасмялела:
Цяжкі шлях пакарацеў.
Між вушэй каня глядзела,
Бы ў вінтовачны прыцэл.

Шлях іскрыўся.
Кіламетры
Адбіваў капытны крок.
Конь хапіў сабе паветра
І ў паўночны
скочыў змрок.

Чутна ў полі,
Пад вятрамі,
Як мацнее конскі бег,
Як, прыбіты капытамі,
Прысядае мяккі снег.

І нягледзячы на ўдары,
І буран дужэй налёг,—
Зробіць гэтак,
Каб атары
Адшукаць ніхто не змог.

Завіруха заскакала,
Колькі моцы загула.
А дзяўчына заспявала
Ей з высокага сядла:

«Ты навошта, завіруха,
Столькі робіш мітусні?
Не бурчы так злосна, глуха,
Супакойся і засні.

Чаго носішся, буране,
Ну няўжо такі сляпы?
Бачыш: ты прайграў змаганне,
Лепш дарогу саступі!»

Не, буран парад не чуе,
Не прымае добрых слоў;
Кажушок ён шкуматае,
Трэпле пасмы валасоў.

Лютавалі злыя ветры,
Налятaлі на загон.
Мо на сотні кіламетраў
Дзьмуў халодны ветрагон.

Дзьмуў буран,
Як толькі ўпору
Самалёту ў полі дзьмуць.
У якую-небудзь прорву
Ўсё каня хацеў спіхнуць.

І кідаўся,
І кусаўся,
Снег сумётамі валіў.
Конь калмыцкі не здаваўся,
Бо разумны вельмі быў.

Тапканогі, белагрывы,
Перамогу адчуваў.
Вось дабег ён да абрыва,
Скокнуў, спуск слізготкі ўзяў.

І трывала стаў нагамі,
Так пабег, нібы запеў.

А буран застаўся ў яме,
Закіпеў і засіпеў.

Конь імчаў без перадыху
(Хоць буран даўно адстаў);
Шлях спакойны, шлях прыціхлы
Капытамі ён таптаў.

Конь спыніўся. Ўсцяж раўніна.
Парай вее ад кашар.
К чабанам сышла дзяўчына,
Быццам сонца яркі шар.

З перамогай над буранам
Віншавалі ўсе сябры...
І дзяўчыну Ураганам
Сталі зваць з тае пары.

І спяваюць у народзе:
«Абскакаць змагла буран.
Прыгажэйшае не знойдзеш,
Чым калмычка Ураган».

## ЖУРАЎЛІ ВЯСНУ ПРЫНОСЯЦЬ

Жураўлі высокім клінам
Пацягнуліся к вясне.
І пад клінам жураўліным
Штось самотна стала мне.

Бачу воблакі і хмары,
Што нясу ў сваіх вачах;
А здалося мне — атары
Узышлі на Млечны Шлях.

Млечны Шлях зіхцеў крамніста,
Ўдаль ляцелі жураўлі.
Быццам коннікі,

Ўрачыста
Строй раўнялі кавылі.

Жураўлі з далёкай далі
Набліжаліся, віталі
І кавыль і цаліну,
Ў цішыню яны крычалі:
— Прынясём табе вясну!

Каб да новага Цагáну [1],
Да дня росквіту зямлі,
Ў стэпе яркія цюльпаны,
Як дзяўчаты, расцвілі.

Пачарнелая бяроза
Журыцца, нібы ўдава.
Ад яе самотнай позы
Пахілілася трава.

Толькі мне было вядома,
Тайну я спасціг адну:
Жураўлі мне,
Маладому,
Прынясуць яшчэ вясну.

## ЗАПЛАКАЛА ВЯРБЛЮДЗІЦА, ЯК ЧАЛАВЕК

Вярблюдзяня задралі
ваўкі ля кургана.
Знайшла яго, заплакала
вярблюдзіца адна.
Цяжкія ў яе слёзы,
ні з чым не параўнаць,
З вачэй маўкліва капаюць
і на зямлі гараць.
Ад палыну і піжмы,
няхай растуць сабе,

[1] Цагáну — свята вясны.

Далей ідзе вярблюдзіца —
не есць яна, не п'е.
Чабан зрабіў магілу,
касой скасіў бур'ян,
І абдымаў за шыю
вярблюдзіцу чабан.
І кавылі схіліліся
сівою галавой,
І груганнё нясытае
кружыла над травой.

## АЙСБЕРГ

Паглядзіце, як айсберг
павольна ідзе ў акіяне,
Праз туманы і штормы
нябачную трасу вядзе.
Толькі трэцяя частка
сагрэецца ў сонечным ззянні,
А дзве часткі — унізе,
ў глыбіннай халоднай вадзе.
І сівыя валы
у размову ўступаюць з ім часта,
А вясёлыя хвалі,
быццам дзеці, спраўляюць гульню.
Сціплы ён,
бачна нам толькі трэцяя частка,
Ён у руху заўжды,
спасцігае ўвесь час глыбіню.
Ёсць жаданне ў мяне
зведаць штормы свайго акіяна
І заўжды адчуваць
глыбіню у народным жыцці;
А калі я пад сонцам
да кроплі растану,—
Жыватворнаю хваляй
к вам, патомкі, на бераг сысці.

## ВОЛГА

Да яе
І рэчка і рачулка
Свежасць вечаровую нясуць,
Як да маці, сцішана і гулка
Па траве,
Па мураве бягуць.

Волжскія прытокі —
Гэта рукі,
А на іх плыты і караблі,
Разнамоўныя сыны і ўнукі
Ўсіх плямёнаў,
Што сюды прыйшлі.

Ты сама калісьці іх сустрэла,
Ўратавала іх у час благі,
Падтрымала,
Падала, як стрэмя,
Шчодрыя на шчасце берагі.

Волга, Волга,
Ты сама — Расія.
Шчодрая душой,
Як чалавек.
І вядома ўсім краса і сіла,
Прыгажэй, дужэй не знойдзеш рэк.

Тут з табою разам мы,
Як хвалі,
Ў добрай песні, ў працы, ў барацьбе.
І жыцця свайго не шкадавалі
Продкі нашы ў бітвах за цябе.

Тым шчаслівы,
Што цябе мы маем,
Ты даўно праслаўлена ў вяках.
Мы сябе, як дзеці, адчуваем
На тваіх,
На матчыных руках.

## СЛОВА «БРАТ»

Дзед калісьці ў рускі горад з'ездзіў,
І вярнуўся ён, нібы з гасцей.
І было заўважана, што дзедаў
Лексікон
Зрабіўся багацей.

Дружбакоў, што поўнілі кібітку,
Частаваць кумысам быў ён рад.
Дадаваў
дзед
к добраму напітку
Запрашэнне:
— Пі, калмыцкі брат!

Запрашаў, свяціўся сам вяснова,
Братам зваў любога зноў і зноў.
— Дзе, Ванькай, здабыў ты гэта слова?
Адказаў:
— У рускіх мужыкоў.

Напаіў я іх кумысам свежым,
Хоць звычайны дзень, ніякіх свят.
Па плячы хтось ляпнуў па-мядзведжы:
— Моцны твой кумыс, калмыцкі брат!

У хатоне ціхім, небагатым
(А хатон — па-нашаму сяло)
Слова «брат» пайшло грымець набатам
І Ванькаю славу прынясло.

Першаадкрывальніка Ванькая,
Што разжыўся слоўцам дарагім,
Паважалі людзі ўсяго краю,
Гаварылі з гонарам аб ім.

І нямала жыхароў улускіх
(А улус — па-нашаму раён)
Пажадала пабываць у рускіх
Гарадах, якія ведаў ён.

З ім хадзілі,
Як парламенцёры,

Ў Астрахань,
Дзе ўсім ён быў знаём
І яшчэ да выстралу «Аўроры»
Парадніўся з рускім мужыком.

Продак мой памёр,
Яго хатонцы
Пад курганам, што зарос травой,
Пахавалі галавою к сонцу,
К Астрахані,
К рускім
Галавой.

Як вярблюджы горб,
Ён быў пакатым,
Быццам вырас той курган з зямлі.
І яго назвалі людзі «братам»,
Імя незвычайнае далі.

Я патомак
Мудрага калмыка,
Што узяў у рускіх слова «брат».
Добра я жыву ў сям'і вялікай,
Я на словы многія багат.

Мовы многія лічу раднёю,
Ды прызнацца шчыра я гатоў:
Мова руская заўжды са мною,
З ёю многа маю я
Братоў.

* * *

Свяціла даль па-веснавому,
Мы йшлі па беразе ракі.
Было тут бацьку ўсё знаёма,
Ды ўсё глядзеў ён з-пад рукі
На стэп,
На матухну на Волгу,

Вачыма чорнымі ён ззяў,
Глядзеў уважліва і доўга,
Нібы чагосьці ён шукаў.
Не мітусіўся,
Не злаваўся,
Плыла між намі цішыня.
Я за руку яго трымаўся,
Бы за чумбур яго каня.
Ішоў ён з думкамі сваімі,
Куды яны яго вялі?
А волжскі вецер мчаўся міма,
Згінаў сівыя кавылі,
Нібы сабака, ён спяшаўся,
Вынюхваў, рваўся на прастор,
Аднак нідзе не спатыкаўся,
Хоць безліч тут сусліных нор.
І пачынала мне здавацца,
Што стану з ветрам дружбаком,
Што хоча к нам ён падлізацца,
Лізнуць гарачым языком.
Вядома ветру ўсё на свеце,
Бывае ў небе і ў гарах,
Адно, відаць, не знае вецер,
Куды мы ўсё ж трымаем шлях?
І я падумаў: давядзецца
Пра гэта ў бацькі распытаць.
...Пусты калодзеж,
І вядзерца
Вады ніхто не мог нам даць.
А вецер піў з вядра сухога,
І захмялеў, і заскакаў
Вакол вярблюдзяня малога,
Што вымя матчына смактаў.

І вось мінулі зімы, леты,
І зноў іду я не адзін...
І зноў ён бачыць, вецер гэты,
Што стэпам крочыць з бацькам сын.
Прад намі волжская нізіна,
І той жа стэп і тут і там.
Ды я ужо не ў ролі сына,
Ужо даўно стаў бацькам сам.
Але здзівіўся я нямала,
Нібы чагось не пазнаю:



Аляксей Пысін
і Міхаіл Ханінаў з жонкай.
1981 г.



**Аляксей Пысін.**
**1960-я гады.**

Вада — ад Волгі —
Па каналу
Прынесла радасць нам сваю.
Шаптала мне:
— Зірні, таварыш,
На гэты травастой густы;
Усё, аб чым твой бацька марыў,
Цяпер наяве бачыш ты —
Той самы журавель, здаецца,
Мне нагадаў вярблюдзяня,—
Да воблака вось дакранецца —
І заспявае вышыня.

Быў журавель высокі, тонкі,
Ён на адной назе стаяў,
Цягнуўся к воблаку, ды толькі
Да воблака не даставаў.
Вясёлы вецер забаўляўся,
І спачуваў ён жураўлю,
Што без радні адзін застаўся
Ў шырокім моры кавылю.
Ваду у стэпе мы спаткалі,
Паслала Волга нам яе.
Гляджу: мой сын ужо на хвалі,
Мой сын, як рыбіна, плыве.

## ТРЫ ГАРАЧЫХ СЛОВЫ

«Друг степей калмык». Жывуць тры словы,
Пушкіным падораны яны,
І бягуць, бягуць у стэп вясновы,
Цуглі грызучы, як скакуны.

Словы на граніце высякаюць,
Золатам на мармуры кладуць,
А калі ў душы іх захаваюць,
То нібы душа яны жывуць.

«Друг степей калмык». Тры рускіх словы,
Што ўзляцелі ў даўнія гады
І апелі брацтва ў час суровы,—
Вы цяпер са мною заўсягды.

Толькі ў дні вясны цюльпаны ў росах
Расцвітуць і радуюць народ.
Трох нязгасных слоў жаданы росквіт
Палымнее ў сэрцах круглы год.

«Друг степей калмык»,— як многа значаць
Словы, што люблю я паўтараць;
І яны ў крыві маёй гарачай
Пушкінскаю музыкай гучаць.

* * *

Былі ў маленстве ў нас свае турботы,
Любілі стэп, і травы, і расу.
Ды я журыўся, хлопчык жаўтароты,
Што так павольна людзі ўсё ж растуць.
Няхай раслі б, як той табун на волі:
Вось жарабя,—
зірніце вы вясной,—
Ужо імчыцца скакуном па полі,
Выцягваецца
звонкаю струной;
У мышцах падужэе добрым летам,
І ты да холкі паднясі далонь —
Пружыніста рванецца конь-двухлетак,
А там ледзь-ледзь —
І конь —
Рабочы конь;
І павязе ён цэглу і драўніну,
У возе не намуляўшы плячэй...
Хацелі мы
Нароўні ўстаць з краінай,
Мы так хацелі вырасці хутчэй.

## ПАРТРЭТ КАЛМЫЧКІ

Напэўна, без прыгляддкі экзатычнай,
Якою часам хтосьздзіўляе свет,
Намаляваў мастак партрэт калмычкі.
«Калмычка з люлькай» —
Так назваў партрэт.

Усё знаёма:
Сонца, стэп, і вецер,
І люлька, што дымком вось-вось дыхне.
Ўсе гледачы убачылі ў партрэце
Арыгінал знаёмы, блізкі мне.

Не я адзін падобнасць прыкмячаю,
Тут кожны з нас паклясціся гатоў:
Сядзіць,
Джамбы пакаштаваўшы,—
Чаю,
Напітку, што здзівіў бы і багоў.

І адчуваем водар мы напітку,
І бачым ціхі сонечны дзянёк,
Здаецца,
Што бабуля у кібітку
Усмешкай кліча нас на аганёк.

Дымком прыемным, смачным
Пахне люлька,
І трактарыст знячэўку закрычаў:
— Ды гэта ж родная мая бабулька,
Які яна варыць умела чай!

А побач сціплана дзяўчо стаяла
І, паглядзеўшы ў вочы гледачам,
Рашуча і задзірыста сказала:
— Ды не, сваёй бабулі не аддам!

Студэнтка абвясціла, як адкрыцце,
Не бачачы, што побач я стаю:
— Па рысах твару, люльцы і кібітцы
Пазнала тут
Бабульку я сваю.

Вунь кніга водгукаў каля ўвахода,
Я спрэчку вырашу на гэты раз:
«Бабульку я пазнаў.
Не помню года,
Калі, мастак, наведвалі вы нас».

## ЧЫРВОНЫ ЦЮЛЬПАН

Як надыдзе мой час,— вы запомніце, дзеці:
Не лічыце памершым мяне, пахаваным.
Буду кожнай вясною ў абноўленым свеце
Падымацца над стэпам чырвоным
цюльпанам.

Вы запомніце, дзеці, скажыце унукам,
Што іх дзед не сумуе
пад дзёрнам пясчаным,
Што ён цягнецца к сонцу,
к хвалюючым гукам,
Што ўзышоў ён у стэпе чырвоным
цюльпанам.

Вы запомніце, дзеці,— ад вас не хаваю,
Што я з libmarаю звыкся аб лёсе жаданым:
Не імкнуся быць птушкай,
што ў небе спявае,
А хачу на зямлі я успыхнуць цюльпанам.

Не пакіну я вас,— вы запомніце, дзеці,
Я знайду сабе месца за ціхім курганам.
Будуць свежыя травы у сонечным леце,
Буду вам усміхацца чырвоным цюльпанам.

## ЛЕТУЦЕННІ МАЛАДОСЦІ

Сябе я помню хлопцам нежанатым,
Чагосьці быццам не хапала мне,
Як не хапае сталаму салдату
Рукі, што не збярог ён на вайне.

Блукаў у адзіноце я нязвыкла,
І адчуванне гэткае ў жыцці,
Як у таго няшчаснага калмыка,
Што ўсё каня свайго
Не мог знайсці.

Ніхто нічым не мог мяне ўстрывожыць,
Павольна я рабіў наступны крок,
А часам быў калючы,
Быццам вожык,
Які ледзь што — ўвесь згорнецца ў клубок.

З дзяўчынаю сустрэнуся, бывала,
І ўспыхну, не магу узняць вачэй,
І адчуваю — твар увесь палае,
Гарыць такім агнём,
Хоць рукі грэй.

Няёмка прызнавацца ў той часіне,
Калі з румянцам на усю шчаку
Я марыў з сарамлівасцю аб сыне,
Чарнавалосым спрытным хлапчуку.

І, позіркам правёўшы зайчаняці,
Відаць, падумаў я не раз, не два,
Што бачу ў ім я жвавага дзіцяці,
Які бяжыць —
Аж хіліцца трава.

Усім з ім падзяліцца ў думках рад быў,
Як бацька будучы,
Як сем'янін.
Камусьці стане сябрам
Альбо братам
Доўгачаканы мой,
Любімы сын.

І ганарыцца пачынаў я сынам,
І бачыў я,
Як гэты чалавек
Краіны нашае грамадзянінам
Памчыцца ў новы Дваццаць першы век

На вогненна-гарачым Аранзале,
Што з'явіцца ў калгасным табуне.
Як часта сніўся, бы намаляваны,
Той добры конь,
Што не дастаўся мне.

А на яго расквечаным уборы,
Дзе промень сонца весела скакаў,
Звінелі і пярсцёначкі і зоры,
Што бацька мой
На радасць мне скаваў.
Але дзяўчаты,
Пекныя нявесты,
Мяне не заўважалі
Як на грэх.
Быў для адных,
Нібы пустое месца,
А іншыя маглі узняць на смех.

Ніяк не мог
Уцяміць я прычыны
Такіх благіх адносін да мяне.
Я ж быў не горш усякага мужчыны,
Умеў страляць,
Імчаць на скакуне.

Што летуценні?
Зведаў я нямала
Ўсяго, што мучыла,
Стамляла і пякло.
І аднаго мне толькі не ставала:
Ўзаемнасці,
Кахання не было.

Як зорачка, адтуль, дзе стэп і травы,
Як сонейка,
Зірнула Бугаша,
І я аслеп,

Не, ўбачыў я яскрава,
Што ў ёй мой лёс цяпер,
Мая душа.
Мая любімая,
Мая нявеста,
Прыгожая, і стройны стан такі,
І ёсць з калмычкай тою падабенства,
Якой сам Пушкін прысвяціў радкі.

З усіх
Адна яна паспагадала
І мне прысвоіла бацькоўскі чын.
Я маю ўсё,
Чаго душа жадала,
І радасцю, і ўцехай стаў мне сын.

Убачыў я, як скача ён няспынна
Ў наступны век,
Як абагнаў мяне.
Не ў мары — наяву яго я ўбачыў
На Аранзале — верным скакуне.

## ТАК ТРЫМАЦЬ!

Калі адзначыў сорак бацька мой,
За юнака сысці ён мог бы смела.
Ў рабоце ён, як кажуць, з галавой,
Усё ў руках спявала і кіпела.
За змену бацька сто авечак стрыг,
Ён гаварыў напарніку:
— Трымай! —
Свяціў усмешкаю ён нейкі міг:
— Вось так, вось так,
Мой юны друг Атай!

Калі ўжо грукнула і пяцьдзесят,
Ён цвёрда па зямлі ступаў нагамі,
Любому маладому быў ён брат
У сенакосны час на стагаванні.

А побач хлопец
Ад спякоты звяў,
Не так бярэ ён вілы, потам сцёк.
І бацька мой яго бярэма ўзяў:
— Вось так,
Вось так трымаць, сынок!

І ў шэсцьдзесят стары не адставаў,
Былі за ім калодзеж і карыта.
Па дзвесце вёдраў бацька даставаў —
Няхай авечкі п'юць ваду дасыта!
Падпаску, што вядро ўпусціў на дно,
Сказаў:
— Уменнем сілу беражы!
Ўсміхнуўся і параіў заадно:
— Вось так трымаць,
Мой юны друг Санджы!

Было ўжо бацьку семдзесят, калі
Ваўкі авечку з хлева валаклі.
Каля канторы ў гэты час зімовы
Стаялі хлопцы
І вялі размовы.
Ніхто не кінуўся з начной імглы,
І толькі бацька свой прыспешыў крок,
Ваўка сабой прыціснуў да зямлі
І крыкнуў мне:
— Вось так трымаць, сынок!

Перадаю я дзецям запавет:
— Вось так трымаць! —
Як гаварыў ваш дзед.

## ЛЮБА ПРАЦА МНЕ

З маленства працу паважаць умею,
Усё, што сёння маю, —
Ад зямлі.
Давалі сілу мне, нібы Антэю,
Зялёны луг, і паша, і палі.

Я ведаю, як хлеб зямля дае,
Таму і люба праца мне.

Я помню,
Да ярма я быў прыкуты,
Падсцёбваў бізуном мяне кулак.
Рубец на скуры —
Знак маёй пакуты —
І сёння сведчыць,
Што было ўсё так.
Я адчуваў удары на спіне,
Ды ўсё ж ты люба, праца, мне.

Але кулак той мусіў пацясніцца,
Жыць пачалі з'яднанаю сям'ёй.
Твае — ўсе табуны,
Твая — пшаніца
І ўсё, што бачыш ты перад сабой.
З тых дзён я чую песню на жніве,
Таму і люба праца мне.

«Пяцігадовы план — датэрмінова!»
Мой бацька ўжо ў радах бальшавікоў.
Прынёс аловак мне
І спытак новы:
— Ідзі у школу,
Здай сваіх быкоў.
Да ведаў шлях — заўжды па цаліне,
Таму і люба праца мне.

І пачалася
Ўдарная работа —
І ворыва з сяўбой, і сенакос...
Стараўся кожны,
Працаваў да поту,
Каб дружны наш калгас мацнеў і рос.
Багацце з працы ў нас, хто скажа — не?!
Таму і люба праца мне.

Люблю, каб у руках усё спявала,
Вучоба з працаю —
Ў адным звяне.
Калі хто адарве мяне ад справы,
Як ад зямлі Антэя адарве.
Дык вось чаму так люба праца мне.

# ТЫ Ў ПАШАНЕ ДВАЙНОЙ, КАЛМЫК

Ва ўсе вякі не знаў калмык
занятку хлебароба,—
Чуў толькі поступ статкаў
неабсяжны стэп.
А голад прыціскаў —
тады апошнюю карову
Пастух вёў на кірмаш аддаць
за хлеб, за рускі хлеб...
Вяроўкай залыгаўшы рогі,
ён цярпліва
Чакаў, хто купіць,—
так пачынаўся сумна год.
Змяніўся ўклад жыцця:
дзе стэп ляжаў — там ніва,
Ўсе ўбачылі:
аратым стаў калмык-жывёлавод!
Скажы, зямляча мой,
дзе ты спасціг сакрэт вялікі,
Як весці баразною плуг,
усходы каб былі?
— Наш рускі брат, наш рускі друг
руку падаў калмыкам,
І вырас колас там,
дзе вечна спалі кавылі...—
Ў засекі пацякло багацце
з урадлівай шыры.
Чырвоным золатам зіхціць
пшанічная рака.
З дарамі украінскіх ніў
і шчодрае Сібіры
У шэразе адным здабыткі
земляка-стэпавіка.
Ў прастор урэзан, быццам плугам,
подзвіг твой выдатны,
Нястрымны твой узлёт
і волатаўскі дух.
Ў двайной пашане ты, калмык,
і земляроб ты знатны,
І ўсім вядомы ты —
услаўлены пастух!



Малы хлапчук гуляе каля дому,
І ён пакуль адным бацькам вядомы.
Ды надыходзіць час — сын стаў джыгітам,
Каня сядлае ў стэпе пад блакітам.
— Імчы, мой сын, ёсць конь, і стэп з паўсвета.
І столькі бачылі — грыміць планета!
Сустрэнуць хлопцы джангарчы над ярам,
Хвалу ўзнясуць і назавуць Джангарам,
Каб ён, як і Джангар, служыў народу
І шчасце здабываў людскому роду...

Сучаснік мой і брат, з чаго б жа гэта
Мне Джангара ўслаўляць радком паэта?
О, волат наш, аб славе меў ён клопат...
Па Месяцы ідзе савецкі робат;
Як быццам спешыўся джыгіт шчаслівы,
Каню свайму паклаў далонь на грыву,
Ды бачыць ён — далёкая дарога,
І ўжо стаміўся конь яго, нябога...

О луназод, ты — цуд, стварэнне веку,
Увысь гляджу, змыкаючы павекі,—

Ўрача ў халаце бачу я, здаецца,
Вось ён памацаў пульс — як сэрца б'ецца,
Прастукаў грудзі Месяцу і прама
К нам на зямлю паслаў кардыяграму.
Мы казкай луназод лічыць павінны,
Радыёхваля — быццам гул чмяліны,
А можа, джангарчы, то вашы гукі? —
Да струн дамбры працягваюцца рукі.

## ВЯСНОЮ ХОДЗЯЦЬ ЖУРАЎЛІ

Вясною
Ходзяць жураўлі
Па мяккіх травах,
Па балотах

І цешацца красой зямлі
Пасля далёкіх
Пералётаў.

Цюльпаны кланяюцца ім,
Агністую выносяць радасць.
І льецца, льецца
Песня-гімн
Усімі колерамі
Радуг.

Вунь кветка —
Згустачак агню,
А тая —
Белізною слепіць.
У кожнай з іх
Сваю радню
Спазна́е сонца
Ў гэтым стэпе.

Вясною
Ходзяць жураўлі,
Так поклічна
Яны курлычуць:
Усё знайшлі, усё знайшлі,
Што жураўліным
Шчасцем лічаць.

Ліецца
Музыка жывая,
Хто тут саліст,
Хто капельмайстар?
Спявае высь,
Зямля спявае,
І кожны гук
Цвіце па-майску.

Вясною
Ходзяць жураўлі,
Іх край — без лесу
І карчэўя.
Сцвярджальна
Шэпчуць кавылі:
Канец вялікаму качэўю!

Над стэпам
Крылаў не чутно,
Цяпер з зямлёю
Ногі ў згодзе:
Ужо заўважана даўно:
Вясной не лётаюць,
А ходзяць.

Такая сіняя
Над светам высь,
І сонца ў ёй —
Высокім шляхам.
Паветра —
Быццам бы кумыс,
Сіл надае
Не толькі птахам.

Ах, жураўелькі,
Жураўлі,
Бываеце
Вы ў вершах часта!
Калі б вы з намі не жылі,
Нам не хапала б вас
Для шчасця.

## ТРЫ АДКАЗЫ

Калі за Смаленскам —
ні ўстаць, ні прысесці,—
Ляжаў я ў балоце, падбіты вайной,
З'явіўся з пытаннем Лёс перада мной:
«Што найдаражэйшым ты лічыш на свеце?»
Ледзь чутна прамовіў я: «Хлеба кусок».

Калі заблудзіў я у стэпе, ў бур'яне,
І звалены быў я спякотай густой,
З'явіўся з пытаннем Лёс перада мной:
«Якое найбольшае маеш жаданне?»
Сказаў я: «Калмыцкага чаю глыток».

Калі ачуняў я, падняўся з пасцелі
І ўсе за сталом мы сямейным паселі,
Лёс з тым жа пытаннем, і я адказаў:
«Таму, хто боль зведаў і смерць адагнаў,
Патрэбней за ўсё — слова добрага друга».

## ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ

Мы ехалі ў таежную Сібір...
Дарога прывяла нас да пасёлка,
Дзе побач неба, і зямная шыр,
І снег у твар — як вострыя іголкі.

Гаспадары у клуб нас прывялі,
Народу паказалі звідавоку:
Глядзіце, вось пісьменнікі прыйшлі,
Да нас яны, шаноўныя, здалёку.

Народ нам воплескаў не шкадаваў,
Мне слова даючы для прывітання,
Маскоўскі літаратар запытаў:
— Ці ганаровае ты маеш званне?

Пакуль пытанне ўцяміў я як след,
Мой мінскі сябра, глянуўшы задорна,
Сказаў:
— Ханінаў Міхаіл... Паэт...
Па клічцы партызанскай —
«Мішка Чорны».

І тут па зале:
— Братцы, гэта ж ён!
Ды ён жа — камандзір мой,
Мішка Чорны!
З ім не адзін варожы гарнізон
Мы ў Беларусі, як на жорнах, сцёрлі.

Ці помніш, камандзір, той гул бароў,
Дняпро і Сож... І рэчку Проню?..

— Я помню ўсё, і вас, маіх сяброў,
І Магілёўшчыну ў пажарах помню...

І мне і вам ніколі не забыць
І страты боль, і перамогі свята.
І — змоўк. Не мог я болей гаварыць,
Было дыханне чымсьці сцята.

Стаяў маўклівa, не знаходзіў слоў,
І разумеў няёмкасць адчування.
А людзі пляскалі ў далоні зноў,
Дарылі воплескі
за хваляванне.

Мой партызанскі сябра нёс букет
І зноў даводзіў некаму паўторна:
— Няпраўда, званне мае ён —
паэт,
І наша баявое званне — Мішка Чорны!

## БОЙ НА ПЕРАПРАВЕ

Дняпро нясе тугую хвалю,
А над ракою, над вадой
Узносяцца і кружаць чайкі
Ўсёй гаманлівай чарадой.

То высь блакітную дастануць,
То хвалю падмятуць крылом.
Лятаюць чайкі — сувязныя
Між блізкім морам і Дняпром.

Нахмарыла.
І — бліскавіца
На ўвесь прыціхлы небасхіл.
Б'юць перуны,
Магутна, гулка,—
У іх нябесны свой трапіл.

Нядоўга біла і грымела.
Ўдаль коціцца апошні ўдар.
І ўжо за нейкую часіну
Развееў вецер
Рэшткі хмар.

Зноў сонца свеціць, сонца грэе,
І з ветру, вільгаці, святла
Спрялася яркая вясёлка
І на паўнеба
Узышла.

...А там на беразе заходнім
(Ты стала рубяжом, рака!)
Тры пабрацімы,
Тры салдаты,
Заслон зрадзелага палка.

Пакуль на пераправе войска,
Пакуль рубеж яму займаць,—
Тры пабрацімы,
Тры салдаты
Павінны ворага стрымаць.

Паспелі ледзьве акапацца
І ўбачылі у той жа міг:
Пяць танкаў выпаўзлі адкрыта.
Пяць — на траіх,
Пяць — на траіх.

Пяць страшных, вогненных, паўзучых,
Упэўнен жа грымучы гад,—
Ніхто ўстаяць прад ім не зможа,
Са страху кінецца назад...

Паўзуць разгорнута, адкрыта
З вайною, з лютаю бядой...
Тры пабрацімы,
Тры салдаты
І — пераправа за спіной.

У гэты час і перад смерцю
Яны не могуць адступіць,
Не толькі полк,

А ўся Радзіма
З надзеяю
На іх глядзіць.

Адзін сказаў:
— Сябры-браточкі,
Лічыце — наступіў наш час.
Праверым жа, ў каго на справе
Мацнейшы гарт:
У іх ці ў нас?

Гранаты ўзяў баец смуглявы,
Было ў яго імя — Арсланг,
Так па-калмыцку леў завецца,
Арсланг
Сустрэне
Першы танк.

Спакой,
Ні страху, ні сумнення,
Усё зважыў і рашыў.
Свой бой апошні ён прымае
Вось тут,
На гэтым рубяжы.

— О, не!
Ні ходу, ні вяртання
Табе, пракляты, я не дам!
А болей не скажу нічога,
Я зброі слова
Перадам...

Падпоўз бліжэй,
Гранату кінуў,
І чуў ён выбух, бачыў дым...
Наступны той... сябры спалілі...
Яшчэ падбіць бы па адным...

Тры пабрацімы,
Тры салдаты
Не адступілі ні на крок...
А полк ім даганяць не трэба —
Сюды зноў вернецца іх полк...

## ТРЭЦЯЕ ЛІПЕНЯ

Чэрвеньскі шлях...
шлях змагання, надзей, праваты,
Быццам толькі з катоўні,
ўвесь крывёю заліты.
Як засмяглыя птушкі,
просяць варонкі вады
У нябёс,
што зеніткамі густа прашыты.
Па дарозе такой
вельмі цяжка ступаць,
Хоць і ўперад ідзём:
толькі ж ведаюць воіны —
Партызан і салдат,—
іх не могуць стрымаць
Ані танкі, ні міны,
ні тыя выбоіны.
Чэрвеньскі шлях
не спыняецца з-за перашкод,
Так бурліць, так кіпіць —
беларуская блізка сталіца.
Па-дзяцінаму плачуць дамы,
і на ўсход
Свіслач, быццам дзяўчо,
па руінах імчыцца.
Трэцяе ліпеня...
Цесна пад Мінскам шляхам,
Што зліліся ў адзін.
І праз гул несціханы
Ракатанне матораў
чуецца нам,
Поклічны голас:
«Прыйдзі, вызваленне чаканае!»
Я задыхаюся,
ў ботах трафейных бягу,
Вось прада мною ўскраін
дымам прапахлыя хаты.
Ворагу выбітаму
сёння сказаць я магу:
Не, не ўратуецца ён,
не ўцячэ ад расплаты.
Ссунуўшы шапку,
у поце, ў крыві,

Роце загадваю: «Гадаў даві!»
І падхапіла
                    братва мая ротная:
«Хай жыве Беларусь —
                                        маці родная!»
Нават снарады,
                        што выплавіў з сталі Урал,
Сёння крычаць,
                        як галасы чалавечыя.
Сцены спускаюць
                          свой цяжкі цагляны абвал,
Помсцячы тым,
                        што горад прыгожы знявечылі.
Прывітанне, жыццё!
                                Зноў Алеся пяе.
З захапленнем глядзім,
                                    партызаны й салдаты,
Як над Домам урада
                                  сцяг чырвоны плыве.
Сцяг,
        што сёння самой Перамогай узняты.
Ведаю,
          колькі часу яшчэ не міне,
Чэрвеньскі шлях я пазнаю,
                                          нібы пабраціма.
Ты навек, Беларусь,
                                стала роднаю мне,
Ты мне маці другая
                              і другая радзіма.

* * *

Бывае, раны зноў заныюць,
Адчуецца журба сама.
Дзе вы, браты мае лясныя,
Дзе партызанская сям'я?
Дзе кулямётчык мой з Урала?
— Казлоў загінуў як салдат —
З-за той мяжы, з-за перавала
Ўжо не вяртаюцца назад.

А дзе, таварышы, Каўшырка,
Мой падрыўнік з Беразіны?
Партрэт вялікі ўвысь і ўшыркі:
«Героем паў у час вайны».

А дзе разведчык Пракапенка?
Спяшаўся да ракі сваёй.
З той песняю, што недапета,
І ён загінуў,
Наш герой.

Яны грамілі гарнізоны,
Бясшумна зняўшы ўсе пасты,
І адсякалі эшалонам
То «галавы»,
А то «хвасты».
Засведчылі б зямля і неба:
Страчалі ворага як след.
Калі ж у тым была патрэба,
То ўмела замяталі след.

Адважна дзейнічалі, смела,
І ведаў беларускі бор,
Што група трох джыгітаў мела —
Ад трох рэспублік,
Трох сясцёр.

Пайшлі аднойчы па парошы,
І выбухі былі чутны:
То грымнуў эшалон варожы,
Ды не вярнуліся яны.

Баёў гарачых і паходаў
Не засланілі вы, гады.
Я помню — камандзір узвода
З жальбой дакладваў мне тады.

І слухала ўся наша рота
Цябе, таварыш Жураўлёў:
— Пайшлі яны цераз балота
К чыгунцы Гомель — Магілёў...

Я ведаю: на месцы бою
Ўзышлі вы вечнаю травою.

Калі ж вам неба дождж дае,
То ёсць слязінкі ў ім мае.

Даўно здаў зброю баявую,
Каханне слаўлю і вясну.
Ды па начах, калі пішу я,
Ўсё бачу прад сабой вайну.

І адчуваю боль у сэрцы,
І бачу вас, мае сябры;
Стаіце вы, як на паверцы,
У партызанскім тым бары.

І зноў мне, камандзіру роты,
Паведамляе Жураўлёў:
— Пайшлі яны цераз балота
К чыгунцы Гомель — Магілёў.

У стэп іду, дзе спеюць травы.
Альбо пяром раблю я штрых,—
Я думаю — у кожнай справе
Мне не хапае іх, траіх.



Гляджу на слупы, што пакрочылі полем,—
Не могуць адзін аднаго абагнаць.
А я ўспамінаю з журбою і болем
Сваіх пабрацімаў, якіх не спаткаць.

Нібы не слупы,— а салдаты ў паходзе,
Не збочаць з дарогі, ні кроку назад,—
Пасталі ў калону пры светлай пагодзе
І ціха пайшлі ў залаты лістапад.

Так сёння шарэнга маўклівых слупоў
Мне зноў нагадала дарогу баёў...
Як быццам бы зараз мы выйшлі з атакі,
Варожы разбілі, змялі гарнізон.

Яшчэ дагарэць не паспелі баракі,
Скарэжаных дотаў не ўлёгся бетон.

Я бачу іх твары — людзей маёй роты,
Вось строем праходзяць байцы і сябры.
Калона к калоне — лясная пяхота,
І сцяг партызанскі — пад колер зары.

Я помню таго лесніка на паляне,
Плячыстага дзеда — быў трапны стралок.
«Я з вамі пайду, два сыны-партызаны,
А трэці на фронце... загінуў сынок».

Ну што яму скажаш?.. Мы адпачывалі.
Гарэнічы — нашы. Зноў заўтра у бой.
Мы чысцілі зброю. Мы ціха спявалі
Пра вочы і ўсмешку каханай сваёй.

Я бачу вас кожнага, бачу вас разам,
Мае пабрацімы, лясная радня.
Як хочацца справы ўсе кінуць мне часам
І зноў асядлаць і прышпорыць каня.

Імчацца па сцежках, што добра вядомы,
Каб нават не ўгнаўся і дожджык сляпы,
І дзякаваць сонцу, і ветру, і грому,
І дзякаваць вам, палявыя слупы.

Усё гэта ўспомніў — лясы і балоты,
Хоць стэп прада мной і звычайны курган.
Успомніў я хлопцаў, салдат маёй роты,
Маіх магілёўскіх сяброў — партызан.

## КЛІЧАЎ

Да Ольсы ціхіх берагоў
Лячу, спяшаюся здалёку.
Сустрэну Беларусь я зноў
У пошумным зялёным змроку.

І зноў у памяці — вайна:
З агню і полымя да хвалі
Тут беглі за сасной сасна
І, не дабегшы, паміралі.
Трава, ігліца, цёмны мох
Прапахлі дымам і крывёю.
У гэтым краі — з чатырох
Жыць засталіся толькі трое.

Даўно аціх вайны пажар,
І Ольса ў марыве світання
Плыве ў паводцы светлых мар,
Нібы дзяўчо пасля спаткання.

Пасёлак жыў між дрэў і траў,
І шэры птах гады адлічваў.
Тады, у сорак першым, стаў
Сталіцай партызанскай Клічаў,
Грымотна выбух абпаліў
Бярозку пад акном раддома.
У рукі зброю ўзяў актыў
І прама ў бой — з бюро райкома.

Граната і гранёны штык
Далей працягвалі размову.
На рубяжах смяротных тых
Крывёй пісалі пастанову.
І, з партыяй з'яднаўшы лёс,
Па закліку свайго райкома,
Той нёс тапор, той зброю нёс
Па сцежцы, што здаўна знаёма.
Прымаў народных мсціўцаў бор,
Маўклівы, велічны і грозны.
І з партызанамі ў дазор
Выходзілі дубы і сосны.

І вось ён, Клічаў, прада мной,
Вітаем мы — салдат салдата,
І ён і я гатовы ў бой.
Руіны... Папялішчы... Хата,
Счарнелая, з-за палыноў
Глядзіць з трывогай і журбою,
Як маці, што сваіх сыноў
Даўно чакае з поля бою.

Магчыма, сціпанай парой
Сустрэне і мяне хаціна
І прывітае ўсёй душой
Як брата, ўнука альбо сына...

Далёка мой кавыльны стэп,
Дзе месяц свеціцца падковай.
Тут маладзік — барвовы серп
Над партызанскаю дубровай.

Вось мы разведку правялі,
І быў загад аб наступленні.
І пакаціўся па зямлі
Гром ярасны, гром вызвалення.

Ішлі на ворага — у бой
Лясныя мужныя салдаты,
І з імі ў праваце адной —
Бярозы, вуліцы і хаты.

Нам сталінградскі чуўся гром,
Нам чуўся гул «кацюш» натхнёны.
Над Ольсай, Сожам і Дняпром
Ляцелі ў прорву эшалоны.
Не раз ішлі праз посвіст куль
І праз варожую блакаду.
Шмат заваёўнікаў адсюль
Мы не пусцілі к Сталінграду.
Нам Клічаў, быццам Сталінград,
У Ольсе ўбачылі мы Волгу.
І арміяй стаў наш атрад,
І верым мы у перамогу.

Прабіты кулямі ў баях,
Абпалены ўжо неаднойчы,
Над Клічавам трапеча сцяг
І свеціць людзям днём і ўночы.
Святло высокае плыве
На далячыні гарызонту.
Радзіма нас цяпер заве
Героямі ляснога фронту.

Ўжо бачым дзень вялікі той:
Зямлю ад ворагаў ачысцім

І разам з арміяй сваёй
Парадам прыйдзем урачыстым...

Даўно аціх вайны пажар,
І Ольса ў марыве світання
Плыве ў паводцы светлых мар,
Нібы дзяўчо пасля спаткання.

## КУЛЯМЁТЧЫК МУТУЛ

Ноч летам хутка так плыве,
Не мае часу прыпыніцца.
Ў бясхмарным небе,
                    ў сіняве
Мільгне над лесам бліскавіца.
Не бліскавіца то зусім.
Не вільгаццю вятры падзьмулі,
То зноў пад позіркам тваім
Трасірны след варожай кулі.
На перасохлыя палі
Не хлыне лівень вадаспадам,
Зноў глыбы чорныя зямлі
Грымотна ўздыблены снарадам.
А часам ты ўявіць гатоў
Пры добрай ранішняй пагодзе:
Няма вайны, няма баёў,
І ўсё звычайнае ў прыродзе,—
Палае ўсход, а не пажар,
І гром грыміць,
                    а не гарматы,
Сыходзіць параю папар,
Чакае зранку: дзе араты?
Дымок сышоў, апаў з галля
Ўстрывожаных бяроз і клёнаў.
І зноў уздрыгвае зямля
Пад крокам рот і батальёнаў.
Па бляску воч не прачытаць,
Каму з сяброў у нашай роце

Зусім нядоўга ўжо ступаць,
А хто яшчэ паўсвету пройдзе
І да Берліна данясе
Свой гнеў, спрасованы ў абойме.
Магчыма, сёння йдзём у бой мы
І з бою вернемся не ўсе.
Дзе ж вораг, сілаю якой?
Разведка мусіць нам данесці,
Ці ён за гэтаю гарой,
Альбо далей стаіўся дзесьці?
Ды вораг адазваўся сам
(Ужо не трэба данясенне),—
Засаду рыхтаваў ён нам
І біў на поўнае знішчэнне.
Спачатку —
вогненны налёт,
Спачатку грымнулі гарматы.
І кулямёт,
як з-пад варот,
Пакласці ўсіх ён быў бы рады.
Няма калі лічыць нам страт,
Байцоў загінула нямала.
Гарыць на бліндажы накат,
Рака,
як вогненная лава.
Уперадзе палітрукі,
І мы па закліку, па знаку
Ўздымаем вострыя штыкі
Ў сваю апошнюю атаку.
А з кулямётчыкаў адзін
Мутул
з «максімкам» у абдымку.
Ён, і баец і камандзір,
Налева павярнуў «максімку».
Хаця «максімка» хоча піць,
Хаця ўжо дыхае ён жарам,
Ды трапна б'е і будзе біць
Кінжальным
флангавым ударам.
Прабіліся мы да вады,
У абароне — рэчка з намі.
Не, не патрэбны нам брады,
І ўплаў не пусцімся мы самі.
А за спіною астраўка,

Шматка маленькага — плацдарма,
Кіпіць Бярэзіна-рака,
Рака са славай легендарнай.
Нас ворагу не ўзяць ніяк,
Тут абарона без агрэхаў.
Арэшак моцны, як кулак,
Змог скалаціць камбат Арэхаў.
Зямля аглухла ад стральбы,
Ад агнястрэльнай перапалкі.
Свае непрабіўныя лбы
Снарадам падстаўлялі танкі.
І загадаў тады камбат
Знішчаць бутэлькамі з бензінам.
І танкі папаўзлі назад,
Шлейф чорны цягнучы ў нізіну.
Мы ў акружэнні колькі дзён,
Прайшлі ў баях мы гартаванне.
Ужо не полк, а батальён
Вядзе з фашыстамі змаганне.
І зноў, нібы на палігон,
Ідзе за танкамі пяхота.
Ужо не полк,
не батальён —
У абароне толькі рота.
Не батальён,
не рота —
ўзвод,
І то зрадзелы ўжо, не поўны.
Узрылі, быццам агарод,
Снарады бераг наш
і пойму.
Праз несціханы гром і гул
Свой голас падае «максімка».
Змяніў пазіцыю Мутул
Пад кулямі, як невідзімка.
З укрыцця лёгкага свайго
То густа строчыць ён, то рэдка.
Дрыжыць пад пальцамі ў яго
Слухмяна-чуйная гашэтка.
Адсюль б'е вораг і адтуль,
Сцягнуў ён танкі і пяхоту.
З палка ўсяго
адзін Мутул,
Калмык-качэўнік з кулямётам.

Прашые куляй навылёт,
І зноў пасля чаргі кароткай
Спяшаецца да новай кропкі
Вандроўны спрытны кулямёт.
І сціх —
ні ўперад, ні назад,
Знямела ў паядынку зброя,—
Упаў наведзены снарад
І выбухам накрыў героя.
На полі бою феерверк
Дарма наладжваў вораг потым...
Ў баях наступных ажыве
Мутул
з «максімкам»-кулямётам.
Спалохае чужынцаў лес
І нават куст за паваротам:
Не раз ім здасца, што ўваскрэс
Мутул
з тым самым кулямётам.
На захад вораг пабяжыць
І будзе летам бегчы, ўзімку...
Рака, легендай асвяжы
Мутула
і яго «максімку»!

## КУРГАН НА ВОЛЗЕ

У сорак другім
Прыйшла вайна на Волгу,
І артналёт
З упартасцю ўрагана
Дзяўбаў курган прарэзліва і доўга,—
Хтось думаў, што КП пад тым курганам.

Ды не камандны пункт вайсковы,—
Толькі
Магіла майго бацькі там была:
Там бацька мой,— а ён не пойдзе з Волгі,
Як не сыходзіў ён з сваіго сядла.

Апісваць падрабязна я не стану,
Як выстаяў і колькі меў ён ран;
Было салдату цяжка,
А кургану
Нікольki не лягчэй,
Хоць ён курган.

Яшчэ і сёння там ляжаць асколкі,
Ды першы цягнецца ён да святла...
Ён ведаў,
Што калмык не пойдзе з Волгі,
Як не сыходзіў ён з свайго сядла.

## ПРА ТАНКІСТА І ПАЭТА

*Сяргею Арлову*

Пара ваенная, цяжкая,
Свет у грымотах
І агні.
Зямля прыглушана ўздыхае,
Зямля не мае цішыні.

Здаецца, выжыць немагчыма
Ані старым, ні маладым.
Куды ні глянь — перад вачыма
Руіны, вогнішчы і дым.

Жыццё упарта не здаецца,
Жыццё мацней, чым смерць
І страх.
Радзіма бачыць, як гвардзейцы
На ўсіх змагаюцца франтах.

Артпадрыхтоўка на світанку.
Апошні залп. І вось палкі
Пайшлі у бой,
Уперад — танкі,
Грымотныя штурмавікі.

Машыну ведучы стальную,
Сярожа — старшы лейтэнант
У лоб фашыстаў атакуе,
Услед за ім —
Яго дэсант,
Кустоўе выбухаў ля танка,
І спераду,
І па баках.
Тупы удар...
Агню маланка
Прайшла па зроку, па вачах.

Глядзець і дыхаць немагчыма,
Ён і сляпы ўжо,
І глухі.
Палае вогненна машына,
Нібы ў спякоту лоўж сухі.

А хлопец не спыніў атаку,
Калі ж пакінуў ён свой танк,
То сам быў вогненны,
Як факел,
Сярожа — старшы лейтэнант.

Напэўна, фрыцы рагаталі,—
Танкіст, як вогнішча, палаў,—
Не дабівалі,
Не стралялі,
Сам стане попелам, маўляў.

Ды смерць яго не падкасіла,
Хоць трапны быў
Яе удар.
І спасавала,
Адступіла,
А толькі апаліла твар.
Гады прамчаліся, як коні
Ў вясновым стэпе
След у след.
У наступленні
І сягоння
Танкіст апалены —
Паэт.

Пульсуе ў кожным яго вершы
Вялікай праўды
Пачуццё
І вучыць нас
Любіць бязмежна
Радзіму нашу
І жыццё;

Захоўваць слаўныя імёны
Сяброў,
Што з бою не прыйшлі,
І ўсё зрабіць,
Каб болей войны
Не палыхалі
На зямлі.

## ЛЕС

То курган,
То брацкая магіла,
Падступае пушча да вады.
Тут маё юнацтва ў бой хадзіла,
Тут мае засталіся сляды.
Ўжо дзесяткі год не свішчуць кулі,
Сон-трава
ўсцяж даўніх рубяжоў.
А зязюля шэрая кукуе,
Лічыць тых,
хто з бою не прыйшоў.
Пасталелыя занадта рана,
Не саромімся мы сівізны.
Зноў вядзе былога партызана
Сцежка,
што лягла у час вайны.

* * *

Лес стаяў пад небам веснавым,
Воблакі драмалі на галлі,
Велічна, шырока перад ім

Рэкі
    паўнаводныя
        плылі.
Сонца грэла дрэвы і траву,
Людзі шчасце ладзілі сваё.
Ды аднойчы неба сіняву
Чорнае
    заслала
        вараннё.
Хлынула варожая арда:
«Мы — паны, а вы — рабы!»
Памутнела светлая вада,
Застагналі сосны і дубы.
Днём і ноччу вораг лютаваў,
Вынішчаў усё жывое спрэс.
Грознай сілай перад ім паўстаў
Партызанскі
    волатаўскі
        лес.
Не маглі ні куля, ні снарад
Сэрцы
    воінаў лясных
        дастаць.
Вакол лесу абцугі блакад
Вораг пачынаў мацней сціскаць.

* * *

Спарадзіла гнеў
    трывога,
Не схіліў
    лес
        галаву;
Дзе захопніку дарога —
Ён кладзе яму
    пад ногі
Непраходную дрыгву.
Лезе вораг азвярэлы,
На паўнеба дым і гром;
На шляху — упокат дрэвы,
Бы прамчаўся буралом.
Лес ваюе, наступае
І сваіх не лічыць ран.
І чужынца падстаўляе

Пад удары партызан.
А пасля шумеў над збродам:
— Вось і лёг касцьмі ты, зброд,
Бо заўсёды лес — з народам,
З лесам заўсягды — народ!

* * *

То курган, то брацкая магіла,
Падступае пушча да вады.
Тут маё юнацтва ў бой хадзіла,
Тут мае засталіся сляды.
Загаілі сосны свае раны,
Ды жывая памяць ёсць у дрэў.
Аб мінулым дрэвы-ветэраны
Ўдаль праносяць спеў раскалыханы,—
Я прыслухаўся
І — зразумеў.

## УСПАМІН

### I

Вайна
Кубік мне прышпіліла ў пятлічку,
Планшэтку і зброю дала.
Шаснаццаці год маладая калмычка
Мяне на вайну правяла.
Разгублены погляд і вочы з журбою,
Смаляная вабнасць касы.
Я гэта прыпомніў за дымнай гарою,
Ля вогненнай той паласы.
Гарэлі будынкі, і дрэвы палалі,
У неба ляцелі стрыжы.
Па грудзі ў зямлі на зямлі мы ўстаялі
На дадзеным нам рубяжы.
І вораг сваёй захлынуўся крывёю,
Назад адкаціўся і змоўк.
Я ўспомніў хатон свой і ўсё, што з любоўю

Ў акопе прыгадваю зноў.
...Ах, вочы, абмытыя першай расою,
Як смольныя косы нясе!
Сяджу і ўздыхаю.
А побач са мною
Ў журбе аднагодкі мае.
Валжапін Сярога — успомніў аб Любе,
Аб Айшы — нукусец Тлеген.
І стэпам і сонцам прапахлыя губы
Мае прашапталі —
Кермен.
Яшчэ паўгадзіны —
Пачнецца сутычка,
І жорны вайны загрымяць.
Ды я не аб гэтым, мая ты калмычка,
Жадаю ў пісьме расказаць.

II

Сядзім на беразе ракі
Ў вярбовым светлым цені,
Пясочкам драім кацялкі
І моўчкі летуценім.
Аб чым?
Таі ці не таі —
Усе як ёсць кахаюць.
Паблізу свішчуць салаўі
І хлопцам спачуваюць.
Няма збавення ад пакут,
Баліць душа і цела.
...Мой родны край, мой родны кут,
І чыйсь пагляд нясмелы.
Зязюляй поўня на суку
Кукуе гулка-звонка.
Шкрабу цвіком па кацялку —
Выходзіць профіль тонкі.
Запал лірычны дружбаку
Руку натхнёна водзіць.
Сяргей на медным кацялку
Адно імя выводзіць.
Схіляецца ён зноў і зноў
І шэптам паўтарае:
«Навекі, любая Любоў,
З табой я, дарагая!»

«Айша» — шкрабе нажом Тлеген,
Стралою сэрца раніць.
Ну, як мяркуеш ты, Кермен,
Ці я ад іх адстану?
Цвіком я крэмзаю, гляджу,
А літары ўсе — коса:
Імя я звонкае пішу
Суседкі чарнакосай.
«О лейтэнант, шкадуй сябе!» —
Шчабечуць птахі хорам.
— Здаюся я, Кермен, табе,
Іду ў палон бадзёра!

III

Развіталіся мы з вёскай Сошняю
І на захад узялі кірунак.
Мы сябрам пакінулі апошняе —
Кацялкі свае, як падарунак.
Кацялкі з прыгожымі імёнамі,
З нашымі салдацкімі пісьмёнамі.
І жагналіся ўслед нам прадзеды,
Стоячы ў густым дарожным пыле.
Наляцелі зноў фашысты набрыддзю
І ўсю вёсачку датла спалілі.
Цені кошак над былою вуліцай,
Печаў абгарэлыя шкілеты.
Пагарэльцы крочылі сутулена,
Падбіралі годныя прадметы.
У попеле — знаходка відавочная;
Кацялок — такі выпадак зручны —
З сілуэтам дарагім дзявочым
І калмыцкім імем паўнагучным.
Кацялкі знайшліся і астатнія,
Так старанна чысцілі іх рукі:
Што на свеце знойдзецца больш вартае
Сціплага салдацкага дарунка?
Хоць счарнелі печы і застылі,
Дружба ў сэрцах ярка разгарыцца.
Волга і Аму смалян паілі,
А яшчэ калмыцкая крыніца.

## АРАНЗАЛ

Сорак першы.
Мой шлях не з вакзала,
Я насустрач вайне праз агні
Паляцеў на сваім Аранзале —
Танканогім калмыцкім кані.

На паўнеба —
Дым чорны пажара,
У пажары калоссяў сцяна.
Аранзал легендарны з «Джангара» —
Продак даўні майго скакуна.

Сустракаў я вайну у барвовым
Палыханні на Беразіне.
У баі пабываў я суровым
На калмыцкім маім скакуне.

Баявымі адзнакамі — раны,
Іх жывіцай гаілі бары.
Да свайго будана партызаны
Запрасілі мяне,
Як сябры.

Ваявалі,
Паклонаў не клалі
Кулі той, што ў баі не міне.
На прывале
Аднойчы назвалі
Камандзірам узвода мяне.

Не шукалі спрыяльнага часу,
Білі ворага ноччу і днём.
Анідзе я не разлучаўся
Са сваім партызанскім канём.

І пад Клічавам,
І пад Сушай,
І ў тых вёсках, якіх не назваў,
З бою ў бой
У спякоту і сцюжу
Йшоў са мною мой конь Аранзал.

Давяраў я яму і дарогам,
Што ў агонь і пад кулі вялі.
Ледзь жывога, на повадзе доўгім
Ён цягнуў мяне ў лес
Па зямлі.

Не забыць: мы выходзілі з бою
І я ўпаў паміж соснаў старых.
Конь спыніўся, стаяў нада мною,
І паветра вушамі ён стрыг.

Я схапіўся за стрэмя рукою,
Прашаптаў ледзьве чутна:
— Імчы!..
Заспявалі вятры над ракою,
Нібы ў стэпе маім джангарчы.

Дабрыню і сардэчную ласку
У бядзе я не раз адчуваў.
Беларуская маці Параска
Боль гаіла мне зёлкамі траў.

І прыйшло тое майскае ранне,
І абдымкі, і слёзы былі.
Аранзала ўрачыстае ржанне
Вы пачулі тады,
Кавылі!

Перамогу зямля адзначала,
Там, дзе кветкі,—
Не трэба прамоў!
І памчаліся мы з Аранзалам
У калмыцкія стэпы дамоў.

Міма вёскі
І міма мястэчка,
Толькі вецер і свіст у вушах.
Залатыя пярсцёнкі вуздэчкі
Усцілалі нам музыкай шлях.

Родны край паўстае ўвачавідкі:
Вось яны, вось яны, вось яны,
Стэпы, травы, улусы, кібіткі,
Маладых скакуноў табуны.

І сцяжынка вяла Аранзала
Да кібіткі, што роднай лічу.
А душа перш за ўсё пажадала
Далажыць аб усім Ільічу.

Як жывы,
Ленін
На п'едэстале,
Ён да стэпу і сонца прывык.
У грудзях маіх сэрца спявала,
І маўчаў я, шчаслівы калмык.

## МАЦІ МАЛЮЮ СВАЮ

Я маці малюю сваю,
а гляджу на дачку...
Я самы найменшы ў сям'і...
Маці ранняй парою
Нада мною схілілася. Я ўзяў за руку,
І трымаю яе, і зноў сплю пад кашмою.

Калмычка, што Пушкін уславіў...
Ты, маці мая,
Як яна, ўсіх здзіўляла сваёю красою,
Румяныя шчокі, вясновых вачэй глыбіня,
Ледзь скулы прыкметны,
і косы ільюцца смалою.

Мы вечарам горнемся к маці дружней
І ў вочы глядзім ёй: чаму ў іх журбота?
А нас не багата не мала,
а дзесяць дзяцей,
І ў маці аб кожным у доме турбота.

Малюнак я скончыў, гляджу я на маці ізноў,
У добрым аблічы ўсё велічна,
мудра і строга;
Жылося нялёгка, а ўзгадавала дачок і сыноў,
І выйшлі мы ў людзі,
ў жыццё павяла нас дарога.

Вялікае гора! Пакінула родная нас,
Зноў мы дзецьмі адчулі сябе,
хоць і сталі на ногі.
Праводзім на могілкі маці,
свет белы пагас,
Мы плачам і плачам,
З-за слёз мы не бачым дарогі.
І ўсе мы ў даўгу
перад смуглаю мамай сваёй,
Маці верыла ў нас і на кожнага
ўсклала надзею.
Я гляджу на дачку,
А ўсе думы аб ёй,
І я маці малюю
І сэрцам пры гэтым святлею.

## ПАКУЛЬ СТАРАЯ РАСКУРВАЛА ЛЮЛЬКУ...

Люльку набіўшы,
прысела ля печы бабулька,
Дым выдыхае,
струменьчыкі ўюцца над люлькай.
Побач паселі два вельмі цікаўныя ўнукі,
Кніжка ляжыць перад імі,
а ў кніжцы малюнкі.

Меншы заўважыў:
— Курган, нібы вярблюдок...
Большы засведчыў:
— Рэчка вузей, чым пруток...
Меншы спытаўся:
— Куды мчыць рачулка?..
Большы сказаў:
— У стэп: у гарах ёй мулка.
Сюды вось зірні:
Два азерцы,—

Дзве зоркі
На нас паглядаюць
Зорка!..
Меншы усклікнуў:
— Ды мы яшчэ не дурэлі!..
Большы прамовіў:
— Авечкі, відаць, не пад'елі.
Ты паглядзі — у палыну серабрыстым
Гойсаюць, быццам бы футбалісты,
Ну, а чабан, як суддзя...
Толькі ў руках не свісток, а дубінка...
Меншы смяецца:
— А поле, як мамы хусцінка,—
Стэп зелянее, у стэпе дарожка,
І, як на хустцы, у стэпе валошка...
Толькі,—
Звярнуўся хлапчук спахмурнелы,—
Тут на малюнках люлькі няма пракапцелай.

Гэту размову дзіцячую чула старая,
Люльку яна прытушыла й хавае.

— Ну падымайцеся!
З ёй хлапчаняты ступаюць дарожкай
Ў стэп, дзе цюльпаны ўзняліся
на тоненькіх ножках.

## НЯБЕСНЫЯ ДЗЯЎЧАТЫ

Прыгажуня-чараўніца
Хмарка у маім акне:
— Калі думаеш жаніцца,
Буду жонкаю табе.
— Лепшай не знайду нідзе я,
Аднаго мне толькі жаль:
Раптам вецярок павее,
Панясешся з ім ты ўдаль.
Вечарам у ціхім полі
Я сядзеў на дзірване.
Апусцілася паволі
Поўня на калені мне.

І прыбраная нямодна,
А палоніла красой:
— Мне на небе так самотна,
Ты вазьмі мяне з сабой.
— Я з табой не меў бы гора,—
Так з пачуццем адказаў.—
Ты як жоначка Хангора,
З ясным тварам Геранзал.
Ды расстацца давядзецца,—
Гаварыў я у жальбе,—
Бо майму зямному сэрцу
Не сагрэць ніяк цябе.
І не позна і не рана
Стэпам, дзе трава, як шоўк,
З-за высокага кургана
Ка мне сонейка ішло.
Йшло дзяўчынай белазубай
З блёсткамі на падале.
Вось кумысу поўны кубак
Мне з паклонам падае.
Сонца-дзеўчына сказала:
— Будзеш верным ты са мной,
Я тваёй бы жонкай стала...
І падаў я голас свой:
— Прыгажосць твая надзіва,
Толькі днём жывеш, аднак;
Ночкай цёмнай сіратлівай
Не сустрэнемся ніяк.
Зоркі, зорачкі, дзяўчаты,
Не міргайце ў позні час.
Не пайду да вас у сваты,
Мне, скажу вам, не да вас.
Маю я, такая справа,
На прыкмеце Бугашу,—
Паглядзіць яна ласкава —
Я гатоў аддаць душу.
З ёй сядзім мы да світання.
Бераг. Рэчанька-ручэй.
Хвалі шэпчуць пажаданне:
— Пабярыцеся хутчэй!
Хвалі, перадайце смела
Стэпу, небу і ляску:
— Будзе, будзе ў нас вяселле,
З любай еду ў Элісту!

## БАЛАДА ПРА НЕДАКУРАНУЮ ЦЫГАРКУ

Як у нашага Акі
Гарадавікова
Па пуду кулакі,
Ўзмах свінцовы.
Свісне шабля —
                    галава
Панская, як мячык.
Чуюць Піцер і Масква —
Па-над Бугам скача.
Не дагнаць на вараных,
Не дагнаць на рыжых...
Дружна драпаюць паны,
Ды Ака ўсё бліжай.
Як арол, калмыцкі сын
Над варожым станам.
Два крылы — яго вусы,
Бурка — сцягам слаўным.
Прытаміўся наш Ака,
І ўсё войска чуе:
«Ой ты,
        гой ты,
                Буг-рака,
Адпачыць хачу я!»
Запрыкмеціў між кустоў
Камень на узгорку.
Папрасіў Ака байцоў:
«Дайце мне махоркі!»
Не шкада Аку аддаць
Тытунёк свой добры.
На цыгарку паглядзяць,
А яна — з аглоблю.
Ох ты, рэчка, Буг-рака,
Ох, кавалерысты!
Удалы камкор Ака
Круціць вус пушысты.
Курыць, смаліць,
Дым-агонь
У блакіт пускае.
А з байцамі у яго

Гутарка такая:
«Ворага мы —
ў пух і прах,
Біліся — на славу.
Белы выкінула флаг
Панская Варшава.
Просіць міру, мы — за мір,
Адмаўляць не можам.
І — дамоў
праз даль і шыр
З песняй пераможнай».
«Камандзір, скажы ты нам,—
Просіць хлопец стройны,—
Ці пакінем мы панам
Бугскі край прывольны?»
Ўсе глядзелі на Аку,
Хітануў той вусам:
«Гэты вольны край
пакуль
Мы пакінуць мусім.
Шкода нам сваіх братоў
Пакідаць у горы.
Толькі сэрцам чую: зноў
Вернемся мы скора.
Сонца волі узышло
Над полем і логам.
Гэй, па конях!
У сядло!
І — ў сваю дарогу!
А пакольні наш Ака
Быў зрадні Джангару,
Прыпадняў валун Ака
І кладзе цыгару.
«Як вярнуся, дакуру!»
І, як птушка, мчыцца;
Пратрубіў трубач зару,
Толькі шлях курыцца...
Год — як мора,
дзень — рака,
Сонца свеціць ярка.
А ўсё думае Ака
Пра сваю цыгарку.
Спеў вясёлы на зямлі
Вецярка-балтыйца.

Мы ў свой герб
яшчэ ўплялі
Тры йстужкі-сястрыцы.
Ужо людзі не рабы,
Панству ўсюды туга.
Ды трашчаць, трашчаць гарбы
У братоў за Бугам.
Столькі пыхі ў шляхцюка,
Пан сабе пануе.
«Волю прынясі, Ака!» —
Камандарм наш чуе.
Круціць наш Ака вусы
Ды на вус матае.
Добра выспелі аўсы,
Вецер іх матляе.
Жаць, касіць авёс пара,
Даль перад вачыма.
Рамень жоўты. Кабура.
Бурка за плячыма.
Звон пчаліны з верасоў,
Пахнуць пушчы мёдам.
Коннікі імчацца зноў
Баявым паходам.
Рукі працягнуў Ака
Братам-беларусам.
«Прывітанне,
Буг-рака,
Рад сустрэчы,
дружа!
Зноў спаткаліся з табой,
Ды не к часу чарка.
Хлопцы,
вунь
валунчык мой,
А пад ім — цыгарка!»
Падналёг,
уніз руку,
І пад камнем-гмахам
Ўзяў цыгарку.
«Аганьку!»
Закурыў са смакам.
Пакланіўся валуну:
Быў жа схоў надзейны.
Тытунёвы дым глытнуў,

Дым павіс кудзеляй.
Ўсмешка добрая ў Акі —
Верная прыкмета:
Край Прыбугскі на вякі
З Краінай Саветаў!

* * *

Дзе я ні быў бы, стэпу даль са мной
І светлым днём, і ў цішыні начной:

То дзеўчынай прыгожай паўстае,
То сагайчыхай з стройнасцю яе;

То з'явіцца, як маці, па вясне
І прыгатуе чай калмыцкі мне;

То жонкаю, як ціхі вецярок,
Узвеецца, праводзіць за парог;

А то дачкой узыдзе у акне
І ўсё чакае спішана мяне;

А можа, я і сам, о стэпе мой,
Стаю цюльпанам, што ўзышоў вясной?

Магчыма, што перад табою я —
Малое рыжае вярблюдзяня?

Ці то я хлопчык у тваіх вачах,
Што скача, ажно вецер у вушах?

Не ведаю, душой я стэпавік,
І так жыву,
І думаць так прывык.

## У БАЦЬКОЎСКІМ ХАТОНЕ

Калі я бываю ў бацькоўскім хатоне,
То зноў адчуваюцца ветру далоні.
Здаецца, ўсё гэта учора было,
Так ярка паўстала ў маім успаміне:
Захутвае бацька мяне у аўчыну,
Як казка, дасюль грэе тое цяпло.

Дарога звінела, дарога спявала,
Калі раніцою мяне пазнавала,
Абнюхвала, быццам лахматы вярблюд,
І чуўся мне голас ад самага долу:
«Бяжы, не спазняйся, дзіцятка, у школу,—
Вучыся, цябе дачакаюся тут».

...Я скочыў з машыны днём сонечным, ясным,
Пабегчы хацеў, ды мой сын першакласнік,—
Жвавейшы бягун. Я гляджу яму ўслед
Праз часу пражытага светлую дымку:
А можа, то сам я з вятрамі ў абдымку
Бягу — і са мною бяжыць увесь свет?

А сонца ў траве, быццам ліс быстраногі,
Жаўцела, і пыл падымаўся з дарогі,
Бялела пляцоўкі пясчаная гладзь,—
Нікога не бачу на гэтай пляцоўцы,
Куды вы падзеліся, добрыя хлопцы,
Што ўперагонкі любілі гуляць?

А школа — нібы карабель ля прычала,
І кожным акном і парогам крычала,
Я кланяўся ёй, як трава пад расой,
Рос я ў Цаган-нуры, і разам са мною
Ён вырас, авеяны воляй людскою
І ласкай пявучай радзімы маёй.

Да сонца і з сонейкам я падымаўся,
І ў поле, у стэп мой шырокі імчаўся,
Скакаў я, нібы жарабя-сасунок,
Я помню, рыпеў журавель над вадою,
Я помню, быў бацька у згодзе са мною,
Хоць раіў: «Не спатыкніся, сынок...»



Неба Калмыкіі летам,
Зноў на нябеснай раллі
Густа над полем, над стэпам
Яркія зоркі ўзышлі.

Толькі агнямі засвеціцца
Луг, што папасам прапах,
Бачу Вялікай Мядзведзіцы
Срэбны маўклівы чарпак.

Мусіць, з маленства знаёма
Ўсё, што запала ў душу.
Выйду я ў сад каля дома,
Ўдаль прад сабой пагляджу.

Доля салдацкая, дзе ты?
Ўспомню цяпер па начах,
Як мы з Мядзведзіцай гэтай
З пушчы знаходзілі шлях.

Зорны чарпак прыкмячаю,
Быў часцяком ён пусты.
Зараз напоўнен ён чаем,
Чаем калмыцкім густым?..

## ЦЮЛЬПАНЫ

«Табе, хто дорыць пасля ночы ранне,
Хто цеплыню дае, як прывітанне,
Табе, чыё святло жывое п'ём,
Жыцця крыніца,— мы хвалу пяём!»
Так кажуць сонцу
ўдзячныя цюльпаны,
Схіліўшыся ўлюбёна галавой,
На ўзгоркі, на лагчыны і паляны
Прыйшоўшы ўсхваляванаю гурмой.
А хмара з зайздрасці аж пачарнела,

Сабою засланіла сонцу твар:
«За тое помшчу я, што свеціш смела,
Дазволу не пытаешся у хмар!»
Яна паўзла,
і чуўся стогн і ўсхліпы,
І кветкі падалі у бруд і пыл,
Іх вецер адпяваў
на сотнях скрыпак,
Без сінявы быў нізкі небасхіл.
Пагібель несучы усім, хто слабы,
Злаваўся вецер, падмятаў ён яр,
І няньчыў на сваіх лахматых лапах
Усю сям'ю сясцёр стрыечных — хмар.
А навалач маланкі падпіралі,
Ламаліся,— каціўся гулка гром,
Халодныя струмені палівалі
Зямлю,
і ўсё знямела пад дажджом.
Ды быў, напэўна, гнеў стыхій дарэмны,
Цюльпаны падымаліся, цвілі,
Ніяк не мог іх моцнае карэнне
Разбойны вецер выхапіць з зямлі!
На волю сонца выплыла, і толькі
Ўсміхнулася, і падарыла дзень.
І, к сонцу ўскінуўшы свае галоўкі,
Цюльпаны прагна
кожны п'юць прамень.
Цюльпаны! Я гляджу на вас, цюльпаны,
Стаю я ў захапленні нейкі час:
Як вы змагаліся самааддана,
Адкуль, цюльпаны, столькі сілы ў вас?
І чую я, як шэпчуць у адказ мне:
Зямля клапоціцца пра нас, малых;
Зямлі і сонцу ўсім мы абавязаны,
Мы ўспоены
жывою сілай іх.
Калі б я сам, як пласт той нечапаны,
Зямную сілу меў, то б я раскрыў
Шырока грудзі, на грудзях цюльпаны
Расціў бы і крывёй сваёй паіў.
Усеяў бы ўвесь свет іх яркім цветам,
І з шчодрасцю, якой ніхто не знаў,
Дагэтуль невядомым нам планетам
Зямлі калмыцкай кветкі б я раздаў!



Журчыць агонь пад таганом,
Булькоча кацялок.
Б'е палыном
стэп,
як вінам,
Ажно п'янее крок.
Дыхну я раз,
дыхну я два,
І — кругам, кругам галава,
І ногі — ў скокі,
сэрца — ў спеў,
Свой родны край
я зноў сустрэў.
Я — тут!
Я рву траву,
Тапчу траву,
Я к зоркам маладым плыву...
Я спаць кладуся,
неба мне
Паслужыць, як бешмет,—
Мяне нягода абміне,
Ўратуюся ад бед.
Сівы курган — пад галавой,
І коўдраю — кавыль,
Прыходзяць словы чарадой,
І вось пляцецца быль
Пра вас, мае вы скакуны,
Пра гнеў вайны і боль вайны...
Я ўбачыў стэп,
я — тут, я — тут,
І радасць — цераз край,
І — быццам не было пакут,
Мой родны край!
Мой родны край!..
Журчыць агонь пад таганом,
Плыве дымок — і думкі ўслед.
Мой добры свет,
Вялікі свет!

* * *

Ціхія курганы
Любяць гулкі гром.
Мыюцца старанна
Веснавым дажджом.

Серабрыстай, спелай
Схіл парос травой.
Спіць курган пад белай
Коўдраю зямной.

Сонца, быццам грудзі
Матчыны, яно
Дорыць жыццё людзям,—
Так лічу даўно.

І курган мядовы
П'е і п'е ў вяках
Кубкі залатога —
З неба — малака.

## ХВАЛА ЧАБАНУ

### I

Гляджу на чабана: ў гарачыню і ў холад
Сваю атару ён пасе за курганом.
І Сонца — светач наш і вечна юны волат
Падчас здаецца мне руплівым чабаном.

Чабан, правёўшы Сонца
пасля вахты ўдарнай,
Дасць і сваім авечкам сцішаны спакой.
Павесіць Месяц, як ліхтарык, над атарай
І будзе чай варыць у цемрадзі начной.

Гарачай стравою падсілкавацца трэба:
Вячэра позняя — па густу звараны чай.

Закурыць люльку:
дожджыку б дало ты, неба,
Каб зелянеў, як ніва, чарназёмны край.

Я ўчора іх сустрэў у добры час пагожы:
Чабан і сонца йшлі ў абдымку на ліман...
О, каб сябравалі ўсе, як сонца і чабан,—
Які надзіва быў бы свет тады прыгожы!

II

Я запрашу, як госця, чабана ў свой дом,
Як вучань,
шапку перад ім зніму з паклонам.
Чабан на пашы —
на пасту сваім штодзённым,
І ў стэпе лічыцца галоўным мудрацом.

Як пестуе унукаў дзед белагаловы,
Так росціць і гадуе ён малых ягнят.
Душа яго без межаў, быццам стэп вясновы,
І цеплынёй сардэчнаю чабан багат.

Як прагна слухае ён песні ветравыя,
Бо ведае: на мове роднай гэты спеў.
Спяваюць дрэвы, неба, травы лугавыя,
І слухачом уважлівым курган прысеў.

...І бацька мой — чабан.
І я, хлапчук вясковы,
Імчаўся ў вольны стэп на спінах скакуноў.
Без ветру адчуваю водар палыновы,—
Таму і слаўлю я заўсёды чабаноў.

* * *

Па хараству сумуе наша вока,
Але прыгледзься, ўважліва зірні,—
Ўся прыгажосць зямлі навідавоку,
Краса людзей — у сэрцы, ў глыбіні.

Мы словамі пачуцці называем,
Мы гонімся за мараю сваёй.
А слоў няма,— то прыгажосць зямная
Ўжо лічыцца як быццам незямной.

Ёсць хараства багата на планеце,
А нам замала ўсё красы такой.
Сучаснік, узляцеўшы на ракеце,
К планетам іншым цягнецца рукой.

Ёсць прыгажосць і ў прыцемках спакойных,
У спеве птушак і разліве рэк.
Ды хараство зямлі ў крывавых войнах
Знішчае сам жа чалавек.

Калі б навекі войны ў нас звяліся,
Тады наколькі б зблізку
І здаля
Вы прыгажэйшымі для нас здаліся,
Сузор'і ў небе,
Людзі і зямля.

* * *

Калісьці на шляху пустынным гэтым
Не часта клаліся сляды карэт.
Спагадлівым і неспакотным летам
На тройцы мчаўся малады паэт.

І палыновы пах яго трывожыў,
І невядомасць лёсу і шляхоў.
Спыніў на нейкі час ён падарожжа,
Ў кібітку незнаёмую зайшоў.

Відаць, калмычка госця не чакала...
Чай у катле. Успыхнулі вуглі,
І полымя прыветліва шугала,
Скакала на апаленай зямлі.

Паэт на міг спыніўся у здзіўленні,
Уражаны жаночаю красой,
І ўсё глядзеў у твар ёй з захапленнем,
На стройны стан з прываблівай касой.

Ён любаваўся лёгкасцю паходкі,
Красой, што незямною назавеш.
І раптам,— ён у гэты міг кароткі
Ўявіў прысвечаны калмычцы верш.

І вось дзяўчына зноў радкі чытае,
Што пушкінскай напісаны рукой.
У роздуме калмычка маладая
Над доляю уласнаю сваёй.
Даступны ёй і кнігі і палацы,
І ўсё, што радасць для душы дае.
Магла б з далёкай той
Красою параўнацца,
І толькі іншае жыццё ў яе.



Дуб узняўся на прасторы
Каля роднай маёй вёскі
І стаіць, нібы ў дазоры,
Выгляд маючы байцоўскі.
Вось галінкаю зялёнай
Памахаў перада мною.
Я саджуся ў цень пад кронай,
Травы сцелюцца кашмою.
Пачынаю я размову:
— Ты чаго ўздыхаеш, дрэва?
— Я сумую без дубровы,
Мне сяброўства вельмі трэба!
Ні браточкаў, ні сыночкаў,
З кім жа мне гамонку весці?
Ў стэп ляцяць мае лісточкі,
Як далей нясе іх вецер.

Пагляджу на наваколле,—
Аніхто не адгукнецца,
Скача перакаці-поле,
Быццам без карэнняў дрэўца.
Адбіваю стрэлы ветру
Восенню ў баі нялёгкім,
І мяне зямныя нетры
Пояць жыватворным сокам...
Я іду з турботай гэткай,
Можа, хто яе пачуе:
— Не саджайце дрэвы рэдка,
Людзі, вельмі вас прашу я.
Бо самотна дрэву стане
Нават і парой вясновай.
...Сніцца будзе на світанні
Луг з вільготнаю дубровай.



Аркестр пяе, як даль палёў,
Смычкі лунаюць у палёце,
І выпраўляецца ў палёт
Усё, што ёсць у кожнай ноце.
На кліч высокага смычка
І трубы адгукнуцца мусяць.
І звон малога ручайка
Ужо замоўкнуць не прымусіш.
І не стрымаць, і не суняць
Наплыву і актаў і скерца:
Не струны чуйныя звіняць,
А голас трапяткога сэрца.
Чароўнай музыкі палёт
Даступным стаў мне вельмі скора,—
Так разумець прывык пілот
Гром рэактыўнага матора.
Ірвуцца гукі ўвысь з-пад рук
То плаўных, то нецярплівых.
Мне стэп нагадваў кожны гук
Смычкоў, як коні белагрывых.

Я чую ціхі шолах траў,
Цыкад у іхняй пераклічцы:
Вось так каня калісь я гнаў
У ноч,
Да любае калмычкі...
Ў маёй душы застаўся след:
Тады не музыка іграла,
А, нарадзіўшыся на свет,
У стэпе жарабя заржала.
І знікла ўсё ў маіх вачах:
І людзі, і аркестр, і зала,
І я памчаўся ў доўгі шлях
На быстрых крылах аранзала
Туды, на бераг Ангары,
Дзе правады у паднябессі,
Як струны звонкія дамбры,
Удалеч свой напеў панеслі.
І, абудзіўшы край лясны,
З сваёю музыкай прывычнай,
Дзве рэйкі,
Быццам дзве струны,
Пяюць пад звонкай электрычкай.
А рытм у музыкі такі:
Здаецца, ў стэпе незаспаным
Загрукаталі малаткі
І закружыліся цюльпаны,
Пусціліся ў свой танец так,
З нябачным спрытам і са смакам;
І сэрца скача,
Як сайгак,
Што ў стэпе мчыцца за сайгакам.
Натхнёны,
слаўны,
дырыжор,
Як коннік, музыку прышпорыў,—
То ўзвіўся конь,
То як віхор
Памчаўся вольна
Па прасторы.
А ён каня ўсё гнаў і гнаў
Маленькай палачкаю спрытна,
Калі ж фінал амаль настаў,
Грымоты гулкія рассыпаў.
Як шабляй Гарадавікоў,

Ён палачкай на развітанне
Ўзмахнуў,— адчуў
І гром, і ржанне,
І стук адбойных малаткоў,
І песня —
Ўсё спыніла рух,
І сціхла раптам,
Песня спета.
Так, над зямлёй зрабіўшы круг,
Ляжыць зняме́лая ракета.
Апошні гук,
Апошні ўзмах,
Мы ўсхваляваныя стаялі.
Я быў ад радасці ў слязах.
Над нівай дождж ішоў...
У зале.



Хмельная, гарачая работа!
Быццам джала, вастрыё касы!
Узмакрэлі мы ад злога поту,
На траве ж ні кропелькі расы.

Неабдымная ты, стэпу глыба,
Можа, ўсё закончым гэтым днём.
Сонца усхадзілася, як рыба,
Б'е па спінах вогненным хвастом.

Спорыцца работа ўвачавідкі,
Сіла ёсць у мускулах тугіх.
І стаяць стагі, нібы кібіткі,
Гэткія выдатныя стагі.

Хопіць сена пахкага атарам,
Шчыравалі ж хлопцы — будзь здароў!
А няўжо нас напаткае старасць,
Камсамольцы даўніх тых гадоў?

Пра свае мы не шумелі справы,
А рабілі справу мы сваю:
Разбудзілі гэты стэп і травы,
Абнавілі родную зямлю.

Хлопчыкі, вам на пачатку веку,
З гордасцю, якой я не таю,
«Кніжку ўдарніка» як эстафету
Лёсу добрага перадаю!



## БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Аляксей Васільевіч Пысін нарадзіўся 20 сакавіка 1920 года ў вёсцы Высокі Борак Краснапольскага раёна ў сялянскай сям'і.

У 1937—1939 гг. вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі ў Мінску, скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1958).

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

Працаваў у рэдакцыях раённых газет, потым — у рэдакцыі газеты «Магілёўская праўда». З 1974 года — сакратар Магілёўскага аддзялення СП БССР.

Друкаваўся з 1938 года.

Аляксей Пысін — аўтар зборнікаў вершаў «Наш дзень» (1951), «Сіні ранак» (1959), «Сонечная паводка» (1962), «Мае мерыдыяны» (1965), «Твае далоні» (1967; Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы), «Пойма» (1968), «Да людзей ідучы» (1972), «Вярбовы мост» (1974), «Ёсць на свеце мой алень» (1978).

Выдаў зборнікі для дзяцей «Матылёчкі-матылі» (1962), «Вясёлка над плёсам» (1964), «Колькі сонцаў» (1974) і інш.

На беларускую мову пераклаў «Маабіцкі сшытак» М. Джаліля (1975; разам з С. Гаўрусёвым), «Жураўлі над стэпам» М. Ханінава (1977).

Памёр 27 жніўня 1981 года.



## ЗМЕСТ

### ПАЭМЫ



### ТВОРЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



### ПЕРАКЛАДЫ

*Муса Джаліль*

*З кнігі «Маабіцкі сшытак», 1975 г.*

*Міхаіл Ханінаў*
*Жураўлі над стэпам, 1977 г.*

**Пысін А.**

П 94 Збор твораў. У 2 т. Т. 2. Паэмы, творы для дзяцей, пераклады.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 254 с., [5] л. іл., партр.

ISBN 5-340-00307-8 (т. 2).

Пысин А. Собрание сочинений. В 2 т. Т. 2: Поэмы, произв. для детей, переводы.

У другі том Збору твораў увайшлі паэмы, творы для дзяцей і пераклады вершаў Мусы Джаліля і Міхаіла Ханінава.

п $\frac{4702120202-169}{М\ 302(03)-89}$ 100—89

ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

**Пысин Алексей Васильевич**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В 2-х ТОМАХ

**Том 2**

*Поэмы, произведения для детей, переводы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**Пысін Аляксей Васільевіч**

ЗБОР ТВОРАЎ У 2-х ТАМАХ

**Том 2**

*Паэмы, творы для дзяцей, пераклады*

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч.* Мастак *Н. М. Сустава.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *Л. М. Маслоўская.*

ІБ № 3136

Здадзена ў набор 18.01.89. Падп. да друку 01.08.89. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,44+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 16,28. Ул.-выд. арк. 13,19. Тыраж 4200 экз. Зак. 2184. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.